# ЗЬМЕСТ



Друкарня „БДВ". Заказ № 918. У ліку 3000 экз. Галоўлітбел № 781

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б

№ 1 | 15 студзеня 1930 г. | № 1



## АБ ЗАДАЧАХ ЧАСОПІСІ

Пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі краіны дае такія маштабы і тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва прамысловасьці і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, якіх сапраўды ніколі не бачыла гісторыя.

Разгортаваньне сацыялістычнага будаўніцтва, паступовы наступ сацыялістычных элемэнтаў па ўсяму фронту выклікае валічэзную палітычную і творчую актыўнасьць рабочае клясы і бядняцка-серадняцкай масы вёскі. З усяго гэтага вынікае неабходнасьць па новаму ставіць партыйна-масавую работу, усё гэта ставіць пытаньне аб зьмене формы і мэтадаў партыйнай работы. Шэраг новых вельмі складаных пытаньняў, як у галіне партыйнага будаўніцтва, так і ў галіне партыйнага кіраўніцтва, устаюць перад партыяй ўва ўсю шырыню ў сувязі з асаблівасьцямі рэканструкцыйнага пэрыяду. Партыйныя арганізацыі КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК праводзяць гэтую работу, але нам неабходна мець абагульваньне вопыту партыйнай работы ва ўсіх яе галінах, неабходна паказваць добрыя прыклады новых форм работы з мэтай перанясеньня гэтага вопыту на іншыя раённыя і акруговыя арганізацыі, нам неабходна з пункту погляду агульна-палітычных задач, якія стаяць перад партыяй тэорэтычна абагульваць увесь вопыт партыйнай работы.

Стварэньне часопісі, якая-басьвятляла пытаньня практыкі і тэорыі партыйнай работы, зьяўляецца адным з практычных мерапрыемстваў ЦК КП(б)Б па яшчэ большаму ўзмацненьню і паглыбленьню кіраўніцтва ўсёй партыйнай работы.

Выходзячы з гэтага, часопісь „Партыйны Работнік“ павінна быць арганізатарам і кіраўніком партыйнай думкі ў галіне партыйнага будаўніцтва, яна павінна прапрацоўваць праблемы парт. будаўніцтва і партыйнай работы па ўсіх галінах: арганізацыйнай, прапагандысцкай, масава-агітацыйнай, працы сярод жанчын, кіраўніцтва комсамолам і г. д. Часоіпсь павінна даваць кіруючыя паказаньні аб мэтадах і формах партыйнай работы, вучыць на добрых прыкладах партработы як належыць працаваць,

масьці адмаўленьня прымаць прадукцыйнаю жывёлу. Зараз-жа шырока разгарнуць працу, тэрмінова выехаўшы на месцы, па скарыстаньні сродкаў калгасаў і па збору сродкаў сярод насельніцтва на набыцьцё патрэбнай колькасьці жывёлы для ўсіх калгасаў. Калгассаюзы павінны ў першую чаргу выкарыстоўваць унутраныя магчымасьці для набыцьця прадукц. жывёлы, а ня ставіць выключную стаўку на крэдыт.

3. СНК даць паказаньні сельсаветам і РВК аб узмацненьні наізраньня за тым, каб гаспадаркі не прадавалі жывёлы, набытай за крэдытныя сродкі і якія яшчэ ня зьвернуты.

4. Наркамгандлю, фракцыям АВК і РВК рашуча ўзмацніць барацьбу з прыватнымі загатаўцелямі, з тыйным убоем і г. д.

# Аб камплектаваньні студэнтамі і пролетарызацыі прафтэхнічных установаў БССР у 1929-30 годзе

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 25-XI 29 г.)*

Заслухаўшы даклад НКА аб камлектаваньні студэнтамі і пралетарызацыі профтэхнічных установаў БССР у 1929—30 г. Сакратарыят ЦК канстатуе:

1. Стабілізацыю ў 1929—30 г. у параўнаньні з мінулым годам ліку падаўшых заявы для паступленьня ў профтэхнічныя навучальныя ўстановы (пры некаторым зьмяншэньні заяў ад сялян і павялічэньні ад рабочых), ня гледзячы на павялічэньне норм прыёму, што выклікала неабходнасьць дадатковай мобілізацыі рабочых. Разам з гэтым наглядаецца нізкая акадэмічная падрыхтаванасьць значнай колькасьці рабочых і сялян у параўнаньні з мінулым годам.

2. Такое становішча зьяўляецца вынікам неадпаведнасьці сыстэмы народнае асьветы ў пэўных яе зьвеньнях задачам падрыхтоўкі рабочых, батракоў і бяднейшых сялян для паступленьня іх у ВНУ. Калі гэта перашкода паслабляецца для рабочых организацыяй вячэрніх школ і курсаў для падрыхтоўкі у ВНУ, то для сялянства і гэтыя часовыя сурагатныя мерапрыемствы зусім адсутнічаюць. Наглядаецца абсалютны рост рабочых, жадаючых паступіць у ВНУ пры паніжэньні іх акадэмічнай падрыхтаванасьці і агульнае зьніжэньне ліку сялян пры яшчэ большай непадрыхтаванасьці.

3. Заданьне ЦК у адносіне да курыяльнай сыстэмы па курыі рабочых выканана з павялічэньнем, а па курыі сялян ёсьць значны недабор, чаму і маецца некаторае недавыкананьне агульнай нормы прыёму.

4. Вельмі нязначнае павялічэньне заяў ад рабочых і памяншэньне ад сялян па тэхнікумах (за выключэньнем пэдтэхнікумаў, дзе заявы ад сялян павялічыліся) і агульная стабілізацыя колькасьці падаўшых заявы для паступленьня ў тэхнікумы пры значным павялічэньні норм прыёму, што тлумачыцца разрывам паміж тэмпам разгортваньня профтэхнічнай асьветы і 7-годак, асабліва на вёсцы, дзе тэмп разгортваньня іх зусім нездавальняючы.

5. Зьмяншэньне ліку партыйцаў і нязначнае павялічэньне ліку камсамольцаў, а таксама некаторае зьмяншэньне ліку жанчын пры прыёме гэтага году, як у ВНУ, гэтак і ў тэхнікумах.

На падставе гэтага, Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе НКА наступнае:

1. Тэрмінова перагледзець сыстэму народнай асьветы, маючы на ўвазе забясьпечаньне пролетарызацыі ВНУ ў адпаведнасьці з пастановай Саюзнага ўраду аб адзінстве проф.-тэхнічнай асьветы.

2. Ухваліць мерапрыемствы, ужытыя НКА, Прэзыдыумам ЦСПСБ і Цэнтр. Бюро Пролетстуду аб адчыненьні падрыхтоўчых курсаў для паступленьня ў ВНУ і тэхнікумы рабочых, батракоў, бяднейшага сялянства і жанчын.

3. Лічыць неабходным да атрыманьня вынікаў рэорганізацыі сыстэмы народнае асьветы яшчэ больш пашырыць сетку існуючых вячэрніх рабфакаў, пачынаючы з наступнага навучальнага году, і ўкамплектаваць усе курсы вячэрніх рабфакаў, дапусьціўшы прыём на іх ня толькі рабочых, але і дзяцей рабочых.

4. У мэтах удасканаленьня пытаньня соцыяльных курый, прапанаваць НКА падаць проэкт правіл, рэгулюючых прыём у навучальныя ўстановы рабочых, сялян і іх дзяцей.

5. Пры прыёме ў наступным навучальным годзе сяброў партыі, якія будуць паступаць у ВНУ і тэхнікумы, прымаць іх па курыі рабочых.

6. У мэтах узмацненьня комсамольскага і партыйнага ядра ў ВНУ і тэхнікумах, асабліва пэдагогічных навучальных установах, прапанаваць акруговым камітэтам партыі і ЛКСМБ пры прыёме ў наступным навучальным годзе зрабіць мобілізацыю ня менш 300 партыйцаў і 1000 комсамольцаў.

7. Адзначаючы разрыў паміж процантам забясьпечаньня студэнтаў стыпэндыямі і процантам пролетарскага асяродку ў навучальных установах, што вядзе фактычна да значнага адсеву на працягу году і што яшчэ больш абумоўліваецца дрэннымі жыльлёвымі і бытавымі ўмовамі студэнцтва, прапанаваць СНК з будучага году забясьпечыць больш процант студэнтаў стыпэндыямі і палепшыць жыльлёвыя ўмовы.

8. Прапанаваць СНК забясьпечыць неабходнымі сродкамі организацыю ў будучым годзе курсаў для падрыхтоўкі ў ВНУ і тэхнікумы рабочых, батракоў і бяднейшага сялянства.

9. Лічыць неабходным пры разгортваньні 7-годак асабліва на вёсцы забясьпечыць уцягненьне ў іх батракоў, калгасьнікаў і бяднейшых сялян, для чаго прапанаваць СНК павялічыць водпуск сродкаў для забясьпечаньня беднаты.

10. Прапанаваць СНК організаваць у гэтым годзе курсы работніц для падрыхтоўкі на рабфакі на 90 чал.

11. НКА распрацаваць мерапрыемствы аб спэцыялізацыі рабфакаў і аб забесьпячэньні большага камплектаваньня ВНУ БССР канчаючымі рабфакі БССР.

Адказныя редактары: { О. Канакоцін. А. Гаруновіч.

# АГУЛЬНЫ АДДЗЕЛ

А. Танхілевіч

## За перабудову працы на прадпрыемствах

Эпоха бурнага ўзрастаньня і сацыялістычнай рэканструкцыі народнае гаспадаркі адзначаецца нябывалым уздымам актыўнасьці рабочых. Гэтая эпоха патрабуе насычэньня ўсей нашай працы *новым зьместам*, які забясьпечыў-бы мабілізацыю рабочых мас для выкананьня асноўных задач пэрыяду рэканструкцыі. Новы зьмест масавай працы ва ўмовах *узросшай* актыўнасьці мас патрабуе новых форм і мэтадаў масавай працы, і кіраўніцтва на прадпрыемстве. Калі мы гаворым аб перабудове працы на прадпрыёмстве, дык трэба падкрэсьліць праблему новага зьместу працы, а адгэтуль ставіцца пытаньне аб новых формах і мэтадах масавай працы і кіраўніцтва. Тое, што працу трэба перабудаваць, адчуваюць і востра шмат хто, яшчэ ня ўсе, ня гледзячы на гэта ўся але-ж наша праца ў значнай меры ідзе па старому, а час не чакае, першы квартал 29—30 гаспадарчага году заканчваецца.

### Ячэйкі тварам да вытворчасьці.

Адпраўным пунктам пры перабудове працы павінна быць канцэнтрацыя ўвагі і сіл усей рабочай масы і кіраўніцтва ячэйкі, фабкому і адміністрацыі па выкананьню вытворчых задач прадпрыемства. *Трэба павярнуць тварам да вытворчасьці кожнага рабочага, кожнага камуністага і камсамольца, усе кіруючыя арганізацыі прадпрыемства.* Канкрэтна, першачарговай задачай кожнай партыйнай ячэйкі, кожнай камсамольскай і прафэсыйнай арганізацыі на прадпрыемстве зьяўляецца мабілізацыя і арганізацыя мас вакол выкананьня вытворчай праграмы, прамфінпляну, *абавязкова выкананьня ўсіх заданьняў па падняцьцю вытворчасьці працы, зьніжэньня бабекошту, падвышэньня якасьці продукцыі.* Адзначым яшчэ: першы квартал новага гаспадарчага году скончыўся, вынікі яго ня зусім спрыяючыя. Перад намі паўстае задача дагнаць недагледжанае, яшчэ болей і перагнаць тыя наметкі, якія ў нас былі па гадавому пляну, тое што мы раней змаглі зрабіць за 12 месяц ў, тое цяпер нам трэба зрабіць за 9—10 месяцаў. Уся праца павінна быць накіравана на выконваньне гэтых новых каафіцыентаў, мы падкрэсьліваем *новых* каафіцыентаў таму, што і ў нас выкананьне *гадавога пляну* абавязкова, а часу мала, меней чым год. Канкрэтна, у чым жа павінна выявіцца перабудова працы? Ужо хутка скончыцца год, як хваля сацспаборніцтва б'ецца ў некаторых мясцох ў сьцяну дрэннага кіраўніцтва у галіне сацспаборніцтва мы маем велізарныя дасягненьні, а ці-ж ня факт, што сацспаборніцтвам мы да гэтага часу кіруем дрэнна, што кіраўніцтва сац-спаборніцтвам адстае ад *яго* размаху, што гэткае кіраўніцтва сац-спаборніцтвам ня здольна рэалізаваць для сац спаборніцтва ўсіх магчымасьцяў заложаных у спаборніцтве. Тое-ж самая, калі не горшае мы сустракаем у галіне кіраўніцтва працай ударных брыгад. Перабудова працы на прадпрыемстве павінна выявіцца перш за ўсё ў добрай арганізацыі разгортваньня сацспаборніцтва і працы ўдарных брыгад. Паварот парт-ячэйкі, камсамолу, праф-

арганізацыі і ўсіх рабочых тварам да вытворчасьці павінен выявіцца раней за ўсё ў іх актыўным удзельнічаньні ў сац-спаборніцтве, у працы ўдарных брыгад. Што трэба для гэтага зрабіць? Першае: трэба дабіцца, каб кожны рабочы зразумеў значэньне сац-спаборніцтва, для гэтага трэба змагацца сыстэматычна і ўпарта з хвасьцістскімі настроямі, з настроямі рвачэства, з апатыяй да патрэб і інтарэсаў вытворчасьці.

Прадугледжваем зараней спрэчкі некаторых таварышоў, быццам-бы гаварыць аб сац-спаборніцтве абрыдла, што рабочыя разумеюць значэньне сац-спаборніцтв. На гэта адказваем наступнае: ёсьць аб'ектыўны вымерыцель зробленай імі ў гэтых адносінах працы, здавальняючым гэткім аб'ектыўным вымерыцелям зьяўляецца ступень удзелу рабочых у сац-спаборніцтве, у ўдарных брыгадах, процант выкананьня ўзятых рабочымі на сябе абавязацельстваў. Тое, што прам-фінпляны за першы квартал выкананы нездавальняюча, зьяўляецца лепшым паказальнікам таго, што патрэбная праца яшчэ не праароблена.

## За канкрэтнае выразнае кіраўніцтва.

Перабудова працы заключаецца ў тым, каб уся наша праца на прадпрыемстве давала канкрэтныя (пэўныя) вынікі і таму стрыжням пры перабудове працы павінна быць яе канкрэтнасьць і рэальнасьць. Так, трэба каб кожны рабочы асобна і ўсе рабочыя на прадпрыемстве цалкам былі мабілізаваны для выкананьня пэўных заданьняў у галіне падвышэньня вытворчасьці працы, зьніжэньня сабекошту, павялічэньня выпуску прадукцыі і г. д., а для гэтага трэба ўсю працу пабудаваць па прынцыпу канкрэтных заданьняў, канкрэтных даручэньняў, канкрэтнага ўдзелу к о ж н а г а ў барацьбе за новыя паказальнікі. Растлумачым гэтыя палажэньні прыкладам. Праміну ў месяц, квартал, ячэйкі, рабочыя, прафарганізацыі павінны зараз-жа даведацца, якіх вынікаў мы дасягнулі. Для гэтага трэба арганізаваць праверку выкананьня прам-фінпланаў за мінулы квартал, пры чым мы асобна падкрэсьліваем, што на першае для гэтай праверкі павінны быць прыцягнуты рабочыя шляхам арганізацыі спэц-брыгад, па другое, гэтая праверка павінна прайсьці па асобным элементам (сабекошт, брак, выдаткі сыравіны і г. д.). Кожны камуністы, камсамолец, актыўны рабочы павінен атрымаць заданьне па праверцы выкананьня прамфінпляну. На тым вучастку працы, дзе ён асабіста працуе, усе майстры павінны быць прыцягнуты да гэтай працы; трэба высьветліць усе прычыны перашкаджаючыя выкананьню прамфінпляну. Ня цяжка ўбачыць, што гэткая масавая праверка выкананьня прамфінпляну, усіх яго элементаў карэнным вобразам зьменіць „твар“ працы ўсей ячэйкі. Што яшчэ патрэбна? Як на сходах рабочых, так і на вытворчых нарадах фабзавмясцкомаў, сходах парт-ячэйкі і ячэйкі камсамолу, таксама і на бюро партячэйкі трэба ставіць не агульныя даклады, а канкрэтныя пытаньні і вырашаць гэтыя пытаньні таксама канкрэтна.

Паўтараюся, патрэбны і агульныя даклады, але-ж цэнтр увагі павінен быць перанесеным на канкрэтнае кіраўніцтва, на канкрэтны аналіз становішча, на канкрэтныя дырэктывы.

> Перабудова работы ячэйкі „тварам да вытворчасьці“ абавязвае ячэйку: інакш падыйсьці да пытаньня аб характары нагрузкі камуністаў, трэба дабіцца таго, каб усе камуністыя былі-б ударнікамі, каб камуністыя прыймалі актыўны ўдзел у працы вытворчых нарад, ячэйка павінна кіраваць працай камуністаў на вытворчасьці і ўвесь час улічваць ступень удзелу камуністаў у працы па палепшаньні вытворчасьці.

Той факт, што да гэтага часу ячэйкі не завострывалі пытаньня аб удзелу камуністаў ва ўдарных брыгадах, завострываньне ўвагі ячэяк на гэту галіну працы і будзе зьяўляцца „краеугольным камнем“ перабудовы працы. З вышэй пададзенага выцякае яшчэ наступнае важнае палажэньне; да гэтага часу структура кіраўніцтва ячэйкі груба кажучы была гэткай:

Сэкратар ячэйкі, апорг, жанорг і ўсё. Для кіраваньня вытворчай працай нічога ня было, ці патрэбна арганізоўваць спэц-камісіі па гэтых пытаньнях, альбо мець спэц-працаўнікоў (мы ня кажам аб аплачваемым працаўніку). Т р э б а. У якую арганізацыйную форму гэта павінна перайсьці? Бюро альбо агульны

сход ячэйкі павінен па меры патрэбы даручаць асобным сябрам бюро і іншым таварышам, альбо ствараць спэц-брыгады для выкананьня асобных заданьняў у галіне вытворчасьці. Напрыклад, даручыць высьветліць ступень удзелу камуністаў ва ўдарных брыгадах і дапамагчы бюро ячэйкі зьдзейсьняць кантроль і кіраўніцтва ў гэтай галіне, у выніку ня цяжка зразумець, што важнейшым элемэнтам перабудовы працы зьяўляецца канкрэтызаванае кіраўніцтва, раз'ядананьне агульных задач на асобныя элементы і канкрэтнае кіраўніцтва асобнымі вучасткамі агульнай працы. Вось яшчэ адным з сур'ёзных элемэнтаў перабудовы працы зьяўляецца праверка выкананьня, самаправерка выкананьня магчыма толькі пры наяўнасьці канкрэтных дырэктыў і адказных за іх арганізацыю, таму так важна, каб усё кіраўніцтва правяралася ў канкрэтных дырэктывах і даручэньнях азначаным людзям. Сама праверка павінна быць арганізавана такім чынам, каб да яе былі прыцягнуты масы і каб рабочыя, сябры партыі ведалі аб яе выніках. Добрае праходжаньне сац-спаборніцтва дапушчае такую пастаноўку гаспадарчага, адміністрацыйнага і тэхнічнага кіраўніцтва і абслугоўваньня прадпрыемств цалком, усіх яго цэхаў і майстэрняў, якое забясьпечыла-бы магчымасьць выкананьня рабочымі ўзятых на сябе абавязацельстваў. Ячэйкі, фабзавмясцкомы павінны ўвесь час сачыць за тым, як ідзе справа ў гэтай галіне і адразу рэагаваць на ўсе недахопы. Вельмі важна хутка рэагаваньне на факты. Хутка: у гэтым уся справа новага тэмпу працы, спазьніўшыся на месяц мы ўжо тых вынікаў, якія мы мелі-б пры хуткім рэагаваньні, мець ня будзем. Ячэйка, фабком павінны працаваць хутка, дакладна.

## Усямерна разьвіваць рабочую ініцыятыву.

Пяройдзем да другога важнейшага элемэнту перабудовы нашае працы. Тут справа аб новых формах прыцягваньня рабочых да актыўнага ўдзелу ў кіраваньні дзяржаўнымі органамі да нагляду за працай гандлёвых арганізацый. Перш за ўсё трэба разгарнуць арганізацыю рабочых брыгад для нагляду за выкананьнем гэтымі арганізацыямі заданьняў. Дамо некалькі рознастайных прыкладаў. У фінорганах засталося шмат нядоімак, трэба прыцягнуць рабочых да праверкі наколькі палітыка фінорганаў правідловая, наколькі апарат фінорганаў забясьпечвае правядзеньне чоткай паступовай, цьвёрдай клясавай лініі, для гэтага трэба стварыць рабочыя брыгады з 10—20 асоб, можна і болей, добра праінструктаваць іх, даць ім вопытнага кіраўніка і потым праверыць як ідзе справа з ліквідаваньнем нядоімак. Дамо другі прыклад. Высьветлена, што процант абкладзеных індывідуальным падаткам недастатковы і што трэба яго павялічыць, для таго, каб праверыць, як была пастаўлена гэтая праца і для таго, каб дапамагчы выправіць недахопы, арганізуем брыгады з рабочых, батракоў, серадняков і выканаем гэтую працу. Трэці прыклад. Высьветлілася, што процант браку на прадпрыемстве вялікі, трэба вылучыць брыгаду для выяўленьня прычын браку. Адной з асноўных форм прыцягваньня рабочых да актыўнага ўдзелу як да выпраўленьня недахопаў, так і да дапамогі ў правядзеньні чарговых заданьняў зьяўляецца мэтад арганізацыі рабочых брыгад. Ня цяжка заўважыць, што гэта даволі сур'ёзная і складаная праца, дык трэба падабраць асоб, дабраахвотна якія згадзіліся правесьці гэтую працу, трэба іх добра праінструктаваць, трэба забясьпечыць кіраўніцтва гэтымі брыгадамі, забясьпечыць умовы для працы і ўрэшце забясьпечыць рэалізацыю прапаноў рабочых брыгад.

Апрача гэтага, трэба забясьпечыць сувязь паміж рабочымі брыгадамі і ўсімі рабочымі прадпрыемства. Для гэтага трэба, каб рабочыя абавязкова ведалі, чаму брыгада арганізавана, як яна працавала, што яна зрабіла. Зрабіць гэта можна шляхам пастаноўкі дакладу брыгады на агульным сходзе, шляхам справаздачы праз насьценную газэту альбо невялікай інфармацыі ў часе абедзеннага перапынку, альбо перад сэансам кіно. Наступнай новай формай сувязі рабочых з нашым дзяржаўным, кааперацыйным апаратам зьяўляецца шэфства рабочых над той ці другой часткай дзяржапарата. Напр., шэфства швэйнай фабрыкі над

Наркамгандлем; гэта зноў такі новая вельмі цікавая форма сувязі. Трэба пашырыць выкарыстоўваньне гэтай формы сувязі, шмат каго пужае недастаткова чоткае ўяўленьне канкрэтнасьці гэтай формы сувязі. Паспрабуем коратка пералічыць асноўныя задачы, якія патрэбна паставіць перад сабой, калі мы арганізуем такое шэфства. Перш за ўсё, мы падкрэсьліваем гэткае шэфства прадпрыемства над той ці іншай установай, павінна адбіваць узаемны характар, г. зн. абавязацельствы павінны ўзяць на сябе ўстановы ў адносінах да шэфа і наадварот.

Галоўнымі задачамі шэфства над установамі павінна быць наступнае: а) рабочыя прадпрыемства павінны ведаць становішча сваей падшэфнай установы, як яна выконвае тыя задачы, якія пастаўлены перад ёю, пляны працы ўстаноў і арганізацыю выкананьня плянаў, усё гэта рабочыя павінны ведаць як мага падрабязьней, трэба арганізаваць праверку рабочымі, наколькі правільна працуе гэтая ўстанова па ўсім лініям, перш за ўсё, наколькі там вытрымана клясавая лінія ў працы і наколькі яна выконвае тыя заданьні, якія на яе ўскладзены, далей мы павінны дабіцца такой пастаноўкі працы, калі прадпрыемства, рабочы калектыў дапамагае падшэфнай установе выканаць заданьні, напр. фіндздзелу сабраць нядоімкі, устанавіць норму падатку, Наркамзему забясьпечыць дастаўку сельска-гасп. машын, правесьці пасеўкампанію, для гэтага трэба скарыстаць сыстэму брыгад альбо даручаць асобным рабочым.

Рабочыя бяруць на сябе яшчэ раз абавязацельства выканаць дагавор па сацспаборніцтву.

Як арганізаваць гэтую працу? Патрэбны сыстэматычныя інформацыі рабочых аб становішчы падшэфнай установы, як на сходах у час перапынку, праз насьценгазэты, праз выпуск спэцыяльных дадаткаў да гэтых насьценгазэт, трэба сабраць думкі масы рабочых аб працы падшэфнай установы. Далей трэба вылучыць групу рабочых, якія павінны трымаць сувязь з падшэфнай арганізацыяй шляхам удзелу на паседжаньнях камісій, нарадах супрацоўнікаў, пры справаздачы падшэфных арганізацый у вышэйшых установах. Гэтая група павінна браць на сябе пэўныя заданьні па лініі дапамогі ў працы падшэфнай арганізацыі, напрыклад, Наркамгандаль, праверыць, як захоўваецца збожжа, хлеб, экспарт прадуктаў і г. д. Трэба выкарыстаць рабочыя брыгады для праверкі становішча апарату з пункту гледжаньня яго клясавага падбору, з пункту погляду забясьпечаньня правядзеньня клясавай лініі і ў прыватнасьці палітыкі нашае партыі. Гэткі ўдзел рабочых у працы падшэфных арганізацый будзе вельмі добрай школай для выхаваньня, для вывучкі новых сьвежых кадраў пралетараў для кіруючай працы, а нашы апараты ў гэтых новых кадрах маюць недахоп.

Урэшце хачу яшчэ раз падкрэсьліць наступнае важнае палажэньне для забясьпечаньня перабудовы працы. Становішча абавязвае нас дамагчыся вялізарнай чоткасьці ў працы, нам патрэбны **выканаўцы** заданьняў, патрэбны канкрэтныя тэрміны для выкананьня гэтых заданьняў. Прыклад, вярбоўка ў партыю, за гэтую важную працу ніхто канкрэтна не адказвае, ніхто канкрэтна ёю не займаецца, трэба пачаць практыкаваць дачу канкрэтных заданьняў канкрэтным асобам, а гэта значыць, што і ячэйкі і райкомы і акругкомы павінны так паставіць разьмеркаваньне ўсёй працы, каб канкрэтныя людзі адказвалі за выкананьне асобных заданьняў, таварышы будуць спрачацца аб тым, ці павялічваць штаты ці не, я за тое, каб не павялічваць іх, трэба больш дабраахвотнікаў, пастанову аб дабраахвотніках, аб апараце няплатным трэба ажыцьцявіць, да гэтага часу яна не ажыцьцёўлена. Тут магчымы тысячы камбінацый, чаму-б, напрыклад, на аднаго з сакратароў горацкага райкому не ўскласьці абавязак сыстэматычнага кіраўніцтва вярбоўкай у партыю па ўсёй акрузе, няма ніякіх перашкод, каб зрабіць так.

Далей адным з важных тормазаў у нашай працы зьяўляецца „заседательская суета“. Вялікая колькасьць сходаў, нарад, бяз пэўнай колькасьці паседжаньняў саветў нельга абыйсьціся, але-ж тое, што гэтыя паседжаньні трэба скарачаць, дык гэта зразумела, таму што траціцца і часу шмат і сродкаў, сродкам для гэтага зьяўляецца рашучае палепшаньне **тэхнікі** правядзеньня ўсёй гэтай працы.

На тэхніку паседжаньняў, сходаў у нас не зварочваюць ніякай увагі, паглядзеце на большасьць паседжаньняў, сходаў— гэта—мука. Тэмп працы на паседжаньнях і сходах павінен адпавядаць агульнаму тэмпу працы, у прыватнасьці мы хочам зьвярнуць увагу на неабходнасьць акуратнасьці, палова часу траціцца дарма, калі мы даб'емся зьнішчэньня гэтага канкрэтнага недахопу, тады мы ў два разы павялічым тэмп працы, гэта-ж вельмі неабходна.

Каб гэтага дасягнуць, трэба правесьці наступнае, па-першае, трэба больш асабістай адказнасьці, трэба спыніць захоўваньне бязумоўнай нявдольнасьці працаваць за сьпінай паседжаньняў, трэба прытрымлівацца рэгляманту, трэба меней гаварыць, у прыватнасьці трэба толькі гаварыць па прапановах, у 75 выпадках з сотні папярэдняе матывіроўка зусім не патрэбна, трэба падрыхтаваць рашэньні, урэшце патрэбны новыя формы працы. Мы не дарма зачапілі пытаньне аб паседжаньнях, таму што часта чуюцца галасы аб тым, што няма часу працаваць, усё паседжаньні, ды паседжаньні затрымліваюць тэмп працы—чуецца голас адусюль і ад усіх.

Урэшце новы зьмест працы патрабуе новых форм працы, новыя формы патрабуюць новай арганізацыі работы, палепшаньня якасьці кіраўніцтва.

Высокая патрэбная якасьць, масавасьць у працы, хуткі тэмп працы—вось што патрэбна нам.

Канкрэтныя формы ўжо ёсьць, трэба толькі, каб таварышы на мясцох іх выкарысталі і ўзяліся за адшуканьне яшчэ лепшых форм і праявілі ў гэтых адносінах сваю ўласную ініцыятыву.

◆

А. Гаруновіч

# ВЫПРАВІМ НЕДАХОПЫ НА ХАДУ

ЦК правеў выбарачнае абсьледваньне работы вытворчых ячэек у галіне вярбоўкі рабочых і рэгуляваньня сацыяльнага складу па Менскай і Бабруйскай акругах. Гэта абсьледваньне выкрыла цэлы шэраг буйнейшых недахопаў у рабоце ячэяк, якія трэба зараз-жа, безадкладна зьнішчыць.

### „Пытаньне росту другараднае“

Менавіта, такім чынам можна характарызаваць адносіны, увагу шмат якіх ячэяк да пытаньняў росту за кошт перадавых, прыкладных на вытворчасьці рабочых. Словы—„пытаньне росту другараднае“ належаць некаторым заводзкім актывістым, якія лічаць, што ёсьць яшчэ больш важная работа, чым вярбоўка рабочых у шэрагі партыі. І на гэтай падставе яны лічаць „пытаньне росту другарадным“. Гэтыя актывістыя не адзінкі. На фабрыцы абутку ў Менску была выказана накаторымі цэхавымі актывістымі такая думка—„Мы адчынілі дзьверы партыі. Хай ідуць“. У гэтым выпадку мы маем справу са сьвядомай стаўкай на самацёк, тут выяўляецца нежаданьне ўпартай, штодзённай работай дабіцца выкананьня дырэктыў партыі аб тым, каб у канцы 1930 году наша партыя складалася ня менш як на 50 проц. з рабочых на вытворчасьці. Да гэтага часу многія ячэйкі не вядуць штодзённай сыстэматычнай работы па вярбоўцы ў партыю. Возьмем такі прыклад, як кампанейскія мэтады вярбоўкі. Каляктыў заводу „Бальшавік“ на працягу амаль паўгодзьдзя вырас на 3 чал., а потым на працягу аднаго месяцу, у часе разрыву з Кітаем, вырас адразу на 39 чал. Пасьля такога параўнаўча вялікага прыёму ў адзін месяц, зноў наступіла зацішша. Ячэйка Віцебскай панчошнай фабрыкі імя К. Цэткін за гэты год вырасла на 30 чал., пры чым на працягу аднаго месяцу было прынята 15 новых сяброў партыі. Прыведзеных прыкладаў дастаткова, каб пераканацца ў існаваньні кампанійскіх мэтадаў вярбоўкі рабочых у партыю. А гэтыя прыклады можна было-б павялічыць у шмат разоў.

Найбольш адмоўна адбіваецца на рабоце па вярбоўцы няведаньне ячэйкамі, заводзкім партыйным актывам складу рабочых на прадпрыемстве, у цэху, зьмене, аддзяленьні. Такое зьявішча наглядаецца ў большасьці больш-менш буйных прадпрыемстваў. Адсюль некаторыя комуністы хочуць давесьці, што „ўсе магчымасьці вярбоўкі ў партыю ўжо вычарпаны“, альбо „за наступны квартал можна вырасьці на 3—4 чалавекі“. Зразумела, што, ня ведаючы твару рабочых прадпрыемстваў, нельга ўпэўнена і энергічна выконваць дырэктыву партыі аб росьце. Свае ўласныя слабасьці і недахопы нельга прыкрываць „плянавымі“ меркаваньнямі „аб росьце ў наступным квартале на 3—4 чалавекі“.

Адмоўна адбіваецца на росьце партыі практыка частых зачыненых сходаў ячэяк. Мы маем прыклады, калі каля паловы ўсіх сходаў ячэяк былі зачыненымі. Перадавыя рабочыя вельмі слаба прыцягваюцца на адчыненыя сходы ячэяк. Ячэйкі не вядуць сыстэматычнай працы па выяўленьні і вучоту беспартыйных рабочых, якія рэгулярна наведваюць партыйныя сходы і цікавяцца жыцьцём партыі, з тым, каб гэтых рабочых уцягваць у шэрагі партыі.

Як ячэйкі цікавяцца пытаньнямі росту?

На жаль мы павінны адзначыць, што яшчэ вельмі часта можна сустрэць ячэйку якая „наогул“ вырашае пытаньне росту. Напрыклад, на заводзе „Бальшавік“ пытаньні росту зусім „не стаялі на бюро калактыву, ці на агульным сходзе. Адзін раз абгаварвалася пытаньне аб росьце ў адным з цэхаў. Вынікі гэтага абгаварэньня вылiліся ў агульную рэзалюцыю“, якую можа прыняць кожны калактыў незалежна ад канкрэтных умоў і абставін. На гэтым-жа заводзе групавыя арганізатары не прыцягваліся к рабоце па вярбоўцы ў партыю. Мы паказалі завод „Бальшавік“ як прыклад „агульнага“ падыходу да пытаньняў росту. Гэты прыклад не адзінка. Нашы ячэйкі яшчэ не навучыліся канкрэтна, чотка вырашаць пытаньні росту, з аналізам прычын, якія тармозяць гэтую работу, з вычарпальнымі выразнымі дырэктывамі: каму, што і як прарабіць, каб справу росту партыі штурхануць уперад. Чым іншым тлумачыць такое зьявішча, калі нькаторыя ячэйкі ня маюць яснай практычнай праграмы, як падыйсьці да вярбоўкі, з чаго пачаць працу? Трэба рашуча адмовіцца ад агульных дэкляратыўных пастаноў аб росьце. Лінія па гэтых пытаньнях ў нас ёсьць. Яна выразна акрэсьлена ў пастановах лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) (1928 г.) і XII-га зьезду КП(б)Б аб чыстцы і росьце нашае партыі. Кожная ячэйка на аснове гэтай лініі павінна практычна; улічваючы асаблівасьці свайго прадпрыёмства вызначыць канкрэтныя меры па ўзмацненьню росту партыі.

**Аб спэцыяльных формах вярбоўкі і аб рабоце цэхарганізатараў у галіне росту**

Цікава, што ячэйкі, якія праводзілі спэцыяльныя формы вярбоўкі, маюць дадатныя вынікі ў сваёй вярбовачнай рабоце. Напрыклад, у некаторых ячэйках былі створаны гурткі па вывучэньні праграмы і статуту партыі, куды ўцягваліся лепшыя, кадравыя рабочыя. На заводзе „Камунар“ працаваў такі гурток. З 20 беспартыйных рабочых, якія наведвалі яго, з часам 16 чал. уступіла ў партыю. Вопыт другіх прадпрыемстваў цалкам сьцьвярджае мэтазгоднасьць такога роду спэцыяльных форм работы, бо яны падводзяць перадавіка-рабочага шчыльней да партыі.

Большасьць ячэяк не арганізавалі такіх гурткоў. Гутаркі з паасобнымі рабочымі прынятымі ў гэтым годзе ў партыю паказалі, што іх уступленьне ў партыю зьявілася вынікам агульнае нашае работы на прадпрыемствах. У справе падштурхваньня гэтых рабочых бліжэй да партыі, ячэйкі нічога спэцыяльна не рабілі. Гэта паказвае, што ячэйкі яшчэ не раскачаліся, не змаглі праявіць ініцыятыву па вышукваньню спэцыяльных форм вярбовачнай работы ўлічваючы асаблівыя ўмовы дадзенага прадпрыемства.

Што робяць цэхавыя, зьвенавыя і групавыя партарганізатары ў галіне вярбоўкі?

Мы вывучалі ўплыў арганізацыйнага пабудаваньня ячэяк на становішча работы па вярбоўцы ў партыю. З усёй сілай трэба падкрэсьліць, што пасьля рэарганізацыі буйных ячэяк у калактывы і пасьля стварэньня інстытуту цэхавых і зьвенавых арганізатараў работа ў цэху значна ажывілася. Але нізавыя зьвеньні партыі (арганізатары) часта зусім не прыцягваюцца да работы па вярбоўцы ў партыю. Прыклады:

> „Работай групавых арганізатараў ячэйка зусім ня кіруе за выключэньнем аднаго разу ні на агульным сходзе, ні на бюро не заслухоўваліся справаздачы групавых арганізатараў“ (малы рамонт ст. Менск МББ чыг.). „Цэхавыя партарганізатары сваю работу вядуць вельмі слаба“, „цэхавыя арганізатары патрэбны, але іх роля пакуль што заключаецца ў неабходнасьці аб'яшчаць аб сходах ячэйкі і ў выкананьні тэхнічных даручэньняў бюро ячэйкі“ (ф-ка „Адраджэньне“, заводы „Пролетары“ і „Дрэваапрацоўшчык“).

Такім чынам вопыт часткі прадпрыемстваў сьведчыць аб адсутнічаньні работы цэхавых арганізатараў наогул і асабліва ў напрамку вярбоўкі ў партыю.

## Аб рабоце з актывам і культурна-масавай рабоце.

Наколькі ячэйкі разгарнулі работу па ўцягненьню ў партыю беспартыйнага рабочага активу? З 23-х ячэяк абсьледваных па Менску, у 12-ці ячэйках работа з актывам кульгае на абедзьве нагі. Напрыклад:

> „Сыстэматычнай работы з актывам не вядзецца. Ячэйка нават ня ведае хто з беспартыйных актывістых наведвае адчыняныя партыйныя сходы“ (завод „Бальшавік“, хлебазавод, ф-ка Абутку). „Вучоту актыву няма. Спэцыяльнай работы з ім не вядзецца, асабліва з пункту гледжаньня ўцягненьня яго ў партыю“. „Ёсьць да 50 актывістых, але ячэйка ня ведае твару гэтых актывістых, яна не займалася іх вывучэньнем, ніякай работы па ўцягненьню ў партыю не вяла“. „Да гэтага часу работы з актывам не вялі. Лепшых на заметку ня ўзялі, каб уцягнуць іх у партыю. Новых актывістых не вывучалі“ (Меншвэй“, „Пролетары“, „Дрэваапрацоўшчык“, „Хімфармзавод“, Шчацінная ф-ка).

Такім чынам сыстэматычная работа, па ўцягненьні ў шэрагі партыі „прайшоўшых школу прафсаюзаў і пралетарскіх арганізацый наогул“ (пастанова партыі) па гэтай групе прадпрыемств не вядзецца. Ячэйкі павінны безадкладна ўлічыць усю важнасьць вярбовачнай работы сярод актывістых, якія на справе даказалі сваю адданасьць партыі, сацыялістычнаму будаўніцтву. Цэлыя пласты актыву ёсьць на заводах. Трэба толькі канкрэтна па дзелавому падыйсьці да работы з ім, як вынікі акажуцца самыя лепшыя.

Надта перашкаджае палепшаньню прытоку рабочых у партыю вельмі дрэнна пастаўленная ў шэрагу ячэяк культурна-масавая работа, работа па палітычнаму выхаваньню шырокіх мас рабочых. Возьмем палітычную падрыхтоўку прынятых у партыю ў гэтым годзе.

> „Большасьць прынятых слаба палітычна падрыхтаваны“. „Хаця прынятыя ўжо тры месяцы знаходзяцца ў шэрагах партыі, але ні статуту, ні праграмы партыі яны ня ведаюць. Спэцыяльнай работы, разьлі анай на іх узровень разьвіцьця, не вядзецца“. „Выхаваўчай работы з прынятымі калятыў ня вёў. Усе яны слаба разкбіраюцца ў політычных пытаньнях“. „Ня гледзячы на прасрочку кандыдацкага стажу, кандыдаты баяцца падаваць заявы аб пераводзе па прычынах сваёй палітычнай непадрыхтаванасьці“. „Кандыдаты партыі падоўгу сядзяць у кандыдатах баючыся падаваць заявы аб пераводзе каб ня „зрэзацца“ ў райкоме. Беспартыйныя рабочыя таксама часта не ўступаюць у партыю, баючыся „экзаменов“.

(Ячэйкі зав. „Бальшавік“, Хлебазавод, Меншвэй, Шчацінная ф-ка, ячэйка шляху ст. Менск МББ—таварная і г. д.).

Мы мелі выпадкі, калі адзінкі, уступіўшыя ў партыю ў гэтым годзе, падавалі заявы аб выхадзе з шэрагаў партыі таму, што з імі ніхто не займаўся, ніхто не клапаціўся аб падвышэньні іх палітычнага ўзроўню.

„На сходзе беспартыйнага актыву выявілася, што беспартыйныя рабочыя ня ідуць у партыю па прычыне слабай масавай работы сярод беспартыйных“ (ячэйка Дэпо ст. Менск МББ).

Усе гэтыя прыклады настолькі яскрава сьведчаць аб недахопах масавай работы, што няма патрэбы „агітаваць“ ячэйкі аб пасіленьні важнейшай галіны масавай работы. Заставацца пры такім становішчы ні ў якім разе немагчыма. Кожная ячэйка зара-ж павінна абмеркаваць захады да ўзьняцьця масавай работы, пачаўшы з уцягваньня рабочых у работу партшкол, гурткоў, клюбу, вытворчых нарад, наладзіўшы гутаркі па баявых пытаньнях палітычнага і гаспадарчага жыцьця краіны па цэхах і брыгадах. Нельга палепшыць вярбовачную работу без рашучага разгортваньня масавай работы.

## Камсамольцы і жанчыны слаба ўцягваюцца ў партыю.

Вярбоўха камсамольцаў—рабочых пастаўлена нездавальняюча. Па паасобных прадпрыемствах, за першыя 9 м-цаў 29 г. ня было прынята ніводнага камсамольца.

> „За апошні час з ячэйкі камсамолу ніхто ня прыняты ў партыю“. „Ячэйка камсамолу не дала ніводнага кандыдата партыі ў бягучым прыёме“.

(Завод. „Пролетары“ і „Хлебазавод“).

Можа сапраўды ня было каго ўцягваць у партыю на гэтых заводах? На заводзе „Пролетары“ налічваецца каля

90 рабочых-камсамольцаў. Партядро там не вялікае (каля 12 проц.). З такога ліку рабочых камсамольцаў было каго ўцягваць у шэрагі партыі, але там партыйнае кіраўніцтва і выхаваўчая работа стаяць на нізкім узроўні. Так, партпрымацованы да камсамольскай ячэйкі заявіў, што „ў мяне ёсьць сход партыйнай ячэйкі, а на вашы (гэта значыць—камсамольскія) сходы я хадзіць ня буду". Кепска зробіць партячэйка, калі яна не паклапаціцца аб здавальненьні жаданьня прымацаванага „не хадзіць на камсамольскія сходы".

Па шмат іншых прадпрыемствах, з камсамольскіх калектываў налічваючы больш сотні рабочых-камсамольцаў, былі прыняты ў партыю адзінкі. Тлумачыцца гэта адсутнічаньнем спэцыяльнай работы па падрыхтоўцы да перадачы ў партыю лепшых рабочых-камсамольцаў і ўсё яшчэ слабым парткіраўніцтвам камсамольскімі калектывамі непасрэдна на прадпрыемствах.

Рост за лік жанчын-работніц працягвае заставацца на нізкім узроўні. Па менскай арганізацыі ў ліку прынятых за першыя тры кварталы 1929 г. 1269 ч. жанчыны складаюць 178 ч. ці 14 проц. да агульнай колькасьці прынятых. Па Бабруйскай арганізацыі 14,7 проц.

Асноўныя прычыны слабага прытоку ў партыю жанчын-работніц захоўваюцца ў тым, што ячэйкі яшчэ не навучыліся прыстасоўваць сваёй работы да асаблівасьцяў бытавых умоў жанчын (месца, час сходу, заняткаў, іх характар, папулярнасьць выкладаньня і г. д.).

Вось прыклады слабай работы ячэяк сярод жанчын-работніц:

> „Жанчын на фабрыцы маецца 230 чалавек. Жаночага актыву нал чваецца 52 ч. і з усяе колькасьці работніц—толькі 5 чал. знаходзяцца ў шэрагах парты 41 ч. у камсамоле. Ячэйкай нічога ня зроблена па падрыхтоўцы жанчын да паступленьня ў партыю" (ф-ка „Адраджэньне") „На фабрыцы большасьць жанчын-работніц, а работа па ўцягненьню іх у партыю не вялася" (ф-ка „Прагрэс") „Калектыў сваю работу не прыстасоўвае да асаблівых умоў быту работніц. Жанработа не вядзецца. Існуюць настроі за ліквідацыю жанарганізатараў па той прычыне, што на фабрыцы 42 проц. работніц" (ф-ка Меншвэй).

Можна прывесьці яшчэ цэлы шэраг фактаў такога-ж парадку. Усе яны гавораць аб тым, што ў большасьці партыйных калектываў няма яшчэ пералому, каторы забясьпечыў-бы выкананьне дырэктыў партыі аб вярбоўцы работніц, шляхам прыстасаваньня да ўмоў іх быта і працы, форм і мэтадаў выхаваўчай і масавай работы.

Мы зараз не дамо „рэцэптаў", як палепшыць работу па вярбоўцы рабочых камсамольцаў і жанчын-работніц у шэрагі партыі. Няхай ячэйка возьме дырэктывы партыі, якіх было досыць, і канкрэтна праверыць, што ў яе ня выконваецца ў гэтай галіне і як трэба выправіць маючыяся недахопы.

## Аб якасьці прыёму.

У асноўным ячэйкі растуць за лік сапраўды перадавых, прыкладных на вытворчасьці, адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва кадравых рабочых. Але мы маем факты, калі асобныя ячэйкі надта няўважліва, павярхоўна падыходзяць да выкананьня важнейшых пастаноў партыі аб тым, каб

> „вярбаваць сапраўды перадавыя элемэнты рабочае клясы, здольныя ісьці ў авангардзе рабочых мас па практычнай перамозе цяжкасьцяў сацыялістычнага будаўніцтва, па адпору дробна-буржуазным ідэёвым хістаньням, па ўсямернаму ўзьняцьцю давер'я да партыі сярод усёй масы рабочых і працоўных вёскі. Нашай задачай зьяўляецца самым настойлівым і рашучым чынам уцягваць у партыю тых рабочых і работніц, каторыя... асабістым прыкладам садзейнічаюць узросту вытворчасьці і працоўнай дысцыпліны".

(Лістападаўскі пленум ЦК УсеКП(б) 1928 г.).

## Зьвернемся да фактаў.

„З апрошаных 8-мі чал., прынятых у гэтым годзе, 5 чал. да ўступленьня ў партыю ня мелі ніякіх грамадзкіх нагрузак. Палітычная падрыхтоўка уступіўшых у партыю нізкая. Адносіны да вытворчасьці з боку прынятых палепшыліся ўжо пасьля іх уступленьня ў партыю, але актыўнасьць іх у рабоце вытворчых нарад яшчэ недастатковая" (ячэйка Малога рамонту ст. Менск МББ чыгункі).

„Майстры заяўляюць, што прынятыя ў партыю ў гэтым годзе не зьяўляюцца прыкладнымі на вытворчасьці. З 11 чалавек прынятых 4 чал. маюць па вымове

за дрэнныя адносіны да вытворчасьці і адзін чал.—3 вымовы“ (ф-ка Абутку) быў прыняты камсамолец, які атрымаў 3 вымовы: 1) за недысцыплінаванасьць на вытворчасьці, 2) за зьдзекі над работніцай (завод Дрэваапрацоўшчык).

У частцы ячэяк Менскай і Бабруйскай арганізацыі было пэрсанальна апрошана 237 чалавек прынятых у партыю з 1/1 па 1/X-1929 года. Аказалася, што з ліку 237 чалавек прынятых, мелі за апошнія два гады 1) прагулы 37 чалавек, 2) адміністрацыйныя спагнаньні 26 чалавек, 3) прыцягвалася да партыйнай адказнасьці 13 чалавек. Аб ступені ўдзелу прынятых 237 чалавек у справе палепшаньня вытворчасьці гавораць наступныя лічбы: добра ўдзельнічаюць у жыцьці вытворчасьці, зьяўляюцца сапраўды перадавымі рабочымі 58 чал., 33 чал. нічым не адрозьніваюцца ад асноўнай масы рабочых па ступені ўдзелу ў вытворчай рабоце, гэта значыць, што яны не зьяўляюцца прыкладам для ўсіх рабочых, ня ідуць уперадзе іх. 75 чалавек амаль што ніякага удзелу ў вытворчай рабоце не прыймала і не прыймае.

Усе гэтыя дадзеныя паказваюць, што якасны адбор прыймаемых па абсьледаваных ячэйках яшчэ застаецца нездавальняючым. Інакш нельга тлумачыць таго факту, што сярод прынятых па частцы Менскіх ячэяк 197 чалавек, 70 чалавек маюць ня больш чым 5-цігадовы вытворчы стаж, што

> сярод прынятых параўнаўча вялікую долю займаюць прагульшчыкі, падлягаўшыся адміністрацыйным спагнаньням і людзі, якія зусім не зьяўляюцца прыкладам па ўдзелу ва ўздыме вытворчасьці для ўсіх рабочых.

Па кваліфікацыі мы маем такія дадзеныя, што значная маса прынятых прыпадае на групы некваліфікаваных і мала кваліфікаваных рабочых. Калі ўзяць дадзеныя аб разрадах, па якіх атрымоўваюць заробчую плату прынятыя ў гэтым годзе па 12 вытворчых ячэйках г. Менску, дык мы ўбачым такі малюнак:

| | | |
|---|---|---|
| па 1 му разраду | атрымлівае | 3 чал. |
| па 2-му | „ | 26 чал. |
| па 3-му | „ | 50 чал. |
| па 4-му | „ | 41 чал. |

і гэтак далей.

Па працоўнаму стажу з ліку 197 чал. па Менску толькі 62 чал. былі рабочымі да рэвалюцыі. Па 3-х вытворчых ячэйках г. Бабруйску з ліку прынятых 58 чал. толькі 19 чал. былі рабочымі да рэвалюцыі.

Па соцыяльнаму паходжаньню прынятыя па 12 вытворчых ячэйках г. Менску разьмяркоўваюцца наступным чынам:

1. З рабочых—134 чалавекі
2. З сялян—28 чалавек
3. З служачых, гандляроў, саматужнікаў і інш. 34 чал.

Матэрыялы 3-х буйных вытворчых ячэяк г. Бабруйску адзначаюць яшчэ большае пагоршаньне складу прынятых па соцыяльнаму паходжаньню. Там палова прынятых выхадцы з рабочых і палова з гандляроў, служачых і амаль саматужнікаў.

Асобныя ячэйкі ідуць па лініі найменшага супраціўленьня і прымаюць вытворчы маладняк, у той час як на прадпрыемствах маюцца старыя кадравыя рабочыя з дарэвалюцыйным вытворчым стажам. Вось гэтых рабочых, „залаты фонд“ пролетарыяту, ня ўсюды раскачалі для ўступленьня ў партыю.

Ячэйкі павінны зрабіць належныя вынікі з таго матар‘ялу, які мы падалі аб якасьці прыёму. Прымаць трэба ў поўнай суадпаведнасьлі з паказаньнямі Лістападаўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і XII-га зьезду КП(б)Б.

Ячэйкі павінны на ходу выправіць недахопы вярбовачнай работы.

В. Паўлавец

# Выканаем дырэктыву ЦК аб адзінаначальлі

## (На вопыце вытворчых ячэяк Менской акругі)

Бурны рост гаспадаркі патрабуе новага падыходу і ставіць перад кожным кіраўнікам, вытворчасьцю, новыя задачы. Яшчэ і зараз на вытворчасьці наглядаецца такое становішча, што шмат хто кірує, але ніхто не адказвае, за выкананьне прамфінпляну. Дырэктар спасылаецца на ячэйку ці заўком, якія яму перашкаджаюць, ці наадварот. Пры новых складаных задачах, якія цяпер стаяць перад вытворчасьцю, такое становішча недапушчальна. Патрэбна ўсёй сілай падкрэсьліць, што адзіначальле ва ўмовах пралетарскае дыктатуры прынцыпова нічога агульнага ня мае з адзіналічнай уладай фабрыканта, заводчыка, дырэктара ў капіталістычных прадпрыёмствах. Ленін гаворыць, што

> „...усякая буйная машына індустрыя—г. ё. іменна матар'альная вытворчая крыніца і фундамант соцыялізму,—патрабуе бязумоўнага і найстражэйшага адзінства волі, якая накіроўвае сумесную работу соцень, тысяч і дзесяткаў тысяч людзей. І тэхнічна, і эканамічна, і гісторычна неабходнасьць гэта відавочна і ўсімі хто марыў аб сацыялізьме заўсёды прызнавалася як яго ўмова. Але як можа быць забясьпечана стражайшае адзінства волі. Падначаленьнем волі тысяч волі аднаго.
>
> Гэта падначаленьне можа, пры ідэальнай сьвядомасьці і дысцыплінавасьці ўдзельнікаў агульнай работы, напомніць больш мяккае кіраўніцтва дэрыжора. Яно можа прымаць рэзкія формы дыктатарства, калі няма ідэальнай дысцыплінавасьці і сьвядомасьці. Але так ці інакш бяспярэчнае падначаленьне адзінай волі для посьпеху працэсаў работы, арганізаванай па тыпу буйнай машыннай індустрыі, бязумоўна неабходна".

Толькі правільна, па-ленінскі разумеючы задачу ўзьняцьця соцыялістычнае вытворчасьці, можна правесьці партыйную дырэктыву аб адзінаначальлі. Роля партыйнай ячэйкі ў правядзеньні дырэктывы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі вельмі вялікая. Некаторыя таварышы ўспрынялі пастанову аб адзінаначальлі, як абмежаваньне праў партыйных ячэяк ня вытворчасьці. Гэта ў корні няправільна. Вядома, партыйная ячэйка не павінна займацца вырашэньнем дробных пытаньняў, але не павінна вырашаць тое, што павінны вырашаць фабзаўком, ці адміністрацыя. Ячэйка не павінна падмяняць сабой фабком і дырэктара. Пастановаю аб адзінаначальлі партыйная ячэйка разгружаецца ад работ, якія яна выконвала за адміністрацыю і фабзаўкомам цяпер пры масавым вылучэньні рабочых, пры наліччы тысяч чырвоных дырэктароў, пры ўзьняцьці гаспадарчай і тэхнічнай кваліфікацыі вялікага слою рабочых, камуністых-кіраўнікоў савецкіх прадпрыемстваў, Драбязная апёка ячэяк становіцца лішняй. Пастанова аб адзінаначальлі ставіць перад парт. ячэйкаю вялікія палітычныя задачы. Ячэйка—палітычны кіраўнік прадпрыемства, яна праводзіць партыйную лінію, яна кірує фабрычна-завадзкімі, гаспадарчымі і дабраахвотнымі арганізацыямі, не падмяняючы іх у выкананьне бягучай работы. Партячэйка павінна сачыць за тым, каб дзейнасьць адміністрацыі, фабзаўкому адпавядала палітыцы партыі і асабліва ўважліва

ячэйка павінна сачыць за тым, каб настанова аб адзінаначальлі не ператварылася ў руках усякага роду бюракратаў у адмоўную шкодную справу. Ад палітычнай чуласьці парт. ячэйкі, ад яе палітычнага такту, залежыць, правядзеньне чоткай клясавай лініі аб адзінаначальлі на вытворчасьці. Парт. ячэйка павінна накіроўваць і сачыць за правядзеньнем у працы прадпрыемства, агульнай, прынцыповай лініі партыі. Кіраваць і палітычна выхоўваць масы, выхоўваць клясавую сьвядомасьць у новых рабочых, нядаўна прышоўшых на вытворчасьць, і сьвядомыя адносіны да інтарэсаў сацыялістычнай вытворчасьці, сапраўды ўнікаць, вывучаць, і кіраваць буйнымі палітычнымі і гаспадарчымі працэсамі, якія адбываюцца на вытворчасьці,—вось важнейшая задача ячэйкі. Правільнае і рашучае ажыцьцяўленьне пастановы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі будзе сьведчыць аб сьпеласьці палітычнага кіраўніка нашай вытворчасьці—парт. ячэйкі, аб яе здольнасьці хутка і вычарпальна праводзіць важнейшыя дырэктывы партыі. Аднак мы яшчэ гэтага ня маем у шэрагу парт. ячэяк. Калі ўзяць вопыт некаторых вытрорчых ячэяк Менскае вакругі, у якіх недастаткова разгорнута масавая работа сярод рабочай масы, дык там мы сустракаемся з такімі разважаньнямі сярод рабочых:

> „Нават дырэктар цяпер будзе гаспадаром фабрыкі ці завода, як было гэта раней, а фабком будзе ў адстаўцы“ (Шчацінная фабрыка), „Усёроўна калі ячэйка захоча што зрабіць, дык і зробіць, што тут адзінаначальле“! (завод Бальшавік), „Што яго праводзіць адзінаначальле“), „А ці ня будзе гэта зажым самакрытыкі, калі мы правядзем адзінаначальле на вытворчасьці“.

Некалькі прыкладаў, як ячэйкі падмянялі адміністрацыю: На заводзе „Энэргія“ сакратар ячэйкі самастойна зьняў рабочага з працы і паслаў у падшэфную вёску. Былі выпадкі, калі ў ячэйцы Вагонных майстэрань МББ чыгункі перавадзілі рабочага з аднаго месца на другое бяз ведама адміністрацыі. У Сьмілаўскім раёне сакратар ячэйкі разам са старшынёй рабачкому бяз ведама заг. саўгасу самастойна ставілі пытаньне аб дабаўцы пэнсыі работніцам. На жаль яшчэ да гэтага часу такіх прыкладаў маецца вельмі шмат. Возьмем Барысаўскі вытворчы раён, дзе ёсьць шмат фабрык і заводаў, і там да гэтага часу растлумачальная работа аб адзінаначальлі праводзілася слаба. Так на буйнай фабрыцы „Бярэзіна“, дзе працуе 1200 рабочых, і на заводзе імя „Домбаля“, дзе працуе 1250 рабочых і на іншых фабрыках, рабочыя аб пастанове ЦК ВКП(б) аб адзіначальлі ня ведаюць, кажучы: „Што гэта за пастанова, што мы нічога няведаем“. Характэрна, што нават некаторыя камуністы яшчэ не зразумелі гэтай пастановы, не даацэньваюць яе важнасьць. Майстар хромавага цэху заводу „Бальшавік“—сябра партыі тав. Аўчыньнікаў напісаў заметку ў газэту пад назваю „Нужно обождать“, у якой гаворыцца што:

> „Единоначалие мастера в цеху дает полную возможность руководить всем ходом производства. Но хорошо руководить и всю ответственность брать на себя тогда, когда все идет без заминок, нет перебоев, когда машины в исправности, когда отделение для работы свободно. При этих условиях знаешь, што выполнишь установленную программу. А у нас в хромовом цеху много таких „заминок“: теснота, ненормальности с сушкой, неблагополучие с машинами и т. д. Хотя для набивочного отделения строят помещение, но вот уже год проходит и никак не окончат. На мой взгляд, нам необходимо, в пределах возможности, добиться максимальной бесперебойности в производстве, а тогда вводить единоначалие“.

Гэта заметка гаворыць аб тым, што яе аўтар пытае застрахаваць сябе ад усялякіх „вытворчых няпрыемнасьцяў“, а потым ужо выконваць адзінаначальле. Заметка тав. Аўчыньнікава сьведчыць аб „трусьлівасьці“ аўтара, які хоча наперад наладзіць парады, а потым брацца за адзінаначальле, тут выплывае яўнае неразуменьне того, што адзінаначальле зьяўляецца згодным уздыму сацыялістычнай прамысловасьці, а не наадварот.

Зараз зьвернемся да добрых прыкладаў, дзе праведзена масавая, растлумачальная работа аб пастанове ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі, у выніку гэтай работы рабочыя адабраюць мерапрыемства партыі, заяўляючы:

> „Вось калі будзем ведаць, што трохкутнік разгранічыць свае функцыі. Гэта будзе лепш для вытворчасьці і пяцігодку выканаем у 4 гады“. „Ня будзе ячэйка і фабком умешвацца ня ў свае справы, а то была неразьбярыха; каго слухаць ці ячэйку, ці заўком, ці адміністратара“.

Некалькі прыкладаў з абгляду 19 ячэяк Кастрычнікавага раёну Менскай вакругі аб распрацоўцы пастановы ЦК УсеКПБ (б) аб адзінаначальлі. Папярэднія вынікі гэтай праверкі паказалі, што ў большасьці ячэяк постанова ЦК УсеКПБ аб адзінаначальлі не распрацована, не папулярызірава на сярод рабочай масы па заводах, фабрыках і цэхах. У сваей асноўнай масе рабочыя і работніцы амаль што зусім не знаёмы з задачамі і зьместам дырэктывы ЦК УсеКП (б). Некаторыя сакратары ячэяк не дааценілі вялікага значэньня пастановы ЦК аб адзінаначальлі. Толькі гэтым можна тлумачыць тое, што пастанова ЦК непапулярызавана, як належыць, сярод рабочай масы, ня гледзячы на тое, што гэта пастанова была апублікована тры месяцы назад.

Некаторыя ячэйкі КПБ, фабзаўкомы, мясцкомы і г. д. фармальна аднесьліся да гэтага пытаньня, у асобных выпадках зусім нічога ня робячы па практычнаму выкананьню дырэктыў аб адзінаначальнасьці. Падамо некалькі прыкладаў.

Бюро парткаляктыву Гарбарні „Бальшавік“ фармальна аднеслася да распрацоўкі пастановы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальнасьці. Растлумачыцельная работа была праведзена слаба. Пастанова ЦК распрацоўвалася толькі сярод членаў і кандыдатаў партыі. Рабочая-ж маса стаяла ў баку ад абгаварэньня пастановы. Ухваленая парткаляктывам пастанова па пытаньню аб адзінаначальнасьці носіць агульны характар.

Больш таго, гэта пастанова не даведзена да ведама цэхавых ячэяк. Бюро партыйнага каляктыву заводу „Энергія“ ня цікавіцца, як праходзіць прапрацоўка пастановы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальнасьці на цэхавых парт. ячэйках. Праўда, на заводзе некаторыя ячэйкі абмяркоўвалі гэта пытаньне, але яно праводзілася толькі на партыйных сходах. Па цэхах, сярод беспартыйных рабочых ніякай ратслумачальнай работы не праводзілася. Выключэньнем зьяўляецца толькі ячэйка мэханічнага цэху, дзе растлумачальная работа праведзена больш-менш добра. Пры праверцы выкананьня дырэктыў аб адзінаначальнасьці ў каляктыву заводу „Энэргія“ з боку асобных сакратароў цэхавых парт. ячэяк мелі месца спробы замазаць недахопы, былі факты „вочкаўцірацельства“. Так, сакратар ячэйкі ліцейнага цэху заявіў, што цэхавая ячэйка пытаньнем адзінаначальнасьці займалася здавальняюча, прапрацавала яго на агульным сходзе, правяла гутаркі сярод беспартыйных рабочых і г. д. Аднак пры больш дасканалай праверцы выявілася, што ячэйка гэтым пытаньнем амаль зусім не займалася. З такім „вочкаўцірацельствам“ патрэбна весьці жорсткую барацьбу.

Ячэйка КПБ заводу „Чырвоная зорка“ нават і ня меркавала прапрацоўваць пытаньне аб адзінаначальнасьці. Бюро парт. ячэйкі не дало ніякіх дырэктыў партыйцам і камсамольцам ячэйкі па гэтаму пытаньню. Сярод беспартыйных рабочых пастанова ЦК ВКП (б) аб адзінаначальлі не папулярызавана.

Бюро партячэйкі сл. Шляху ст. Менск, Пасажырская, адсутнічаньне работы па прапрацоўцы і папулярызацыі пастановы ЦК аб адзінаначальлі матывіруе тым, што няма вольнага часу, ячэйка і так перагружана іншай работай і г. д.

Партыйная ячэйка Вагонных майстэрань і сл. Эксплёатацыі ст. Менск пасажырская правялі шырокую растлумачальную работу па прапрацоўцы пастановы ЦК, але, на жаль, гэта работа праведзена толькі ўнутры ячэяк. Бюро ячэяк забылі аб патрэбнасьці папулярызаваць гэту пастанову сярод беспартыйных рабочых і работніц. Рабочая маса скардзіцца на тое, што ячэйка нічога не зрабіла па папулярызацыі і растлумачэньні адзінаначальнасьці. Некаторыя рабочыя нават ня ведаюць, што значыць слова „адзінаначальнасьць“.

На агульным сходзе ячэйкі КПБ калбаснай фабрыкі Белмясгандлю пры абмеркаваньні пытаньня аб адзінаначальнасьці, асобныя таварышы падалі канкрэтныя факты памылак і недахопаў у гэтым напрамку. На фабрыцы ня было разьмежаваньня функцый паміж адміністрацыяй, парт. ячэйкаю і прафэсыянальнымі арганізацыямі. Гэта прывяло да таго, што ў практычнай рабоце наглядаліся значныя перашкоды. На фабрыцы стварылася такое становішча, якое перашкаджала разьвіцьцю вытворчасьці. Адсутнасьць разьмежаваньня функцый прывяла да таго, што на фабрыцы стварыўся чатырохкутнік: адміністрацыя, партыйная ячэйка, старшы майстар і фабрычны камітэт. Нярэдка адміністрацыя ня мела

магчымасьці поўнасьцю праявіць ініцыятыву ў кіраўніцтве вытворчым жыцьцём фабрыкі. Наогул на фабрыцы ня было узгаднёнай кантактнай работы. Вельмі часта мерапрыемствы адміністрацыі рэзка разыходзіліся з мерапрыемствамі вытворчай камісіі, фабкому і ячэйкі. Усё гэта вельмі адбівалася на інтарэсах вытворчасьці. Паказальна, што ўсе партыйцы ячэйкі калбаснай фабрыкі аднадушна адзначалі сваечасовасьць і актуальнасьць пытаньня аб адзінаначальнасьці. Трэба спадзявацца, што партыйная ячэйка ад абмеркаваньня пяройдзе да практычнага ажыцьцяўленьня дырэктыў аб адзінаначальнасьці.

Некалькі слоў аб тым, як савецкія ячэйкі КП(б)Б прапрацавалі дырэктыву ЦК. Праверка, праведзеная Кастрычнікавым камітэтам партыі, паказала, што і савецкія ячэйкі ў радзе выпадкаў зусім не прапрацавалі гэтага пытаньня. Ячэйкі КПБ Наркамфіну БССР, Банкаўскіх установаў і тры партыйныя ячэйкі МЦРК зусім не прапрацавалі пастановы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальнасьці. Сакратар ячэйкі Наркамфіну нават заявіў, што дырэктыва аб адзінаначальнасьці „нас не датычыцца“.

Наогул, трэба адзначыць, што наўкола гэтага пытаньня яшчэ ня створана шырокая грамадзкая думка. Мясцовы друк, насьценгазэты, цэнтральная прэса Беларусі яшчэ не аддалі належнай увагі папулярызацыі пытаньня аб адзінаначальнасьці. На многіх прадпрыемствах і ва ўстановах не складаліся нарады рабкораў і насьценкораў па гэтым пытаньні, не арганізоўваліся брыгады для праверкі выкананьня дырэктыў аб адзінаначальнасьці. Нам трэба скарыстаць практыку рэдакцыі газэты „Праўда“, якая арганізавала „налет“ ударных брыгад на прадпрыемствы для праверкі выкананьня дырэктыў аб адзінаначальнасьці. Гэтыя брыгады выявілі цэльны рад недахопаў і памылак у працэсе распрацоўкі дырэктыў аб адзінаначальнасьці.

Нам трэба безадкладна выправіць усе недахопы і памылкі ў практычным правядзеньні дырэктыў аб адзінаначальнасьці, стварыць навакол гэтага пытаньня грамадзкую думку і мабілізаваць усю пралетарскую грамадзкасьць, каб поўнасьцю выканаць дырэктывы Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б). Канкрэтна, трэба безадкладна па ўсіх заводах і фабрыках у часе абедзеных перапынкаў і на сходах правесьці гутаркі значэньня адзінаначальнасьці.

Шырока папулярызаваць пытаньне аб адзінаначальнасьці, скарыстоўваючы масавую работу клюбаў, радыё, прыцягваючы да гэтай работы інжынэрна-тэхнічны пэрсанал і г. д.

Арганізаваць брыгады для праверкі выкананьня дырэктыў аб адзінаначальнасьці.

Праводзячы гэтыя мерапрыемствы, трэба разгарнуць шырокую работу па растлумачэньні прынцыпаў адзінаначальнасьці на вытворчасьці, правяраючы, як разьмяркоўваюцца функцыі трохкутніку данага прадпрыемства. Уся гэта работа павінна праводзіцца пад лёзунгам хутчэйшага і выразнага выкананьня дырэктывы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі.

С. Крэмер

# Работу сярод калгасьніц узьняць на вышэйшую ступень

Яшчэ Верасьнёўскі Пленум ЦК КП(б)Б па пытаньню аб выніках калгаснага і саўгаснага будаўніцтва і далейшых задачах адзначыў, што слаба пастаўленая работа сярод працоўных жанчын ужо на сёнешні дзень зьяўляецца перашкодай і тормазам далейшага разьвіцьця калгаснага руху і абавязаў усе партарганізацыя ўзьняць гэтую работу на вышэйшую ступень.

Гэтая пастанова Пленуму была прынята на падставе тых матар'ялаў, якія былі ў ЦК і якія сьведчаць аб тым, што кулацтва імкнецца выкарыстоўваць гэты адсталы вучастак нашай работы для барацьбы супроць калектывізацыі і іншых мерапрыемств партыі па сацыялістычнай перабудове вёскі.

Верасьнёўскі Пленум падкрэсьліў, што „па прычыне нізкага ўзроўню працоўных жанчын, кулацтва ў значнай меры вядзе праз іх барацьбу супроць калгаснага будаўніцтва.“ Цэлы шэраг фактаў пацьвярджаюць гэта. Кулак імкнецца выкарыстоўваць для сваёй агіднай работы ўсялякія кампаніі, усялякія сходы жанчын, асабліва гэта адчувалася пры правядзеньні дэлегацкіх сходаў. Перавыбарчая кампанія дэлегатак у гэтым годзе сустрэла вялікае супраціўленьне з боку кулака і прымала часта самыя абвостраныя формы клясавай барацьбы. Былі спробы зрываць сходы (Артукі, Гомель, Буравічы, Бабруйск і г. д.). Кулакі выступалі на сходах з цэлым арсеналам хлусьні супроць калектывізацыі, пужаючы бяднячак, ужываючы тэрорыстычныя дзеяньні.

У тых выпадках, калі іх кулацкая палітыка выкрывалася, яны білі бяднячак, былі і гэтакія выпадкі, калі разганялі сходы (вёскі Буйніч, Магілеў, Артукі, Гомель, вёска Мядовічы, вёска Андрыёўка, Мазыр і інш.).

Кулакам часта ўдавалася праводзіць праз жанчын сваю лінію і нават бывалі такія выпадкі, што паасобныя батрачкі і бяднячкі выступалі па кулацкіх тэзісах. Гэта ім удавалася таму, што партарганізацыі на мясцох часта недаацэньвалі сур'ёзнасьць работы сярод працоўных жанчын і неабходнасьць рашучага наступленьня на кулака на гэтым вучастку працы. Так, напрыклад, з Сіроцінскага раёну райжанорг гаварыў, што: „калі кулацтва праводзіць сваю лінію праз баб, ячэйкі ня бачаць гэтага, толькі гавораць: бабы ня хочуць ісьці ў калактыў.“ Партарганізацыя глыбей ня бачыць прычын і гэта палягчае кулаку праводзіць яго агідную работу. У розных раёнах Беларусі былі факты, калі па пытаньню арганізацыі калгасаў жанчыны выступалі супроць. Вось некаторыя прыклады: у Лупалаўскім раёне (Магілеў) арганізацыю калгаса амаль сарвалі жанчыны, галоўным чынам, удовы-бяднячкі, з прычыны таго, што іх падбухторылі кулакі. У Самахвалавіцкім раёне, вёска „Зарэчная“ сабралі сход каб прыняць статут калгасу і жанчыны сарвалі гэты сход таму, што поп сказаў, што ў калгасе ім прыдзецца быць агульнымі жонкамі. Наадварот, там, дзе была праведзена належная работа, бяднячкі давалі рашучы адпор кулакам, выступалі застрэльшчыкамі ў цэлым шэрагу мерапрыемств, якія праводзіліся партыяй, асабліва гэта наглядалася ў часе хлебазагадоўчай кампаніі. Так дэлегаткі-бяднячкі Моканьскага с.с.

хадзілі па кірмашы, выкрывалі спэкулянтаў хлебам і арганізавалі чырвоны абоз. А вось яшчэ прыклад: у Койданаўскім райёне пасёлак „Чырвоная Гара“ дэлегаткі першыя галасавалі за арганізацыю калгасу і актыўна вялі барацьбу з праціўнікамі калектывізацыі.

Вялікі зрух калгаснага будаўніцтва, які праходзіць на аснове ўздыму актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, у выніку рашучага наступленьня на кулака — нэпманскія элементы — паказаў, што і жанчыны, бядняцка-серадняцкія масы вёскі таксама давалі рашучы адпор спробам кулака перашкодзіць росту калектывізацыі.

Трэба адзначыць, што перавыбары дэлегатак у гэтым годзе паказалі, што мы дабіліся значнага пералому ў бок большага партыйнага кіраўніцтва кампаніяй перавыбараў, а таксама наогул да работы сярод жанчын. Аднак, шмат яшчэ застаецца прарываў у гэтым напрамку.

Маецца яшчэ цэлы шэраг фактаў, якія гавораць аб фармальным павярховым кіраўніцтве гэтай галінай партработы, калі гэтая работа ўскладаецца яшчэ выключна на жанорга і ён, не атрымліваючы дапамогі, ня гуртуючы вакол сябе актыву, круціцца „як белка ў калесе“ і ня можа абхапіць работы. На дадзеным этапе партыйнай работы на вёсцы ў сучасны момант хуткага разьвіцьця буйных калгасаў і раёнаў суцэльнай калектывізацыі аж да суцэльнай калектывізацыі акруг павінен быць зроблен рашучы пералом у парткіраўніцтве жанработай, асабліва ў калгасах.

У калгасах, асабліва ў больш буйных і ўноў арганізаваных работа сярод калгасьніц яшчэ зьяўляецца самым слабым вучасткам. Аб гэтым сьведчыць цэлы шэраг матар'ялаў. Гэта асабліва яскрава паказала Віцебская акруговая канфэрэнцыя калгасьніц, якая адбылася сёмага сьнежня 1929 году.

Што мы маем у калгасах? Жаночая праца ў калгасах вельмі кепска скарыстоўваецца, а калі скарыстоўваецца, дык галоўным чынам, на падсобнай, некваліфікаванай рабоце, ёсьць выпадкі, калі жанчыны атрымліваюць меншую аплату за роўную працу з мужчынамі.

У Магілеўскай акрузе правялі спэцыяльнае выбарчае абсьледаваньне выкарыстаньня жаночай працы ў калгасах, якое паказала, што сярэдняя нагрузка ў год мужчын складае 208 працдзён, а жанчын—148, пры чым галоўная нагрузка жанчын,— гэта работа на полі ўлетку, корм сьвіней і дойка кароў зімою. Асабліва кепска абстаіць справа з выкарыстаньнем працы жанчын у нацыянальных калгасах і, галоўным чынам, у яўрэйскіх. Там мы маем такія прыклады, як у таварыстве Лаўрыноўка, калі калгасьніца працуе ў год ня больш 45 дзён. Калгасьніца, якая займае пераважна большае мейсца ў калгасе, яшчэ слаба адчуваецца, як якасны ўдзельнік у працы калгасу, галоўным чынам, у справе падняцьця калгасу на вышэйшую ступень арганізацыі (упарадкаваньне быту, аб'яднаньні жывёлы і г. д.) і таму ў калгасьніцы часта назіраецца спажывецкі настрой да калгасу, малая зацікаўленасьць справай падняцьця вытворчасьці калгасу, палепшаньне працы ў ім і г. д. Кепска таксама абстаіць справа з аховай працы калгасьніц, з іх удзелам у грамадзкай працы, культвыхаваўчай працы, лікнепісьменнасьці.

Адным з момантаў, які перашкаджае ўдзелу калгасьніц у вытворчасьці грамадзкай працы калгасаў, гэта кепскія бытавыя ўмовы ў калгасах. Слабая сетка сталовак, прален, ясьляў і дзетсадоў. Па гэтай справе яшчэ недастаткова ўзьнята самадзейнасьць саміх калгасьніц і мала яшчэ маецца дапамогі ў гэтым напрамку з боку коопэрацыі і іншых арганізацый. Актыўнасьць калгасьніц яшчэ ня ўзбуджана і ў гэтым напрамку актыў, праўда, вельмі маленькі і слабенькі— яшчэ не праяўляе сваей ініцыятывы і самадзейнасьці.

Самым слабым месцам работы сярод калгасьніц зьяўляецца ўцягненьне батрачак і бядначак калгасьніц у партыю. Мы маем такія факты з асобных калгасаў: па 45 калгасах у Мазыры мы маем 131 камуніста з іх толькі 5 жанчын—4 проц анта; па Менскай акрузе ў 50 дасьледваных калгасах, мы маем 21 камуніста і ніводнай жанчыны. Справа ўцягненьня калгасьніц-бядначак, батрачак і лепшых серадначак у партыю павінна быць пастаўлена на належную вышыню.

У гэтым напрамку больш за ўсё трэба выкарыстоўваць дэлегацкія сходы, нарады актыву і г. д.

Дэлегацкія сходы існуюць у невялікім ліку калгасаў, праўда, у параўнаньні з мінулым годам мы павялічылі абхоп калгасьніц дэлегацкімі сходамі на вялікую колькасьць. У мінулым годзе было 1196 дэлегатак, абралі ў гэтым годзе 6.469 ч. Але-ж маецца шмат уноў арганізаваных калгасаў з вялікай колькасьцю насельніцтва, дзе маюцца нават і партячэйкі і дзе дэлегацкага сходу няма, і трэба яшчэ адзначыць, што ня ўсе дэлегацкія сходы, якія існуюць у калгасах, разгарнулі належным чынам сваю работу. Яны яшчэ ў вялікай сваёй частцы не зьяўляюцца тэй арганізаванай адзінкай, якая выкоўвае з калгасьніц актывістак, актыўных барацьбітоў за ўзьняцьце калгасаў на вышэйшую ступень. Мы яшчэ не дасягнулі таго, каб кожная калгасьніца беднячка, батрачка і серадн ячка стала барацьбітом за выразную клясавую лінію ў калгасе. А мы добра ведаем, што зараз абвастрылася клясавая барацьба і зьмяніліся яе формы ў калгасах (спроба пралязаньня кулака для разлажэньня калгасаў знутры, асабліва на глебе абагуленьня гаспадаркі, яе ўзбуйненьня, спробы правясьці гэтую барацьбу праз жанчыну сустракаюцца ня менш як вакол арганізацыі калгасу).

Праўда, ёсьць цэлы шэраг фактаў, якія гавораць аб тым, што клясавая сьвядомасьць асноўнай масы калгасьніц значна ўзьнялася. Аб гэтым гавораць выступленьні калгасьніц на канфэрэнцыі ў Віцебску. „Мы кулака ў калгас ня пусьцім“ прагонім кулака, які трымае камень за пазухай; „Узбуйнім калгасы, абагулім жывёлу і харчаваньне, каб шпарчэй ісьці наперад“. „Ня будзем слухаць кулака, які гаворыць, што вялікі кусок рот дзярэ“. Але-ж шмат яшчэ працы нападзе і на гэтым вучастку. Усё гэта гаворыць за тое, што трэба падцягнуць гэты вучастак працы. Мы рыхтуемся зараз да пасеўкампаніі, да перавыбараў праўленьня калгасаў. Тут партработа сярод бядняцка-серадняцкіх мас жанчын павінна стаць аднэй з галоўных задач у калгасным будаўніцтве.

Згодна пастановы Сакратарыяту ЦК непасрэдна ў калгасы будуць пасланы дзеля ўзмацненьня работы сярод жанчын з 1 студзеня 200 камуністак на паўтара месяца. Яны павінны будуць усе гэтыя пытаньні на мясцох узьняць, паставіць работу дэлегацкіх сходаў, праз актыў дабіцца ўзьняцьця работы ў калгасе сярод калгасьніц і апошніх уцягнуць у работу і пазакалгасу, сярод бядняцка-серадняцкіх мас сялянак па ўцягваньню іх у калгасы. Усё-ж аб адным трэба памятаць, што з Райкомаў і ячэяк адказнасьць за гэтую галіну партработы пасылкаю камуністак ніколькі не зьмяншаецца.

Мабілізацыю, якая праводзіцца сярод камуністак, трэба шырока скарыстаць для пастаноўкі сталай работы сярод калгасьніц. Аднак, ні ў якім разе не ўскладаць на мабілізаваных усіх мерапрыемств па ажыўленьню работы з калгасьніцамі, а прыцягнуць усю пралетарскую грамадзкасьць да ўдзелу ў гэтай рабоце.

Толькі тагды мы, сапраўды, здолеем выканаць дырэктыву Верасьнёўскага Пленуму аб значным пашырэньні і паглыбеньні сыстэматычнай работы сярод калгасьніць і бядняцка-серадняцкіх мас сялянак.

---

**Заўвага рэдакцыі.** Тав. Крэмер у сваім артыкуле закранула цэлы шэраг новых пытаньняў партыйнай работы сярод працоўных жанчын, у сувязі з разгортваньнем калгаснага руху.

Рэдакцыя зьвяртаецца з просьбай да сакратароў ячэяк, жаноргаў пісаць па пытаньнях, якія тав. Крэмер паставіла ў сваім артыкуле.



М. Лабадаеў

# ЗАМЕТКІ АБ МАСАВАЙ РАБОЦЕ

Масавая работа, зьяўляючыся магутным сродкам організацыі мас вакол важнейшых політычных задач партыі—на вялікі жаль знаходзіцца яшчэ ў нездавальняючым становішчы. Гэта трэба з усёй рашучасьцю адзначыць і падкрэсьліць. Па пытаньню аб палепшаньні масавай работы было ня мала партыйных пастаноў, намячаліся шляхі і мэтады карэннага палепшаньня масавай работы, але настойлівае і ўпартае выкананьне дырэктыў не знайшло свайго належнага адбітку ў рабоце партыйных арганізацый.

Возьмем некалькі больш важных пытаньняў масавай работы па Бабруйскай арганізацыі. Характарыстыка становішча асобных галін масавай работы па Бабруйшчыне у значнай меры зьяўляецца тыповай і для астатніх арганізацый.

Нам давялося ўважліва прагледзець характарыстыкі, якія даваліся Бабруйскім гаркомам, усім ячэйкам гарадзкой арганізацыі, у зьвязку з чысткай партыі. Характэрна, што на дзевяноста процантаў ва ўсіх характарыстыках адзначаецца слабасьцю масавай работы. У нас яшчэ ёсьць недавучот важнасьці масавай работы і неабходнасьці яе максымальнага паляпшэньня.

* * *

Што сабой азначае недавучот важнасьці масавай работы можна судзіць па наступнаму факту. Работа на Бабруйскім комбінаце пераведзена на бесьперапынны працоўны тыдзень. Гэта азначае ломку ўсяе сыстэмы работы на прадпрыемстве. Загадзя неабходна было правесьці вялікую падрыхтоўчую работу, прыстасаваць усю сыстэму работы масавых арганізацый да „бясьперапынкі"—між іншым гэтага ня было зроблена. Зараз, калі старая сыстэма аказалася нягоднай пры новых умовах работы, атрымалася „замінка". У зьвязку з пераходам на „бесьперапынку" ня была праведзяна належная масавая работа, ня было вучоту прапаноў аб тым, як працаваць пры новых умовах. Вурок комбінату трэба ўлічыць і забясьпечыць правядзеньне на ўсіх прадпрыемствах належнай масавай работы па пытаньнях бесьперапынкі.

Возьмем другое пытаньне. Нам вядома, што сыстэму масавай работы неабходна прыстасаваць да асобных груп рабочых і ў першую чаргу разгарнуць работу сярод новых кадраў рабочых. Між тым да гэтага часу работа яшчэ праводзіцца „наогул", не праводзіцца спэцыяльнай работы сярод новых кадраў рабочых. Ня ўлічваюцца спэцыфічныя ўмовы работы сярод новых рабочых, якія ўліваюцца ў прадпрыемствы.

У такой-жа меры хварэе на агульнасьць і слабую якасьць работа ў абедзены перапынак. З-пад увагі кіраўніцтва выпала і такая важнейшая работа, як абслугоўваньне масавымі мерапрыемствамі рабочых, якія жывуць у вёсках, на акраінах гараду і пасёлках.

Кідаецца ў вочы боязьнь ноўшастваў у масавай рабоце, трафарэт і аказёньваньне масавых мерапрыемстваў. Возьмем для прыкладу наступны факт. На ком-

бінаце была праведзена вялікая работа па заключэньню дагавору на сац. спаборніцтва з падшэфнай чырвонаармейскай часткаю. Дагавор папярэдня быў абгавораны на цэхавых сходах рабочых і ў заключэньне быў арганізаваны вечар, прысьвечаны сац. спаборніцтву. На вечары былі доўгія прамовы, даклад дырэктара комбінату аб кантрольных лічбах будаўніцтва комбінату на наступны год і толькі ў канцы, перад тэатральнай пастаноўкай, быў зачытаны дагавор аб сац. спаборніцтве.

Такім чынам дагавор, які павінен быў зьяўляцца цэнтральным пунктам вечару, быў змазаны. Гэта было заменена доўгімі прамовамі. Наогул мы яшчэ не навучыліся рабіць так, каб на падобных важнейшых вечарох концэнтраваць увагу рабочых на асноўных пытаньнях, падначаліць гэтаму асноўнаму і прамовы і належныя мастацкія пастаноўкі.

Аб слабой якасьці масавай работы можна судзіць яшчэ і па тым, што шмат у якіх ячэйках прапрацоўку пяцігодкі і кантрольных лічбаў, пастановы верасеньскага пленуму ЦК КП(б)Б уключылі ў агульныя даклады на адкрытых сходах партыйных ячэек. З прычыны таго, што сходы былі адкрытыя, многія не палічылі неабходным вясьці прапрацоўку гэтых пытаньняў сярод беспартыйных рабочых.

* * *

Некалькі слоў аб клюбнай рабоце. У клюбах павінна разгарнуцца ў значнай меры наша масавая мастацкая работа. Работа на вытворчасьці пачынае набываць ударны характар, разгортваецца магутная хваля соцыялістычнага спаборніцтва, зусім ясна, што і масавая мастацкая работа павінна набыць ударны характар, не адставаць ад тэмпаў будаўніцтва.

Нашу клюбную работу і ў першую чаргу, важнейшую частку яе—мастацкую работу, неабходна падначаліць задачам соцыялістычнага будаўніцтва, шчыльна і арганічна ўвязваць сваю работу з гэтымі задачамі. На справе—выходзіць тое, што клюбная работа далёка адстае ад соцыялістычнага будаўніцтва і па тэмпу і па якасьці свае работы.

Гэтае сьцьвярджэньне можа асабліва прасачыць на фактах бабруйскай сапраўднасьці.

Праўда, у зьвязку з чысткай партыі і савецкага апарату, якая зараз праводзіцца, клюбы ня маюць мажлівасьці разгарнуць масавую работу непасрэдна ў сваіх сьценах. Працаўнікі клюбаў скардзяцца на гэта, але яны не дадумаліся да такой простай справы, што ў зьвязку з такімі важнейшымі палітычнымі мерапрыемствамі як чыстка партыі і савецкага апарату неабходна і клюбам разгарнуць масавую работу, дапамагаць партыі мобілізаваць працоўных для актыўнага ўдзелу ў чыстцы.

Да гэтага часу перавага ў клюбах аддаецца драмгуртком, з ідэолёгічна бескаштоўным і нават шкодным рэпертуарам (асабліва ў яўрэйскіх драмгуртках), аддаецца перавага агульна-даступнаму кіно, з яго прыгодніцкімі трукамі.

Такая важнейшая кампанія, як перазаключэньне колдагавароў, пытаньні сац. спаборніцтва—не знайшлі свайго належнага адлюстраваньня ў клюбнай рабоце. Клюбы як-бы „пасварыліся“ з сучаснасьцю.

І зусім дзіка гучаць правільныя скаргі загадчыкаў клюбаў на тое, што імі ніхто ня кіруе, што акруговыя праўленьні саюзаў падыходзяць „спажывецкі“ да клюбаў („дай пастаноўку для вечару“), праўленьні клюбаў не працуюць, бо туды ячэйкамі вылучаюцца тыя партыйцы, каля прозьвішчаў якіх у сьпісках няма адзнак аб нагрузцы. Анэкдотычна атрымоўваецца, але гэта так, калі многія члены праўленьняў прыходзяць у клюб тады, калі там організоўваюцца кіно-сэансы, бо для „праўленцаў“ дармовы ўваход.

Клюбамі распараджаюцца ўсе, толькі не загадчыкі іх, бо загадчык фактычна ведае гаспадаркай, вакол клюбаў не арганізавана грамадзкасьць. Праўда ня віна, а бяда ў тым, што не хапае памяшканьняў і таму як правіла плянавыя мерапрыемствы клюбаў зрываюцца.

Вынік: неабходна рэзка і рашуча ставіць пытаньне аб перабудове клюбнай работы, організаваць наўкола клюбаў

пролетарскую грамадзкасьць, прыстасаваць работу клюбаў да сёнешніх задач соцыялістычнага будаўніцтва — дапамагчы клюбам зрабіць гэта. Трэба, каб у абгаварэньні клюбных плянаў удзельнічалі самі рабочыя, якіх клюбы абслугоўваюць. Бабруйскія таварышы гэтага не зрабілі.

* * *

Уся сыстэма масавай работы павінна садзейнічаць інтэрнацыянальнаму выхаваньню мас. У гэтай галіне ў Бабруйшчыне праведзена вялікая растлумачальная работа ў зьвязку з меўшымі раней месца антысэміцкімі вылазкамі (справа Баршай, Наймана і інш).

Аднак на сёняшні дзень забыліся пра адну „дробязь“— пра беларусізацыю. Масавая работа не беларусізавана, партыйныя пастановы па гэтаму пытаньню сьвядома ці несьвядома некаторымі ігнарыруюцца.

Напомнім, што ЦК КП(б)Б у сваёй пастанове аб стане беларусізацыі савецкага, гаспадарчага і профэсыянальнага апарату зазначае:

> „Ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы беларусізацыя зьяўляецца адным з асноўных сродкаў па ажыцьцяўленьні кіруючай ролі пролетарыяту да асноўных мас сялянства, была і застаецца нашай магутнай зброяй у змаганьні з беларускім нацыянал-дэмократызмам, расійскім і іншымі шавінізмамі“.

Гэтага многія таварышы ня ўлічылі.

Між тым падаваемыя ніжэй факты сьведчаць аб момантах пасыўнага і актыўнага супраціўленьня беларусізацыі.

Сярод некаторых рабочых - воднікаў існуюць думкі, што „все ученые люди учились сами, учат своих детей только на русском языке, как языке культурном“. Адсюль выступленьні супроць беларусізацыі. Адсутнічае работа па вывучэньню бел. мовы і пераводу ўсяе масавае работы на бел. мову на комбінаце. Ёсьць поўнае няведаньне беларускай мовы членамі партыі—выкладчыкамі грамадазнаўства. На сходзе комсамольскага актыву былі чутны галасы аб тым, каб дакладчык „говорил на русском языке“.

У ячэйцы гарсавету існуюць думкі, што вывучэньне беларускай мовы гэта справа працаўнікоў апарату.

Больш таго. У клюбе савгандльслужачых драмгурток катэгорычна адмовіўся ставіць пьесу на беларускай мове, аднак, дзякуючы нажыму загадчыка клюбам, пьесу паставілі, але папсавалі мову. У адказ на прапановы беларусізаваць работу клюбу, клубныя працаўнікі рашуча супярэчылі („чаму мы павінны быць застрэльшчыкамі, калі другія працуюць на расейскай мове“). Пры чым, у зьвязку з пастаноўкай пьесы на бел. мове, некаторыя члены драмгуртка вышлі з яго складу. На заняткі гуртка па вывучэньню белмовы зьявіліся толькі 2 чалавекі.

Масавая работа павінна мабілізаваць масы працоўных на выкананьне дырэктыў партыі па гэтаму пытаньню. Што-ж рабілі бабруйскія таварышы для таго, каб завастрыць увагу на гэтых конкрэтных фактах, выкрыць, хто хаваецца пад падобнымі фактычна дэмонстрацыйнымі выступленьнямі і рашуча паставіць пытаньне аб выкананьні партыйных дырэктыў па беларусізацыі? Нікога. Працаўнікі акругкому аб гэтых фактах даведаліся надта позна.

Такім чынам мы лішні раз упэўніліся ў няўменьні ў масавай рабоце ўлічваць важнейшыя факты, групаваць вакол зьнішчэньня падобных фактаў увагу партыйнай арганізацыі. Праўда, вышэйпададзеныя факты расейскага шовінізму і шовіністычных настрояў сьведчаць і аб слабасьці шырокай растлумачальнай работы вакол пытаньняў нац. політыкі, аднак пры ўмелай пастаноўцы масавай работы мы штурхалі-б уперад справу беларусізацыі шырокіх колаў рабочых.

* * *

Для большай паўнаты становішча масавай работы ў сэнсе яе адмоўных бакоў, трэба яшчэ адзначыць, што зусім у нездавальняючым становішчы знаходзіцца работа бібліатэк—кніга да масавага чытача яшчэ не дайшла, не разгорнута масавая работа бібліатэк, няма належнай дыферэнцыяцыі ў антырэлігійнай рабоце і яе сыстэматычнага пра-

вядзеньня. Гэтаму фронту культурнай работы належнай увагі не вызначаецца.

Ёсьць рэдкія пачынаньні ў адносінах вытворчай асьветы, а між тым на сёнешні дзень гэта пытаньне набывае выключную актуальнасьць. Такія жыцьцёвыя формы работы як групоргі, цэхоргі, індывідуалы, зьменоргі—не знайшлі сваё прымяненьне. Трэба проста сказаць, што новыя формы работы прывіваюцца надта слаба.

Мы знарок ня спыняемся на шэрагу пытаньняў масавай работы. Дзе-ж дасягненьні? Дадатныя бакі? Няўжо ўсё так дрэнна. Вядома, што ў масавай рабоце ёсьць і дасягненьні і вопыт. Але іх надта мала. Мы спыніліся на адмоўных бакох масавай работы для таго, каб лішні раз падкрэсьліць, у некаторай меры, катастрафічнасьць масавай работы. Вывад „тварам да масавай работы“: яе палепшаньне, вучот вопыту і яго распаўсюджаньне. Нам трэба ў масавай рабоце зьнішчыць адставаньне ад тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва. Зараз Гомельскі акругком арганізаваў некалькі брыгад для праверкі становішча масавай работы і дапамогі яе наладзіць. Гомельскаму прыкладу павінны паследаваць астатнія акругкомы, а гомельскія таварышы павінны падзяліцца вопытам сваёй работы на старонках „Партыйнага Работніка“.

Аб вопыце масавай работы і канкрэтных прапановах па яе паляпшэньню ў наступны раз.

С. Міцькоў

# Супроць разбазарваньня жывёлы

У шэрагу мейсц, асабліва у раёнах сплашной колектывізацыі, назіраецца звыш нармальны распродаж жывёлы бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі і значна павялічваецца ўбой жывёлы самім насельніцтвам для спажываньня.

Такое далёка ненармальнае становішча можна тлумачыць толькі тым, што нездавальняюча на мяйсцох разгорнута праца па растлумачэньню бядняцка-серадняцкаму насельніцтву ўсёй тэй шкоднасьці, якая робіцца самімі-ж бядняцка-серадняцкімі гаспадаркамі, якія нарачыта выкідаюць на рынак жывёлу зьбіраючыся ісьці ў калгасы. Не растлумачана як належыць насельніцтву неабходнасьці і карыснасьці для яго-ж самога ад поўнай здачы сваей маемасьці ў калгас і не растлумачан парадак, які існуе ў калгасах у адносінах абагуленьня маемасьці і г. д.

Гэта слабае мейсца—адсутнасьць належнай растлумачальнай масавай работы, пачаў выкарыстоўваць кулак у сваёй барацьбе супроць калгасу, супроць калгаснага руху. Кулацтва, не адмаўляючыся ад сваіх ранейшых мэтадаў і формаў барацьбы супроць калгаснага будаўніцтва, ухапілася яшчэ за адзін сродак. Кулакі пачалі мейсцамі агітаваць за ўваход беднякоў і серадн якоў у калгасы, але без маемасьці, бяз сродкаў вытворчасьці: „Што вы павядзеце сваіх дохлых каровак у калгас, якая з іх будзе карысьць, лепш прадавайце іх, а вам Савецкая ўлада дасьць лепшых". Такія „парады" ня рэдка можна чуць на вёсцы. Кулак добра разумее, што калі бядняцка-серадняцкія гаспадаркі будуць распрадаваць сваю маемасьць, а ня ўносіць яе ў калгас, гэтым самым будзе паслабляцца экономічная моц калгасу і магчымасьць найбольш хуткага гаспадарчага замацаваньня, а гэта як раз на карысьць кулаку.

Такая контррэволюцыйная кулацкая дзейнасьць ня сустрэла сваечасовага належнага адпору, ня была арганізавана барацьба супроць кулацкай агітацыі. Таму галоўным чынам мы і маем ня зусім нармальнае становішча на мясцох. Праўда, за апошні час партыйныя арганізацыі правялі некаторую працу, але яшчэ і зараз прыходзіцца чуць такія размовы некаторых беднякоў, а асабліва серадн якоў, якія рыхтуюцца ісьці ў калгасы:

„Трэба прадаць кароўку і купіць боты, бо як гэта ісьці ў калгас у лапцёх".

„Зараз такі час, што зьеў, знасіў, тое і тваё, бо ў калгасе ты ўжо не гаспадар" і г. д.

Кулацкая агітацыя, няведаньне тых парадкаў, якія існуюць у калгасах, адсутнасьць растлумачальнай працы, прымушаюць некаторых асабліва сялян серадн якоў страхаваць сябе на ўсякі выпадак. Лепш, кажуць некаторыя серадн які, няхай будзе лішні рубель у кішэні, чым прышоўшы ў калгас ня быць „гаспадаром над сваёй маемасьцю". Вось

чаму мы і маем такія выпадкі, что частка маемасьці пры ўваходзе ў калгас распрадаецца.

Такое ненармальнае зьявішча павінна быць як мага хутчэй зьліквідавана.

Кожная партячэйка і комсамольская ячэйка на вёсцы, кожны камуніст і камсамолец павінны добра ўявіць сабе і растлумачыць беднаце і серадняком усю шкоднасьць разбазарваньня жывёлы і іншай маемасьці пры ўваходзе ў калгасы.

Трэба шырока растлумачыць, што разбазарваньне жывёлы ідзе толькі на карысьць кулаком, кулакі, агітуючы за продаж жывёлы, самі-ж потым стараюцца яе скупліваць.

Асноўнае і галоўнае, што трэба зараз-жа рабіць, гэта шырока і сыстэматычна праводзіць растлумачальную працу сярод беднаты і сераднякоў аб шкоднасьці для саміх-жа бядняцка-серадняцкіх гаспадарак распрадаваць маемасьць. Кожны бядняк, кожны серадняк павінен ведаць, што чым больш будзе ўкладзена маемасьці ў калгас самім насельніцтва, тым хутчэй замацуецца калгас і палепшыцца экономічнае становішча калгасьніка. Дзяржава з свайго боку будзе рабіць большую дапамогу тым калгасам, якія зьбіраюць больш сваіх сродкаў, сябры якіх пры арганізацыі калгасу не прадавалі сваей маемасьці, а перадавалі ў калгас. Трэба шырока растлумачыць усім калгасьнікам, усяму бядняцка - серадняцкаму насельніцтву, што маемасьць, якая ўносіцца ў калгас, не адбіраецца, а залічваецца ў пай на ўклад тэй гаспадаркі, якая яе ўнясла. Гэта маемасьць па зробленай самімі калгасьнікамі ацэнцы будзе лічыцца на рахунку тэй гаспадаркі, якая ўнесла маемасьць.

Праз сходы беднаты, групы беднаты і агульныя бядняцка-серадняцкія сходы, праз насьценныя газэты—сыстэматычна з дня на дзень трэба тлумачыць шкоднасьць непатрэбнай распродажы маемасьці і неабходнасьць ісьці ў калгасы з усёй маемасьцю.

Неабходна рашуча выкрываць і вясьці барацьбу з кулацкай агітацыяй.

Кожная партыйная і камсамольская ячэйка павінна абгаварыць у сябе гэта пытаньне і арганізаваць барацьбу з разбазарваньнем маемасьці.

Распрадажа маемасьці асабліва назіраецца ў момант афармленьня—арганізацыі калгасу, таму, праводзячы растлумачальную работу ў час падрыхтоўчай працы, неабходна пасьля афармленьня паскорыць вучот і ацэнку маемасьці і шырока практыкаваць мэтад прыняцьця пастаноў сходамі калгасьнікаў аб забароне сябром калгасу ,бяз ведама і дазволу праўленьняў прадаваць маемасьць.

Разам з гэтым трэба рабіць усё магчымае, каб паскорыць абагульненьне прадукцыйнай жывёлы. Абагуліць жывёлу можна ня толькі ў старых калгасах, якія мелі ўжо абагулены пасеў. а і ў новых толькі што і зараз організуемых калгасах. Можна для агульнага хлеву скарыстаць лепшыя пуні калгасьнікаў, большыя хлявы і г. д. Корм можна сабраць і такім чынам да вясны можна ўжо мець абагуленае стада, а гэта значыць, забясьпечыць найбольш хуткае разьвіцьцё жывёлагадоўлі і спыніць канчаткова разбазарваньне.

Вясьці барацьбу з разбазарваньнем трэба ня толькі прадукцыйнай жывёлы, а і коняй, бо можа стацца так, што калгас ня зможа забясьпечыць сябе цяглавой сілай. Мы ня маем яшчэ такіх магчымасьцяў, каб забясьпечыць усе калгасы трактарамі, трэба выкарыстоўваць кожную сілу, якая маецца.

Пытаньню жывёлагадоўлі у саўгасах і калгасах неабходна адвесьці максымум увагі з боку кожнай вясковай партыйнай арганізацыі.

Між тым трэба проста сказаць, што да апошняга часу ня толькі нізавыя арганізацыі, а і шэраг акруговых і цэнтральных устаноў не ўразумелі яшчэ таго вялікага значэньня, якое мае жывёлагадоўля. Ня толькі у калгасах, а і ў саўгасах жывёлагадоўля знаходзіцца ў нездавальняючым становішчы. Надта дрэнна даглядаецца жывёла і малая колькасьць яе ў саўгасах і калгасах. У тэй час як у бягучым годзе неабходна загатаваць для саўгасаў і калгасаў каля 70.000 галоў, і ёсьць магчымасьць здавальняюча правесьці загатоўкі, праца гэта да апошняга часу праводзілася надта дрэнна. Напрыклад,

па Магілеўскай акрузе, дзе трэба загатаваць каля 6.000 галоў, загатавана толькі 230. Бадай у большасьці акруг і раёнаў вылучаныя спэцыяльныя камісіі для адбору лепшай жывёлы для саўгасаў і калгасаў у загатавіцельных арганізацыях бязьдзейнічаюць.

Усё гэта яшчэ раз гаворыць аб недастатковай увазе пытаньням жывёлагадоўлі.

Раённыя парт. арганізацыі, ячэйкі саўгасаў і калгасаў павінны праверыць, што робіцца ў справе загатоўкі патрэбнай колькасьці і якасьці жывёлы.

Гарадзкія парт. ячэйкі, шэфскія арганізацыі, арганізоўваючы дапамогу вясковым ячэйкам вясьці барацьбу з разбазарваньнем жывёлы, павінны ўстанавіць кантроль над тым, як праводзіцца адбор лепшай жывёлы для сацыялістычнага сэктару на гарадзкіх бойнях.

Максымум увагі пытаньням жывёлагадоўлі асабліва ў арганізацыйным сэктары с.-г.

# ХРОНІКА

## У АПАД ЦК КП(б)Б

### I

Апад ЦК КП(б)Б паслаў дырэктыўны ліст аб бібліотэчным паходзе. У лісьце між іншым адзначаецца, што „становішча бібліотэчнай справы трэба лічыць нездавальняючым, яна рэзка адстае ад культурных запатрабаваньняў мас рабочых і селян і задач сацыялістычнай рэконструкцыі гаспадаркі“.

У зьвязку з гэтым бібліотэчны паход, які пачаўся з 1-га лістапада 1929 г., набывае вялікую важнасьць.

Бібпаход ставіць сваёй задачай усямернае прасоўваньне кніжкі ў масы, разгортваньне грамадзкай работы бібліотэк, актывізацыю дарослага працоўнага чытача. Бібпаход павінен садзейнічаць вылучэньню новых кадраў на бібліотэчную работу.

Прапанована апа акружкомаў забясьпечыць кіраўніцтва бібл. паходам і работай па ачыстцы бібліотэк ад шкодных кніжак. Б. Дз. В. прыняць актыўны ўдзел у біб. паходзе і намечана яшчэ шэраг практычных мерапрыемстваў.

### II

Пасланы дырэктыўны ліст аб практычных мерапрыемствах па перабудове фізкультурнай работы ў профсаюзах, на аснове дырэктыў ЦК УсеКП(б).

Зараз праводзяцца перавыбары бюро гурткоў фізкультуры, акруговыя саюзныя і міжсаюзныя конфэрэнцыі.

У дырэктыўным лісьце адзначана:

„Перабудова фізкультурнай работы ў прафарганізацыях павінна праводзіцца пад лёзунгам падпарадкаваньня фізкультурнага руху задачам сацыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі і прыцягненьня ўсёй масы фізкультурнікаў да актыўнага ўдзелу ў грамадзка-палітычным жыцьці краіны і служыць мэтай найбольш шырокага прыцягненьня рабочай грамадзкасьці да ўдзелу ў будаўніцтве пролетарскай культуры“.

Намечана шырока популярызаваць пастанову ЦК УсеКП(б) аб фізкультурным руху, забясьпечыць найбольш шырокі ўдзел дарослых рабочых, а таксама рабочай моладзі ў перавыбарах гурткоў і конфэрэнцыях.

# ПРАКТЫКА МЕЙСЦ

Ш. Голанд

## За выразную клясавую лінію ў вёсцы*)

Да 1929 г. земляўпарадкаваньне, нягледзячы на даволі значнае яго разгортваньне (земляўпарадкавана па раёну 48 проц. усёй плошчы), не адыграла належнай ролі ў справе калектывізацыі сельскае гаспадаркі; земляўпарадкаваньне праводзілася выключна па лініі хутарызацыі і ўтварэньня дробных пасёлкаў (у сярэднім 12 гаспадарак у пасёлку, шмат пасёлкаў па 3—8 гаспадарак). За час з 1920 г. па 1928 г. ня было арганізавана ніводнага калгасу. Праведзенае ў канцы 1928 г. земляўпарадкаваньне дае наступны малюнак: былі ўтвораны 18 дробных пасёлкаў, 140 хутароў і 1 калгас.

Поўны малюнак сьвядомага скажэньня і скрыўленьня партыйнай лініі падкрэсьліваецца тым, што ўсе кулацкія гаспадаркі, індывідуальна абкладзеныя пры земляўпарадкаваньні, засталіся на мясцох, на агароднай глебе, а бядняцкія папалі на самую кепскую зямлю на далёкай адлегласьці; для адводу вачэй гэтым бядняцкім гаспадаркам давалі больш зямлі ў параўнаньні з той колькасьцю, якой яны карысталіся раней, але пры адсутнасьці цягавай сілы, інвэнтару і г. д. гэтая зямля натуральна імі не магла быць аброблена. Яркім прыкладам зьяўляецца ўпарадкаваньньне вёскі Андраны Даўгавіцкага с/с, якое было праведзена ў 1928 г.: шэраг беднякоў аслабанёных ад с/г падатку артымалі ў 2, 3, 4 разы больш зямлі, чымся яны мелі да ўпарадкаваньня (адзін нават атрымаў 30 дз. замест ранейшых, якія былі ў яго 5 дз.), але самай горшай і на далёкай адлегласьці, кулакі-ж, індывідуальна абкладзеныя па с/г падатку, атрымалі ад 10 да 15 *га* агароднай зямлі; нават пашы далі 12 *га* агароднай зямлі, папярэдня ўгадліва прыпісаўшы яму 4-х лішніх едакоў. Можна яшчэ прывесьці такія факты: на зямлі, перададзенай Дрыбінскім р., у 1928 годзе спэцыяльна для камуны „Расьвет“ насадзілі хутары; у вёсцы Быкава Асінаўскага с/с 17 *га* зямлі, якая юрыдычна належала бедняком з 1926 г., з-за цяганіны якую завялі з перадачай гэтай зямлі, знаходзілася ў карыстаньні кулакоў аж да 1929 г.; у Пячонкаўскім с/с надзялілі зямлёй былых абшарнікаў і іншых.

Пачынаючы з 1929 г. (пасьля зьмены райкіраўніцтва) райарганізацыяй прароблена значная праца па выпраўленьню дапушчаных раней скрыўленьняў парт. лініі, у выніку чаго маецца значны зрух у справе калектывізацыі; рэарганізаваны і ўзбуйнены раней існаваўшыя калгасы, арганізавана новых 14 калгасаў; на 25/X-29 г. у раёне ўжо існавала 21 калгас на плошчы 7500 *га*, што складае 21,5 проц. усёй зямельнай плошчы раёну, 337 *га* ў сярэднім на 1 калгас. Зарганізаваных і земляўпарадкаваных у 1929 г. калгасаў—адзін калгас на 1100 *га*, другі на 820 *га*.; адзін с/с (Пячкаўскі) калектывізаваны і ўпарадкаваны цалкам.

Трэба адзначыць, што з прычыны адсутнасьці ўвагі парт. арганізацый мелі мейсца факты пранікнавеньня ўкалгасы (нават нанова арганізаваныя ў апошні

---

*) Артыкул напісан на падставе абсьледваньня Расьнянскага РК КП(б)Б у кастрычніку м-цу 1929 г.

год) кулацкіх і антысавецкіх элемэнтаў; у некаторых старых калгасах гэтыя элемэнты нават стаялі на чале і вялі палітыку раскладаньня калгасаў знутры. Характэрна, што да апошняга часу кулацкі элемэнт пастулаў у калгасы без супраціўленьня з боку як партскладу калгасу, так і парт. ячэйкі, у той час, як батракі і бедпякі пры ўступленьні ў калгас сустракалі (часткова і зараз сустракаюць) казённа-бюракратычны падыход. І толькі ў самы апошні час раённыя ўстановы прынялі меры да рашучай ачысткі калгасаў ад кулацка-антысавецкага элемэнту.

Абслугоўваньне калгасаў з боку акруговых і раённых устаноў, асабліва АКРЗА і Калгассаюзу зусім недастатковае. АКРЗА ня выконвае сваіх плянаў па мэліорацыі; нічога ня зроблена ў сэнсе агранамічнага абслугоўваньня, у раёне ўсяго 2 аграномы, якія ня маюць магчымасьці ўдзяліць належнай увагі калгасам. Землеўпарадкаваньне адстае ад калгаснага руху, да гэтага часу 8 калгасаў (з агульнага ліку 21) яшчэ не ўпарадкаваны.—Таксама з боку Калгассаюзу інструктаваньне калгасаў зусім слабае, інструктары наведваюць калгасы 1—2 разы ў год. Раённая парт. арганізацыя і асабліва парт. ячэйкі да апошняга часу не перабудавалі сваю працу ў адпаведнасьці з калякты̆ўным рухам, які ўсё болей разгортваецца. Ячэйкі не працавалі стала пытаньні калектывізацыі, не мабілізавалі вакол іх думку батрацтва і бедняты і не зьяўляліся да апошняга часу ініцыятарамі ў справе арганізацыі калгасаў. Парт. работы ў саміх калгасах да апошняга часу амаль зусім ня было: існавала толькі адна ячэйка пры камуне „Пахар“, да і тая ніякай працы амаль не праводзіла; за 7 год свайго існаваньня ячэйка ня вырасла. Толькі за апошні час РК КПБ прадпрыняў некаторыя мерапрыемствы па ўзмацненьню парт. работы ў калгасах: арганізаваны дзьве новыя ячэйкі і адна кандыдацкая група пры калгасе, прымацаваны адказныя працаўнікі да ячэек, арганізаваны тры паліт. гурткі, АПШ, 5 дэлегацкіх сходаў і інш. РК КПБ паставіў рашуча пытаньне аб уступленьні ўсіх камуністаў, якія маюць сельскую гаспадарку, у калектывы. Зараз ужо ўступілі ў калгасы каля паловы ўсіх камуністаў, якія маюць у раёне сваю гаспадарку.

Патрэбна адзначыць, што з боку паасобных камуністаў праяўляецца нежаданьне ўступаць у калгас; маюцца таксама моманты, калі камуністыя фармальна запісваюцца ў калгас, без сям'і, маючы на мэце застацца „верным“ партдырэктывам і ў той час захаваць сваю ўласную гаспадарку.

Некаторы зрух у апошні час маецца ў справе культурнага абслугоўваньня калгасаў (установа радыё, адчыненьне ясель, амаль поўны абхоп дзяцей калгасьнікаў пачатковай і сямігадовай школай і інш.)

У выніку недастатковага абслугоўваньня калгасу, наглядаецца шэраг буйных недахопаў у іх. Да сучаснага моманту не ва ўсіх калгасах прайшоў працэс унутранага абслугоўваньня. Нават у некаторых камунах, якія даўно ўжо існуюць, ня ўсё абагулена.

Так, напрыклад, у камуне „Пахар“ члены камуны выяжджаюць у поле на работу абавязкова з „сваім канём“, „сваім плугам“: сьвіньні да гэтага году нават фармальна ня былі абагулены, у выніку чаго ў некаторых членаў камуны заявілася „накапленьне“, што вядзе да разьвіцьця індывідуальных тэндэнцый і выклікае недарэчнасьці паміж членамі камуны.

У большасьці калгасаў вытворчыя пляны альбо зусім адсутнічаюць, альбо не праводзяцца ў жыцьцё. Зусім кепска пастаўлен вучот ураджаю, нават няма вучоту абмалоту. Разьвіцьцё жывёлагадоўлі да апошняга часу не займала належнай увагі, ня гледзячы на спрыяючыя ўмовы (добрае разьвіцьцё травасеяньня, налічча лішкаў сена і г. д.). З рук вон дрэнна пастаўлен вучот працы і заробку: па цэлых 6 месяцаў не запісваецца праца і заробак членаў калгасаў (дзе перайшлі да цьвёрдай аплаты), на падставе чаго маюцца правільныя нараканьні членаў калгасаў, якія кажуць: „мы ня ведаем якое ў нас становішча, ці хопіць заробку на пакрыцьцё выдаткаў“. Зусім дрэнна пастаўлена будаўніцтва ў калгасах, у прыватнасьці жыльлёвае: будаўніцтва праходзіць стыхійна бясплянава, будуюцца памяшканьні, якія не адпавядаюць намечаным плянам і стварэньню належных культурна-бытавых умоў.

Адным з буйнейшых недахопаў зьяўляецца адсутнасьць належнай працы па ўцягненьню масы калгасьнікаў у справу практычнага ўдзелу ў вырашэньні ўсіх пытаньняў жыцьця і будаўніцтва калгасаў. Вытворчыя нарады ў калгасах адсутнічаюць. Сацспаборніцтва носіць фармальны характар, маса калгасьнікаў у заключэньні ўмоў ня ўдзельнічала, нічога ня робіцца для ажыцьцяўленьня і праверкі выкананьня сац. умоў.

У зьвязку з шпаркім ростам калектывізацыі, вакол яе разгортваецца абвостраная клясавая барацьба.—Кулацтва і і антысавецкі элемэнт вядуць агітацыю супроць калектывізацыі, імкнуцца скарыстаць малейшыя недахопы ў калгасах для агітацыі супроць калектывізацыі. Так, напрыклад, пераход на цьвёрдую аплату працы ў калгасах, дзякуючы дрэннай пастаноўцы, кулацтва скарыстоўвае для агітацыі супроць калгасаў і запалохваньня калгасьнікаў; сярод бядняцка-серадняцкага насельніцтва кулацтва вядзе агітацыю, што „камунары хутка з торбай пойдуць“, „загналі ў мяшок і хутка завяжуць“, распаўсюджвае чуткі, што нібыта ў калгасах бьюцца, што „па калгаснаму статуту жонкі таксама абагульваюцца“, што „камуністыя заганяюць у калгас з мэтай панаваньня за кошт сялян“ і г. д.

> Сваю барацьбу супроць калгасаў кулак не абмяжоўвае агітацыяй. У шэрагу месц кулакі і антысавецкія элемэнты імкнуцца пранікнуць у калгасы, нават захопваюць ініцыятыву арганізацыі калгасаў у свае рукі, каб скарыстаць калгасы ў сваіх уласных інтарэсах, раскладаць калгасы знутры і дыскрэдытаваць калектывізацыю ў вачох насельніцтва.

Так, напрыклад, у камуне „Маяк“ доўгі час верхаводзілі былы абшарнік і былы жандар, якія давялі камуну „да нітачкі“ (як кажуць члены камуны). У шэрагу старых калгасаў, пранікшыя кулацкія і антысавецкія элемэнты, з мэтай разбурэньня калектываў, вялі агітацыю супроць разгортваньня будаўніцтва ў калгасах, у выніку чаго яшчэ і зараз у некаторых калгасах існуюць боязьнь браць крэдыты на будаўніцтва, настроі, што браць крэдыты для будовы не патрэбна, што гэта лішняя абуза, выказваюцца думкі, што „калі-б хто прыехаў ды пабудаваў, мы-б ня супярэчылі, але самім будаваць страшна“. Ёсьць моманты, калі члены калгасаў самі агітуюць супроць калектывізацыі, распаўсюджваюць чуткі, што „хутка калгасьнікі з голаду паміраць будуць, бо забіраюць увесь хлеб і сьвіней“. Ёсьць выпадкі, што праўленцы калгасаў імкнуліся ўтойваць ураджайнасьць, адмаўляліся ад арганізацыі эшалёну бульбы для рабочых Ленінграду і г. д.

Там, дзе кулацтва агітацыяй нічога ня можа дабіцца, яно прыбягае да мэтадаў непасрэднага тэрарызаваньня калгасьнікаў. Так, напрыклад, калі кулакам і падкулачнікам не ўдалося разбурыць САЗ у вёсцы Чыгрынаўцы, апошняе, дзякуючы належнай працы РК і РВК, напоўнена беднякамі і пераведзена нават на статут арцелі. Кулакі зарэзалі арцельнага каня. Бедняку, які запісаўся ў калгас, які будучы сторажам кооперацыі, выпякаў хлеб для мясцовых хутаран, кулакі і падкулачнікі аб'явілі байкот, адмаўляюць яму выпякаць хлеб, у выніку чаго ён прымушан быў прасіць, каб захоўвалі яго ўступленьне ў калгас у тайне, покуль калгас канчаткова не аформіцца.

Трэба адзначыць, што агітацыя кулака не заўсёды сустракае належны адпор з боку парт. арганізацый. У некаторых мейсцах пад уплывам кулацкай агітацыі некаторыя падаюць заявы аб выхадзе з нядаўна арганізаваных калгасаў.—Але гэта толькі паасобныя выпадкі. У большасьці кулацкая агітацыя посьпеху ня мае, аб чым сьведчыць шпаркі рост цягі да калектывізацыі, які назіраецца за апошні час ня толькі сярод батрацтва, беднаты, але і сярод шырокай масы серадняцтва.

# Бедната дрэнна арганізавана ў Расьнянскім раёне

Сходы беднаты ў Расьнянскім раёне праводзяцца не рэгулярна, выключна па пытаньнях тых ці іншых кампаній ды і то не заўсёды. Шэраг важнейшых пытаньняў адносна разьмеркаваньня льгот, хлеба і г. д. на сходах і групах беднаты не абмяркоўваюцца, у выніку чаго маюць мейсца скрыўленьні клясавай лініі. Так, напрыклад: пытаньне задавальненьня беднаты хлебам амаль зусім не абгаварвалася беднатою, у сьпісы на атрыманьне хлеба былі ўключаны ня толькі серадднякі, але нават кулакі, б. абшарнікі і буйныя гандляры. Маюцца выпадкі выдачы крэдытаў з бядняцкага фонду нават заможным гаспадаркам, былым абшарнікам. Зусім недастаткова была арганізавана бедната ў зьвязку з хлебазагатоўкамі, у выніку чаго пры давядзеньні плянаў да вёскі былі моманты „ураўнілаўкі“, калі ўсе сацыяльныя групы вёскі—у тым ліку кулакі „добраахвотна запісвалі лішкі хлеба“. Пры абкладаньні сел.-гасп. падаткам заможныя гаспадаркі—у тым ліку індыв. абкладзеныя—атрымалі ільготы за лік скідачнага фонду: такія-ж факты мелі мейсца па справе аслабаненьня ад страхоўкі, пры разьмеркаваньні лесу і інш.

Зусім недастаткова праводзіцца праца з беднатой вакол пытаньняў калектывізацыі, асабліва ячэйкамі на мясцох. Што датычыцца палітычнага выхаваньня беднаты, дык гэта справа пастаўлена зусім нездавальняюча: толькі ў апошні час РК прадпрыняў захады да папулярызацыі пастаноў Верасьнёўскага Пленуму ЦК КПБ (праведзена два сходы беднаты).

Групы беднаты працуюць бязплянава, асноўныя пытаньні працы КСУ, с.-с. імі папярэдня абгаварваюцца мала. Асабліва трэба адзначыць, што ні пры водным з відаў коопэрацыі ня існуе група беднаты, у выніку чаго апошняя ня ўдзельнічае ў працы коопэрацыі (у прыватнасьці ўказаньні аб прадстаўленьні заробкаў па лініі коопэрацыі пераважна беднаце ня выконваецца). Маюцца ўсё яшчэ выпадкі неразуменьня форм правядзеньня працы з беднатой, (выбары Прэзыдыумаў на сходах беднаты праз сяброў с/с і г. д.), а таксама факты недаацэнкі працы з беднатой. Так, напрыклад, два члены партыі не правялі схода беднаты ў в. Пятрычах па пытаньню самаабкладаньня, матывіруючы тым, што „там мала беднаты“, у той час, калі ў гэтай вёсцы маецца 14 гаспадарак, аслабанёных ад с/г падатку.

Расьнянская партарганізацыя павінна рашуча палепшыць работу з беднатой.

# АДДЗЕЛ КОНСУЛЬТАЦЫІ

**Пытаньне**: Ці правільна зрабіла Коўшыцкая ячэйка КП(б)Б, калі яна ўзялася за расьледваньне справы лясьніка хутара Журына.

Аб гэтым лясьніку, беспартыйным, меліся некаторыя весткі, што ён браў хабар, незаконна прадаваў лес і інш.

Дык вось ячэйка на падставе гэтага і даручыла аднаму з сваіх сяброў правесьці ад імя ячэйкі расьледваньне.

**Адказ**: Ячэйка зрабіла няправільна ўзяўшыся за расьсьледваньне не па сваёй лініі па сутнасьці ўгалоўнае справы. Яна прыняла на сябе функцыі савецкіх органаў.

У выніку няправільных узаемаадносін некаторых партчэяк з савецкімі і грамадзкімі органамі і з беспартыйнымі кіраўнікамі іх, ствараецца няправільнае разуменьне сапраўднай ролі партячэйкі і абходзяцца нармальныя шляхі кіраваньня,

Як-жа канкрэтна трэба ставіць справу. Дамо некалькі парад.

Калі ячэйка бачыць, што ёсьць такія даныя, якія патрабуюць расьсьледваньня, і неабходна ўцягнуць партыйца для таго каб найбольш важныя справы былі даскана̀ла высьветлены, то трэба праз свайго прадстаўніка аформіць расьсьледваньне ці праз с.-с., ці праз праўленьне каапэрацыі, рабачком і г. д. і гэтаму партыйцу даручаць высьвятленьне справы ад імя данага органу.

У сэнсе ўплыву ячэйкі на працу тых органаў, якімі кіруюць беспартыйныя, то трэба, каб ячэйкі заслухоўвалі тых партыйцаў, якія лічацца хаця-бы радавымі сябрамі гэтых органаў (сябры с.-с. рэв. камісій каапэрацыі, сябры рабачкому і г. д.), каб праз іх правадзіць партыйную дырэктыву ў працы гэтых органаў. Партячэйкі могуць абмяркоўваць (зразумела, і на адчыненых сходах) пытаньне працы савецкіх і грамадзкіх органаў і без пастаноўкі дакладаў беспартыйных кіраўнікоў і нават зусім бяз усякіх дакладаў, калі ў ячэйцы ёсьць той ці іншы матар'ял, тая ці іншая думка. Калі ў тым ці іншым органе няма комуністых, то ў такіх выпадках неабходна праводзіць уплыў ячэйкі на работу гэтага воргану праз сходы беднаты, дэлегацкія сходы, сходы ўпаўнаважаных, праз нарады селькораў, праз насьценгазэты, праз сходы сяброў прафсаюзу, абавязкова афармяючы гэтыя рашэньні праз прэзыдыумы ці пленумы сельсаветаў.

Таксама і даклады кіраўнікоў устаноў (не партыйцаў) трэба заслухоўваць на падобных сходах савецкага ці грамадзкага характару, а ячэйка свой уплыў будзе ажыцьцяўляць праз гэтыя-ж сходы, праз камуністых і масы працоўных.

Непасрэдна-жа ад імя ячэйкі праводзіць высьвятленьне розных спраў беспартыйных—нельга і непатрэбна, бо гэтым ячэйка будзе падмяняць работу адпаведных устаноў.

# ХРОНІКА ПАРТЫЙНАЙ РАБОТЫ

## Парторганізацыйная і масавая работа

### Перабудова партыйнай і грамадзкай работы

(Віцебская акруга)

З мэтай прыстасаваньня ўсёй партыйнай, прафэсыйнай, савецкай і грамадзкай працы да новых тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва АК вынес пастановы аб рэорганізацыі і перабудове ўсёй працы.

Практычна гэтыя пастановы павінны ажыцьцявіцца праз наступныя мерапрыемствы.

Організацыйная структура ўсіх організацый перабудоўваецца па лініі перанясеньня ўсёй работы ў цэх. Пры наліччы ў цэху ня менш 10 партыйцаў ствараецца цэхавая ячэйка. Організуюцца цэхавыя аб'яднаньні ўсіх грамадзкіх організацый. У цэхах практыкуюцца сыстэматычныя інструкцыйныя нарады цэхавага актыву для абгаварэньня пытаньняў, якія падлягаюць ажыцьцяўленьню ў цэху ў сувязі з агульнымі задачамі партыі. Арганізуюцца шматлікія гурткі кваліфікацыі цэхавага актыву па пытаньнях вытворчай, культурна-масавай, эканомічнай і іншай работы. Дэцэнтралізуецца культпраца—спэктаклі, вечары і інш. прыстасоўваюцца для абслугоўваньня паасобных цэхаў. Уся работа дыфэрэнцыруецца ў адпаведнасьці з існаваньнем паасобных груп і катэгорый сярод рабочых.

Разбор конфліктных спраў сярод партыйцаў концэнтруецца ў кантрольных камісіях, якія ствараюцца пры ўсіх райкомах і бюро колектываў.

Рэорганізуецца інструктаж усіх організацый праз стварэньне орг. груп для часовае (прыкл. на месяц) работы.

Гарадзкім райкомам забараняецца пісаць абежнікі нізавым організацыям і замест гэтага ўводзіцца ў сыстэму кіраўніцтва рэгулярнае скліканьне інструкцыйных нарад па ўсіх асноўных пытаньнях работы (нарады сакратароў, апоргаў, жаноргаў і г. д.).

У бліжэйшы час 15 адк. працаўнікоў пасылаецца на сталую работу да варштату, а на іх месца высоўваюцца рабочыя ад варштату.

Ва ўсе бюро колектываў і ячэек, ФЗМК, цэхпрофбюро і па лініі вытворчых нарад уводзіцца інстытут таварышоў, якія вядзе вучот праверкі выкананьня пастаноў і рашэньняў сваіх сходаў, пасяджэньняў, нарад.

Работа гар. райкомаў пераводзіцца на вячэрнія гадзіны. Гэтае-ж мерапрыемства распаўсюджваецца і па лініі ўсіх масавых установ і організацый гораду (Гарсавет, ЦРК, Страхкаса і інш.).

Наладжваецца сац. спаборніцтва між фабрыкамі і заводамі на лепшую працу па колектывізацыі і вытворчаму коопэраваньню вёскі. У практыку работы ўводзіцца шэфства буйных рабочых прадпрыемстваў над савецкімі ўстановамі і коопэрацыйнымі організацыямі.

### Становішча і работа партячэйкі лесазаводу „Труд“

(Мазырская акруга)

Па дакладу сакратара ячэйкі лесазаводу „Труд“ і па вывадах інструктара АК і АКК на аб'яднаным пасяджэньні АК і АКК адзначана, што дырэктывы АК КП(б)Б, дадзеныя ячэйцы ў сакавіку, у асноўным ня выкананы.

У ячэйцы наглядаецца хвасьцізм, адсутнасьць партыйнай устойлівасьці і клясавага твару ў паасобных партыйцаў, падпарадкаваньне інтарэсаў вытворчасьці часовым выгадам, недастатковасьць бальшавіцкай непрымірымасьці і рашучасьці ў барацьбе з антысэмітызмам, яўр. шовінізмам, адсутнасьць барацьбы з бытавым загніваньнем паасобных комуністых, зажым самакрытыкі, групавое замазваньне недахопаў, сямейнасьць, нерэагаваньне на зьнішчэньне выкрытых недахопаў.

АК усё гэта ацаніў, як праяўленьне правага ўхілу на практыцы, і для аздараўленьня ячэйкі ўхваліў: у другі раз распусьціць бюро партячэйкі і правесьці датэрміновыя перавыбары; прапанаваць ф. саюзу Дрэваапрацоўнікаў распусьціць завком заводу „Труд“, які ня справіўся з правядзеньнем задач партыі на прадпрыемствах і зьняць дарэктара заводу; за слабае кіраўніцтва ячэйкай і невыкананьне дырэктыў АК у гэтым напрамку Жыткавіцкаму РК КП(б)Б абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем; абвясьціць вымову фракцыі саюзу Дрэваапрацоўнікаў.

### Становішча і работа партячэйкі шклозаводу „Ільліч“

(Магілеўская акруга).

Шклозавод „Ільліч“ за тры кварталы 1928-29 г. выканаў вытворчую програму на 101,3 проц. і павялічыў выраб продукцыі на 25,7 проц., зьнізіў сабекошт на 10,2 проц. альбо на 1,4 проц. звыш заданьня, зьменшыў прагулы, але на некалькі павысіўся брак. АК, заслухаўшы даклад аб дзейнасьці ячэйкі, адзначыў, што ў галіне сац. спаборніцтва недастаткова былі ўцягнуты шырокія колы рабочых, асабліва кадры старых рабочых, ня гледзячы на некаторае палепшаньне гаспадарчага становішча заводу.

Апрача таго, АК канстатаваў наяўнасьць настрояў кулацкага характару сярод рабочых, якія прыбываюць на завод з вёскі, наяўнасьць на заводзе групы „былых людзей“, якія зьяўляюцца ідэолёгамі варожых дыктатуры пролетарыяту настрояў (дырэктыва АК аб ачысцы заводу выканана недастаткова), дрэннае бытавое абслугоўваньне рабочых, слабае кіраўніцтва колектывам ЛКСМБ.

## Становішча і работа яч. КП(б)Б Фабрыкі „Зьвязда“

Па дакладу сакратара яч. і па выніках абсьледаваньня інструктара АК бюро. АК, як станоўчыя моманты работы, адзначыла: Здаровы ўплыў на рабочую масу пры правядзеньні палітычных мерапрыемстваў (3-яя пазыка, дні індустрыялізацыі і колектывізацыі і др.); зьнішчэньне п'янства сярод комуністых і комсамольцаў; значная мобілізацыя ўвагі рабочых да выкананьня і выяўленьня ўласнай ініцыятывы да пераходу на бесьперапынку. З недахопаў вытворчай працы адзначана падзеньне экспартнага матар'ялу на 15,05 проц., павялічэньне браку на 65,7 проц. у параўнаньні з мінумым годам, зьніжэньне сабекошту ўсяго на 1,4 проц.; павялічэньне вытворчасьці працы толькі на 6 проц. пры значным правядзеньні капітальнага будаўніцтва і павялічэньні зарплаты на 10,64 проц.; за год вынесена 104 вымовы пры яўных 315 прагулах; не разгорнута соц. спаборніцтва на фабрыцы і вакол яго не организавана грамадзкая думка; слабая праца вытворчых нарад; слабая пастаноўка аховы працы, у сувязі з чым наглядаецца павялічэньне колькасьці няшчасных выпадкаў з 240 у мінулы годзе да 500 у гэтым годзе.

З недахопаў партработы АК адзначыў на адсутнасьць глыбокай прапрацоўкі пытаньняў партработы і пастаноў 16-ай партконфэрэнцыі, XII зьезду КП(б)Б і пленумаў ЦК УсеКП(б) і КП(б)Б, панаваньне дзяляцкага практыцызму; адсутнасьць упартай барацьбы з антысэмітызмам, шовінізмамі, слабы тэмп беларусізацыі, адсутнасьць самакрытыкі. Апрача гэтага, не зьвярталася ўвага на выхаваньне і апрацоўку новых кадраў—адсюль недастатковы рост ячэйкі, слабая праца сярод жанчын, узаемаадносіны „трыкутніка“ не адпавядаюць дырэктывам партыі, не разьмяжованы функцыі ў „трыкутніку“.

АК вынес шэраг практычных прапаноў для палепшаньня работы партячэйкі.

# Колектывізацыя сельскай гаспадаркі

## Узорны раён па суцэльнай колектывізацыі

(Магілеўская акр.)

У Клімавіцкім раёне зараз ужо 75 проц. зямельнай плошчы занята пад калгасамі, організован шэраг буйных колгасаў да 10.000 га з ахватам суцэльнай колектывізацыяй большасьці сельскіх саветаў.

АК выказаўся за вызначэньне Клімавіцкага раёну, як узорнага па суцэльнай колектывізацыі. У сувязі з гэтым вынесена пастанова аб накіраваньні ў раён 5 сталых работнікаў-партыйцаў у якасьці кіраўнікоў будучых калгасаў і кустоў, аб адчыненьні дадаткова 5-ці хат-чытален у новых колгасах, аб організацыі не пазьней студзеня 1930 г. райколгассаюзу.

Апрача гэтага, пастаўлена пытаньне аб распрацоўцы організацыйна-вытворчых плянаў і вызначэньні напрамкаў разьвіцьця буйных колгасаў, аб павялічэньні крэдытаў для колгасаў, аб організацыі шэфства рабочых над колгасамі.

АК палічыў неабходным увесьці дыфэрэнцыяваны пай і правесьці растлумачальную работу сярод колгасьнікаў і на вясковых сходах аб неабходнасьці ўцягненьня ўсіх сродкаў у колгасы.

## Пасылка рабочых на работу ў колгасы

(Віцебская акруга)

АК вырашыў накіраваць у вёску на работу ў колгасы на тэрмін ня менш аднаго году 140 рабочых з дастатковым організацыйным і палітычным вопытам. З гэтых 140 рабочых 53 будуць накірованы ў іншыя акругі БССР. Прапанована РК і профорганам вылучыць рабочых ад асобных саюзаў і прадпрыемстваў.

У першую чаргу вылучаюцца рабочыя з ліку партыйнага, комсамольскага, профэсыйнага актыву і ўдарнікаў, якія маюць ня менш 5-ці гадоў вытворчага стажу і ня маюць сваёй сельскай гаспадаркі.

У агульным ліку вылучаемых павінна быць 60% партыйцаў, 15% комсамольцаў, ня менш 25% беспартыйных і 15% жанчын.

АК выказаўся захаваць за пасылаемымі сярэдні заробак, які яны атрымоўвалі на прадпрыемствах.

Даручана Колгассаюзу організаваць своечасова 2-хтыднёвыя курсы і падабраць спэцыяльныя бібліотэчкі для пасылаемых.

# Работа сярод яўрэйскіх працоўных мас

## Вылазка яўр. шовіністых і клерыкалаў

У Краснапольскім раёне без папярэдняй растлумачальнай работы была спынена прадажа кашэрнага мяса. У выніку чаго грамадзяне мястэчка Краснапольле зьвярнуліся ў РВК з прыгаварам аб дазволе продажу кашэрнага мяса. РВК, праявіўшы клясавае прытупленьне і неразуменьне палітычнай сутнасьці гэтай справы, афіцыйна накіраваў гэты прыгавар у АВК.

АК адзначыў, што афіцыйнае накіраваньне прыгавару Краснапольскім РВК у АВК зьяўляецца вынікам неразуменьня палітычнай сутнасьці гэтага пытаньня. РВК ня даў дастаткова выразнай ацэнкі гэтаму факту, як вылазцы клясавага ворага, не зрабіў захадаў да высьвятленьня клясавага твару тых, хто падпісаў гэты „грамадзкі“ прыгавар.

РК КП(б)Б прапанована правесьці шырокую растлумачальную работу сярод бядняцка-серадняцкіх працоўных мас вакол палітычнай сутнасьці гэтага пытаньня, стварыць аб гэтым шырокую грамадзкую думку.

### Культурнае абслугоўваньне яўрэйскіх працоўных мас

(Магілеўская акруга)

Па пастанове АК праводзіцца спэцыяльнае абсьледваньне становішча абслугоўваньня яўрэйскіх рабочых і працоўных мас бібліотэкамі. У якасьці об'ектаў абсьледваньня ўзяты бібліотэчкі ў г. Магілеве, 2-х райцэнтрах і ў вытворчых профсаюзах.

### Інтэрнацыяналізацыя яўрэйск. колгасаў

(Магілеўская акруга)

У сувязі з правядзеньнем суцэльнай колектывізацыі акругі назіраецца цяга ў яўрэйскія колгасы з боку навакольных бядняцка-серадняцкіх мас. Але з боку яўрэйскіх колгасаў наглядаецца тэндэнцыя да абмежаванасьці і супраціўленьня інтэрнацыяналізацыі, што тлумачыцца наліччам варожа-нэпманаўскіх і клерыкальных элемэнтаў у яўрэйскіх колгасах.

Яўбюро АК пастанавіла разгарнуць шырокую растлумачальную работу вакол гэтага пытаньня, праводзячы рашучую барацьбу з элемэнтамі клерыкалізму і клясава-варожымі ўплывамі ўнутры яўрэйскіх колгасаў, зрабіць чыстку яўр. колгасаў ад клясава-чужых элемэнтаў, даручыць фр. Камзета, Колгассаюзу і „ОЗЕТ" распрацаваць практычныя мерапрыемствы ў пытаньні інтэрнацыяналізацыі яўрэйскіх колгасаў.

## Пытаньні культуры і падрыхтоўка кадраў

### Партнарада па пытаньнях асьветы

(Гомельская акруга)

АК вызначыў у першых лічбах студзеня склікаць партнараду па пытаньнях нарасьветы. На нараду выклікаюцца ўсе партыйцы, якія працуюць у школах сацвыху, рабочай і профтэхнічнай адукацыі.

Парадак дню вызначаны такі:

1. Рэконструкцыйны пэрыяд і задачы нарасьветы.
2. Аб становішчы выхаваўчай працы ў школах сацвыху.
3. Аб становішчы выхаваўчай працы ў школах агульна-рабочай адукацыі.
4. Сыстэма нарасьветы.
5. Пытаньні ўсеагульнага навучаньня і ліквідацыі няпісьменнасьці.

Для распрацоўкі пытаньняў, што стаяць на нарадзе, даручана стварыць брыгады з партыйцаў, якія працуюць у галіне асьветы.

### Падрыхтоўка рабочых у ВНУ

(Гомельская акруга)

АК прызнаў недастатковаю колькасьць рабочых, ахопленых курсамі па падрыхтоўцы ў ВНУ, а асабліва рабочых з вялікім вытворчым стажам (7—15 гадоў).

Ухвалена організаваць у горадзе 2-хгадовыя курсы па падрыхтоўцы ў ВНУ на 60 чал. (з вытв. стажам ня менш 5 год), аслабаніўшы курсантаў ад усякай грамадзкай работы. Курсы павінны распачаць работу не пазьней 5/XII.

Вызначана адчыніць курсы па падрыхтоўцы ў чыгуначны тэхнікум (на 40 асоб), у пэдагогічны тэхнікум (на 100 асоб), у сельска-гаспадарчы ВНУ (на 50 асоб), прыцягнуўшы на апошнія дзяцей беднякоў і колгасьнікаў.

Даручана зараз-жа праверыць склад усіх курсаў па падрыхтоўцы ў ВНУ.

## Пытаньні работы ЛКСМБ

### Рост і падрыхтоўка да чысткі ЛКСМБ

(Полацкая акруга)

АК адзначыў недастатковы рост за лік рабочай і бядняцкай моладзі. Слаба пастаўлена экономічная і політ-выхаваўчая работа сярод беспартыйнай моладзі. Масавыя мерапрыемствы комсамолу, у якія ўцягваецца і беспартыйная моладзь, зусім слаба ўвязваюцца з пытаньнем росту КСМ.

У вясковых ячэйках існуе неразуменьне асноўнай лініі росту і яго рэгуляваньня, вынікам чаго зьяўляюцца факты боязьні росту за лік батракоў, пралязаньне ў КСМ клясава-чужога кулацкага элемэнту.

Работа па самаачышчэньню КСМ яшчэ разгорнута недастаткова. АК адобрыў рашэньне аб правядзеньні чысткі і праверкі шэрагаў ЛКСМ і даў шэраг дырэктыў аб 100 проц. уцягненьні ў КСМ рабочай моладзі, аб павялічэньні росту за лік батракоў, аб растлумачэньні лініі партыі ў пытаньнях росту і рэгуляваньня складу КСМ.

### Праверка і мобілізацыя кадраў піонэрпрацаўнікоў

*Віцебская акруга*

АК адзначыў няўважлівыя адносіны да правядзеньня праверкі і мобілізацыі кадраў піонэрпрацаўнікоў з боку партыйных і профэсыйных організацый і прапанаваў апошнім зараз-жа цалкам выканаць паказаньні АК у гэтым напрамку.

*Магілеўская акруга*

Выходзячы з дырэктыў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб праверцы кадраў піонэрактыву і мобілізацыі комсамольцаў на піонэрработу АК пастанавіў:

На піонэрработу мобілізаваць 200 чал., АК ЛКСМБ разьмеркаваць лічбу па раёнах; мобілізуемыя павінны быць членамі або кандыдатамі партыі з комсамольскім стажам ня менш 4-х год; у складзе мобілізуемых павінны быць 50 проц. рабочых, 20 проц. батракоў і 30 проц. сялян, пераважна беднякоў; ня менш 50 проц. мобілізуемых скарыстаць у новаорганізованых атрадах; АК ЛКСМБ і РК КП(б)Б павінны правесьці праверку піонэркадраў пры шырокім удзеле пролетарскіх мас, скарыстаўшы гэтую працу ў напрамку большай концэнтрацыі увагі грамадзкіх організацый да піонэрработы.

# БІБЛІАГРАФІЯ

## „Партийное строительство“ № 1—2

Нябывалыя маштабы і тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва ва ўмовах абвастрэньня клясавай барацьбы, ускладае на нас абавязак перабудаваць зьмест, мэтады і формы працы ўсіх зьвеньняў парт-проф, сав. гаспадарчай і камсамольскай і іншых арганізацый, вядучымі і ў гэтай галіне, бясспрэчна зьяўляецца ўсе зьвеньні нашай парт-арганізацыі. Палітычная і вытворчая аб'ектыўнасьць рабочае клясы дасягнула нябывалай вышыні і працягваеісьці па ўзыходзячай лініі, гэта ізноў абавязвае нас „ставіць па новаму партыйна-масавую працу“ часопісь „Партийное строительство“ як орган ЦК нашае партыі і ставіць перад сабой задачу вырашэньня тэорыі і практыкі парт-будаўніцтва „вучот і абагуленьне жывога вопыту“ мас.

У прадмове часопісі гаворыцца: „*Часопісь павінна навучаць парт-работнікаў, як трэба штодзённыя, практычныя пытаньні, якія ставяцца жыцьцём перад партыяй, умець падымаць на прынцыповую вышыню, абагульняць вопыт працы, з пункту гледжаньня цэнтральных і агульна палітычных задач партыі, абагашчаць штодзённую практыку бальшавіцкай тэорыяй*“ далей кажучы аб задачах часопісі рэдакцыя паказвае на тое, што часопісь павінна стаць *арганізатарам і кіраўніком партыйнай масы ў галіне парт-будаўніцтва*“. Няма патрэбы гарарыць аб тым, якая патрэбнасьць і якая важнасьць зьяўленьня гэтай часопісі. Гэтыя два нумары сьцьвяржаюць, што часопісь стаіць на пэўным шляху і пасільна імкнецца вырашыць пастаўленыя перад ёй задачы. Адным з асоба „чувствительных“ „вузкіх месц“ зьяўляецца пытаньне аб кадрах цалкам.

Пытаньне аб кадрах па рознаму паўстае перад намі па ўсіх этапах гісторыі нашае партыі і рэволюцыі, пытаньне аб кадрах стаіць перад намі і сёньня вельмі востра́й, у артыкулах „Партыя і барацьба за кадры“ і „Партыйныя кадры дыбам“, якія зьяўляюцца адказам на зьмешчаны артыкул т. Аліханава „Супроць старых мэтадаў падбору людзей“, часопісь паставіла пытаньне аб кадрах як сугуба палітычнае пытаньне, як пытаньне рэалізацыі на практыцы гэнэральнай лініі нашае партыі, як неабходная ўмова забесьпячэньня чоткай клясавай лініі ў нашай працы.

У гэтых двух артыкулах і артыкуле Б. Дзеніса „Да пытаньня аб падрыхтоўцы тэарэтычных кадраў“ таварышы знойдуць разам з расстаноўкай партыйных сіл і падрабязнае тлумачэньне лініі партыі ў гэтым пытаньні і пералік тых асноўных палітычных задач і практычных мерапрыемстваў, якія нам трэба ажыцьцявіць, каб перамагчы „адно з самых вузкіх месц нашага будаўніцтва“. Азнаёміцца з гэтымі артыкаламі неабходна кожнаму парт-работніку, зварочваем увагу таварышоў на артыкул „Партыйныя кадры дыбам“, дзе дадзена сур'ёзная крытыка раду па сутнасьці сваёй небальшавіцкіх і трацкісцкіх палажэньняў па пытаньню аб падбору кіруючых парт-кадраў.

У гэтым артыкуле ёсьць выкладаньне (ня зусім дасканалае) бальшавіцкіх прынцыпаў падбору людзей. Нам застаецца жадаць, каб часопісь працягвала распрацоўку пытаньня аб вылучэньні новых кадраў, асабліва мы зьвяргаем увагу на неабходнасьць цяпер-жа распрацаваць пытаньне аб кадрах парт-арганізацыі у сувязі з набліжэньнем канфэрэнцыі і зьезду партыі.

Артыкулам т. Мээрзона „На вышэйшую ступень“ часопісь пачала падрабязную распрацоўку шляхам „побольше внимания самым простым, но живым фактам ком-строительства (Ленин)“пытаньняў перабудовы ўсёй нашай працы, асабліва масавай працы на прадпрыемстве, патрабуючай карэннай перабудовы. У гэтым артыкуле аргументуючым неабходнасьць „паскарэньня перабудовы форм мэтадаў грамадзкай працы і кіраўніцтва разам з правідловай ацэнкай гэтага перажытага.

Самакрытыка сканцэнтравала ўвагу на неабходнасьці на раду з працягваньнем гураганнага агню „па першых лініях акопаў“ узьняць самакрытыку на вышэйшую ступень, г. зн. зрабіць яе мэтадам працы ўсіх нашых арганізацый, а ня толькі як зброяй для выкрыцьця „гнойников“.

У гэтым артыкуле і ў артыкулах друкаваных у парадку абгаварэньня „ацэнкі працы па новаму“ масавая праца на бесьперапынку „масавая праца ва ўмовах рэконструкцыі“ і г. д. дадзена асьвятленьне канкрэтным фактам і прыкладам перабудовы працы. Гэтыя артыкулы тым больш каштоўныя, што паказваюць канкрэтна перабудову працы, у чым сэнс гэтай перабудовы працы і якія яна дала вынікі.

Няма магчымасьці разгледзіць тут зьмест гэтых артыкулаў, трэба каб кожны парт-работнік з імі пазнаёміўся непасрэдна. Аб тым, што таварышы не пашкадуюць патрачанага часу, мы упэўнены. На раду з гэтым зрух асноўнага тэмпу абмалёўвае твар новай часопісі, неабходна адзначыць, што ў зьявіўшыхся двох нумарох мы маем кіраўнічы артыкул, які ўскрывае ў першую чаргу правых апартуністаў і апазіцыянэраў, усіх нездаволеных бальшавіцкімі прынцыпамі партбудаўніцтва. З гэтага артыкулу мы бачым некаторыя праявы апартунізму ў тэорыі і практыцы партбудаўніцтва. Кожны парт-работнік павінен іх ведаць, таму што інакш ён будзе недастаткова ўзброен у барацьбе супроць апартунізму.

Апрача вышэйпералічаных артыкулаў часопісь у спэц-аддзеле дае ўсе асноўныя рашэньні ЦК партыі, што таксама зьяўляецца вельмі патрэбнай і неабходнай дапамогай для кожнага парт-работніка.

Часопісь „Партийное строительство“ зьяўляецца неабходным падручнікам для кожнага парт-работніка і кожная ячэйка пачінна мець гэтую часопісь.

Кожны актывісты—парт-работнік павінен чытаць гэтую часопісь.

**А. Т.**

**Т. Меерзон**. *За перабудову партыйнай работы*. Дзяржаўнае выдавецтва РСФСР. 1929 г. 48 стар. Цана 15 кап., тыраж 25.000.

**Т. Меерзон**. *„На пераломе“. Дадатны вопыт перабудовы партыйнай работы*. Дзяржаўнае выдавецтва РСФСР. 1930 год, стар. 62. Цана 15 коп. Тыраж 20.000.

**Д. Гурэвіч**. *За палепшаньне партыйнай работы* Дзяржаўнае выдавецтва РСФСР. 1929 г., 46 ст. Цана 8 кап. Тыраж 10.000. Усе тры брашуры б'юць у адну цэль, наколькі пасьпяхова партарганізацыі пераходзяць на рэйкі новых форм і мэтадаў работы ў сувязі з задачамі соцыялістычнай рэконструкцыі і якія задачы стаяць перад імі ў сучасны момант у гэтым напрамку. *Новыя задачы патрабуюць новых мэтадаў, нова а падыходу да практычнай работы*. Выкананьне пяцігадовага пляну соцыялістычнага наступленьня на капіталістычныя элемэнты цесна зьвязана з тым, як шпарка мы зможам „перастроіцца“ па ўсіх лініях партыйнай, прафсаюзнай і масавай работы. Ужо нельга абмежавацца „агульным“ кіраўніцтвам, „агульнымі“ разважаньнямі. Цяпер трэба чотка, выразна працаваць над зьнішчэньнем карэньняў капіталізму ў краіне, уцягваючы ў гэту справу шматмільённыя масы працоўных. Наш клясавы вораг, які ў некаторых мясцох лепш за нас „переворужился“ новымі мэтодамі работы, утварае цяжкасьці ў справе пасьпяховага змаганьня за соцыялізм. Гэта трэба ўлічыць кожнаму партыйнаму работніку, кожнаму комуністу, каб перамагчы супраціўленьне клясава-варожых элемэнтаў.

У выніку росту соцыялістычных элемэнтаў у народнай гаспадарцы і рашучага выцісканьня кулацка-нэпманскіх элемэнтаў абвастраецца клясавая барацьба ў краіне. Адначасова мы зьяўляемся сьведкамі вялічэзнага ўздыму актыўнасьці шырокіх рабочых мас, сьведкамі нябывалага ўздыму творчай ініцыятывы рабочае клясы, якая накіравана на соцыялістычную перабудову краіны. *Актыўнасьць рабочае клясы б'е жывымі крыніцамі і ў некаторых мясцох, там, дзе партыйныя арганізацыі не перабудавалі па новаму сваёй работы, гэта актыўнасьць выпярэджвае кіраўніцтва партыйных ячэек. Партыйныя ячэйкі адстаюць ад магутнага ўздыму актыўнасьці рабочае клясы, яны ня спраўляюцца з абхопам гэтае актыўнасьці патрабаваньнем яе ў рэчышча соцыялістычнае перабудовы краіны*.

У гэткіх абставінах, кожная заводзкая партыйная арганізацыя павінна стаяць на чале арганізацыі мас навакол выкананьня пяцігодкі, на чале мас па змаганьню за новыя тэмпы, новую культуру працы. Больш пасьпяховае змаганьне за выкананьне пяцігодкі соцыялістычнага наступленьня можа разгортвацца тады, калі ўсе партыйныя арганізацыі хутчэй перабудуюць формы і мэтады сваёй работы.

Новае, што складае асноўную сутнасьць, зьмест перабудовы партыйнай работы можна выказаць у двух словах: *„тварам да вытворчасьці“*. Паварот тварам да вытворчасьці ўсіх заводзкіх арганізацый выклікаецца, менавіта, задачамі соцыялістычнае рэканструкцыі, задачамі ажыцьцяўленьня пяцігодкі соцыялістычнага наступленьня.

У брошурах т. Меерзона сабраны лепшыя прыклады перабудовы партыйнай работы на аснове абсьледваньня становішча шмат якіх арганізацый з боку ЦК УсеКП(б). Карыстаючыся каштоўнымі брошурамі т. Меерзона, кожная ячэйка можа перанесьці сабе ўсе лепшыя прыклады арганізацыі і пастаноўкі партыйнай работы на прадпрыемствах.

Мы тут хочам зьвярнуць увагу ячэек толькі на асобныя, больш важныя пытаньні перабудовы партыйнай работы, якія падрабязна асьвятляюцца ва ўсіх трох рэцэнзіруемых брошурах.

Што азначае паварот ячэек „тварам да вытворчасьці“? Ён азначае, што вытворчыя пытаньні, пытаньні ўздыму прамысловасьці павінны заняць больш сур'ёзнае мейсца ў рабоце ячэек, чым гэта было да нядаўніх часоў. Ён азначае, што кіраўніцтва вытворчасьцю павінна быць значна палепшана на аснове пастановы ЦК УсеКП(б) аб адзінаначальлі.

Цяпер ужо нельга абмежавацца агульнымі дакладамі па вытворчых пытаньнях і прыняцьцем агульных рэзалюцый па іх. Для таго, каб сапраўды забясьпечыць яшчэ большы ўздым вытворчасьці, неабходна зрабіць канкрэтным кіраўніцтва гаспадарчай і ўдзел ячэек ва ўзьняцьці вытворчасьці. Не адмаўляючыся ад агульных гаспадарчых дакладаў у некаторых выпадках, *нам трэба цэнтр цяжкасьці перанесьці на заслухоўваньне і р...спрацоўку чоткіх, канкрэтных дырэктыў па даданаму прадпрыемству, цэху, аддзяленьню, брыгадзе*. Лінія па ўсіх важнейшых пытаньнях у нас ёсьць. Яна выразна акрэсьлена ў пастановах партыйных з'ездаў і пленумаў. На аснове гэтай лініі, кожная ячэйка павінна навучыцца, на вопыце свайго прадпрыемства канкрэтна намячаць мерапрыёмствы па выкананьню партыйных дырэктыў. Толькі рашуча перайшоўшы ад агульных, дэкляратыўных рэзалюцый да практычных, ясных пастаноў, можна значна пасіліць узьняньце нашае соцыялістычнае вытворчасьці.

Вялікае мейсца ў справе работы па новаму займае пытаньне аб нагрузках комуністых. Да гэтага часу мы амаль не сустракаліся з практыкай партыйных нагрузак па гаспадарчай рабоце. За партыйную нагрузку часта лічыцца формальнае знаходжаньне выбарчым сябрам у тым ці іншым дабраахвотным таварыстве, але толькі не гаспадарчая работа. Нам трэба пераглядзець пытаньне аб нагрузках у тым напрамку, каб партыец ня толькі формальна лічыўся ў якім-небудзь таварыстве, але і сапраўды выконваў там сталую работу. *Нам трэба ва што-б ні стала ўвесьці практыку партыйнай нагрузкі па гаспадарчай рабоце, напрыклад: даручаць камуністым вывучаць прычыны простояў, паніжэньня вытворчасьці працы, павышэньня сабекошту і г. д.*

Вельмі дрэнна покуль што абстаіць справа з паваротам прафсаюзных арганізацый тварам да вытворчасьці, з перабудовай іх работы ў суадпаведнасьці з запатрабаваньнямі рэконструкцыйнага пэрыяду. Партыя да гэтага часу рашуча змагаецца за большую „вытворчую рухавітасьць“ прафсаюзаў, за, тое, каб яны сапраўды ўзяліся за кіраваньне соцыялістычным спаборніцтвам, за организацыю і разьвіцьцё творчай ініцыятывы рабочых мас па лініі палепшаньня вытворчасьці. Кожная партыйная ячэйка безадкладна, на аснове вопыту, які маецца ў брашурах т. Меерзона, павінна ўзяць за кіра-

ваньне і практычную дапамогу ў перабудове работы прафсаюзных арганізацый.

Партыя высунула на кіруючыя пасты ў ячэйках, райкомах і іншых арганізацыях шырокія колы актыву з маладых сяброў партыі (са стажам 1924—1926 гг.). Гэтыя таварышы ня вучыліся „арганізатарскаму мастацтву“ ў пэрыяд непасрэднай рэвалюцыйнай барацьбы за ўладу, за дыктатуру пролетарыяту. У іх невялікі вопыт і непасрэднай арганізацыйнай работы. Усяму партыйнаму актыву і асабліва маладому кніжкі т. т. Меерзона і Гурэвіча прынясуць вялікую карысьць. Напісаны гэтыя кніжкі досыць папулярна і каштуюць нядорага. У іх сабраны дадатны партыйны вопыт, які варта пераносіць і прымяняць на даным прадпрыемстве, улічваючы яго асаблівасьці.

**А. Г.**

# Некаторыя лічбавыя паказальнікі чысткі савецкіх ячэек

Аб колькі-небудзь дасканальных даных па чыстцы сав'ячэяк гаварыць пакуль што ня прыходзіцца. Тут жа мы прыводзім некаторыя папярэднія паказальнікі.

Лічбавая распрацоўка па 62-м. сав. ячэйкам, якія чысьціліся паралельна з вясковымі ячэйкамі, паказываюць, *што сярэдні процант выключэньняў па сав. ячэйкам значна ніжэй, чым у вясковых ячэйках*. У той час, як па вясковым ячэйкам процант выключэньняў раўняецца 14,2%, а суровыя ўзысканьні,—13,9 па сав. ячэйкам на 1444 правераных—выключана 137 альбо 9,4%, вымоў вынесена 171 альбо 11%.

Па сацыяльнаму становішчу выключаныя 137 чалавек падразьдзяляюцца: на рабочых—47 чал., сялян—43 і служачых—47.

Прычыны выключэньня: як чужды элемэнт—33 чал., за розн. віды ўчынкаў па пасадзе і крымінальныя—45, за скрыўленьне клясавай лініі і сувязь з чуждым элемэнтам—44, пасыўнае прабываньне ў партыі—35, партнявытрыманасьць—11, за п'янства—26, рэлігійныя абрады—9, за бюракратызм, цяганіну, комчванства—9.

Больш позьнія зьвесткі па Менскай арганізацыі па 10 ячэйкам паказваюць яшчэ меншы лік выключэньняў: у кожнай праверанай ячэйцы выключана па 1—2 партыйцыа, але ня больш 3-х, што ў сярэднім складае 7,6%. Спагнаньні-ж вынесены большаму ліку партыйцаў: яны складаюць 20—25% да ліку правераных.

Дадзеныя па 24 ячэйкам (з 6 акруг), праходзіўшых чыстку да 1|XI-29 г. паказываюць, што з праверaных 746 партыйцаў выключана 69 альбо 9,2%. Спагнаньняў вынесена 127 т.т. альбо 17% правераных. Па сацыяльнаму становішчу сярод выключаных: рабочых 27 і сялян 12, служачых—30.

Прычыны выключэньняў падразьдзяляюцца наступным чынам: больш паловы (56%) выключана за розныя віды службовых учынкаў: скарыстаньне пасаднага становішча, безгаспадарчасьць, растраты, хабары і г. д. За іскрыўленьне клясавай лініі, правы ўхіл на практыцы, сувязь з чуждым элемэнтам—24 партыйца альбо 34%.

Асабліва цікава падкрэсьліць, што сярод выключаных за бюрократызм і цяганіну 9 партыйцаў—6 з іх па роду заняткаў зьяўляюцца быўшымі рабочымі. Гэтае становішча неабходна сурова праверыць: ці няма тут недавучоту і перагібу ў адносіне да рабочых—вылучэнцаў, якія прышлі ў савецкі апарат і ў моц свайго незнаёмства з умовамі цяжкасьцяў у працы—дапусьціўшыя памылкі, няправільныя паводзіны і г. д.

**М. З.**

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Аб становішчы і рабоце Бабруйскай акруговай парторганізацыі

*(Пастанова Бюро ЦК КП(б)Б ад 15-XII 1929 г.)*

Заслухаўшы даклад тав. Аляксеява і садаклад тав. Гантмана аб становішчы і рабоце Бабруйскай акруговай парторганізацыі, Бюро ЦК КП(б)Б адзначае, што ў рабоце організацыі маюцца дасягненьні ў шэрагу галін гаспадарчага будаўніцтва, (палепшаньне працы на радзе важнейшых прадпрыемстваў, частковыя посьпехі па лініі падвышэньня вытворчасьці працы і зьніжэньня сабекошту продукцыі, пры наяўнасьці пасіленьня ўдзелу рабочай масы ў соцыялістычным будаўніцтве і разгортваньні соц. спаборніцтва, здавальняючае правядзеньне важнейшых бягучых гаспадарчых кампаній: хлебанарыхтоўкі, нарыхтоўка бульбы пры актыўнай дапамозе ў правядзеньні нарыхтовак бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, узмацненьне за апошні год вярбоўкі рабочых у партыю і некаторае палепшаньне соцыяльнага складу парторганізацыі).

ЦК адзначае некаторыя посьпехі, дасягнутыя парторганізацыяй у галіне разьвіцьця і ўзмацненьня соцыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы, значныя зрухі і ўзмацненьне росту колектывізацыі па акрузе (11—12 проц. пасеўнай плошчы пад калгасамі), організацыя шэрагу буйных калгасаў, разгортваньне работы па суцэльнай колектывізацыі цэлых раёнаў. Усе гэтыя посьпехі па колектывізацыі дасягнуты ў выніку ўздыму сярод бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, мобілізацыі усей парторганізацыі і цьвёрдай лініі, узятай Акругкомам у апошні год на ажыцьцяўленьне пастаўленай партыяй задачы па сацыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі.

Побач з гэтым Бюро ЦК канстатуе ў рабоце Бабруйскай парторганізацыі цэлы шэраг буйнейшых недахопаў і шэраг палітычных памылак у галіне палітычнай лініі на вёсцы і ажыцьцяўленьні чоткай клясавай лініі па барацьбе і наступленьню на капіталістычныя элемэнты вёскі, а іменна:

а) неправідловая палітыка і скажэньне клясавай лініі ў галіне землеўпарадкаваньня (1926—27 г. 35 проц., у 1927—28 г.—25,7 проц. хутароў з усей землеўпарадкаванай плошчы); толькі ў 1929 г. процэс хутарызацыі рэзка скарачаецца да 0,6 проц. Процэс абрэзкі шматзямельных кулацкіх гаспадарак праходзіў памалу;

б) амаль ніякае ўвагі ня было зьвернута на пытаньне рэгуляваньня арэндных адносін на вёсцы і наяўная недаацэнка з боку Акругкому і нізавых парторганізацый гэтага зьявішча. Таксама надзвычайна слабая была ўвага да пытаньня найму рабочае сілы на вёсцы і абароны эканамічных інтарэсаў батрацтва;

в) наяўнасьць цэлага шэрагу фактаў скажэньня клясавай лініі ў галіне крэдытаваньня сельскае гаспадаркі (неправідловае скарыстаньне фонду крэдытаваньня беднаты і шэраг фактаў крэдытаваньня заможнікаў і кулакоў), у галіне машыназабясьпечаньня ў вёсцы праводзілася неправідловая лінія, бо значная частка с.-г. машын пападала ў рукі заможнікаў і кулакоў, пры гэтым ня рэдка ў крэдыт;

г) у 1928 г. была недаабкладзена падаткам кулацкая вярхушка вёскі (прыцягнута да індывідуальнага абкладаньня 0,4 проц. усіх гаспадарак);

д) пры наяўнасьці некаторых дасягненьняў у галіне работы сярод беднаты, галоўным чынам па лініі правядзеньня сходаў па кампанейскіх пытаньнях, да апошняга часу работа з беднатой не пераведзена на рэйкі сыстэматычнай штодзённай работы; групы беднаты, як правіла, працуюць дрэнна, або зусім бязьдзейнічаюць, наглядаецца недастатковае ўменьне організаваць гаспадарчую ініцыятыву беднаты (з 5 млн. руб. неземляробчых заробткаў на долю беднаты падае ўсяго 19,7 проц.). У некаторых раёнах і сельсаветах недастатна рашуча ажыцьцяўляецца лінія наступленьня на кулака і наглядаецца шэраг фактаў недаацэнкі з боку мясцовых парторганізацый значэньня саюзу з серадняком.

Усе гэтыя буйнейшыя недахопы і скажэньні клясавай лініі ў практычнай працы на мясцох сьведчаць аб тым, што пры наяўнасьці значнай увагі з боку АК пытаньням сельскае гаспадаркі, апошні недастаткова займаўся вывучэньнем важнейшых процэсаў на вёсцы, вельмі слаба правяраў і сачыў за правідловым ажыцьцяўленьнем нізавымі організацыямі сваіх дырэктыў і ў некаторых выпадках Акругком недастаткова рашуча праводзіў барацьбу з скажэньнямі клясавай лініі ў практычнай працы на вёсцы. З боку АК ня было прынята захадаў да высьвятленьня прычын некаторых адмоўных процэсаў сельскае гаспадаркі акругі (памяншэньне стада пры адначасовым росьце групы шматкароўных, рост драбленьня сялянскіх гаспадарак і г. д.).

Адным з буйнейшых недахопаў у рабоце Акругкома зьяўляецца зусім недастатковая ўвага пытаньню вывучэньня эканамічных умоў кожнага раёну, дзякуючы чаму ні партыйныя, ні савецкія органы ня маюць прадуманай праграмы разьвіцьця і напрамку сельскае гаспадаркі па асобных галінах (зерневых культур, жывёлагадоўлі і г. д.).

Пры наяўнасьці ў акрузе вялікага тэмпу колектывізацыі за апошні пэрыяд, ЦК лічыць работу па кіраўніцтву і організацыйнаму ахвату новых калгасаў з боку акр. калгассаюзу, усіх коопэрацыйных і зямельных органаў нездавальняючай. Адначасова з гэтым работа акруговай парторганізацыі ў галіне вытворчай коопэрацыі зусім недастаткова: вельмі слабы рост шэрагу важнейшых вытворчых аб'яднаньняў і засьмечанасьць іх кулацкімі і за-

можнымі элемэнтамі (малочна-жывёлагадоўчая коопэрацыя), а па некаторым вытворчым аб'яднаньням нават памяншэньне іх колькасьці і ахопу сялянскіх двароў.

Бюро ЦК прызнае недастатковымі дасягненьні ў галіне прамысловасьці акругі. На шэрагу прадпрыемстваў яшчэ на сёнешні дзень маюцца буйнейшыя недахопы: слабая вытворчая дысцыпліна, недастатныя вынікі ў галіне зьніжэньня сабекошту і адміністрацыйна-гаспадарчых выдаткаў, вялікі процант браку і зусім недастатковая ўвага да пытаньня палепшаньня якасьці продукцыі. Адначасова з гэтым Акругком, Райкомы і нізавыя партячэйкі зьвяртаюць недастатна ўвагі пытаньням палепшаньня якасьці новага будаўніцтва (камбінат, крухмальны завод). Апрача недастатковай увагі і кіраўніцтва прамысловасьцю і будаўніцтвам з боку парт. проф. і гаспадарчых органаў, яшчэ далёка недастатна ўцягнута рабочая маса ў актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве, у шэрагу выпадкаў узросшая актыўнасьць рабочых няўмела організуецца і накіроўваецца на барацьбу з рознымі недахопамі на прадпрыемствах. Нізавыя парт. і проф. органы яшчэ ня сумелі перабудаваць сваю работу па лініі організацыі ўсёй рабочай масы, на выкананьне ўсіх якасных і колькасных паказчыкаў, гаспадарчыя працаўнікі ў шэрагу выпадкаў яшчэ ня ўмеюць сумясьціць правядзеньне цьвёрдай лініі ў галіне гаспадарчага кіраўніцтва і ажыцьцяўленьня адзінаначальля з організацыяй ініцыятывы рабочай масы вакол задач па палепшаньні вытворчасьці, слаба ўдзельнічаюць у масавай рабоце і няўважліва адносяцца да ажыцьцяўленьня прапаноў рабочых. На шэрагу важнейшых прадпрыемстваў слаба разгорнута самакрытыка, якая ня стала яшчэ мэтадам працы парт., проф. і гаспадарчых організацый. З боку шэрагу профорганізацый назіраецца коснасьць і недаацэнка важнасьці сац. спаборніцтва слаба ажыцьцяўляецца кіраўніцтва ім.

Самым слабым зьвяном у рабоце парторганізацыі зьяўляецца масавая політычная і культурная праца сярод рабочых, батрацкіх і бядняцка-серадняцкіх мас на вёсцы. Масавая праца не прыстасавана да абслугоўваньня розных груп рабочых, зусім слаба вядзецца работа па выхаваньні новых пластоў рабочых, якія ўліліся ў вытворчасьць. У масавай працы пераважны кампанейскі мэтад у той час, як штодзённая сыстэматычная работа праводзіцца слаба. Зусім недастатна ажыцьцяўляюцца новыя формы масавай работы на прадпрыемствах. наяўныя кадры культработнікаў на прадпрыемствах і на вёсцы не здавальняюць задачам і запатрабаваньням сучаснага пэрыяду.

У выніку зусім нездавальняюча пастаўленай масава-політычнай работы, слабай работы з рабочым актывам, на шэрагу прадпрыемстваў у акрузе маюць месца праявы з боку некаторых адсталых груп рабочых момантаў рвацтва, слабой зацікаўленасьці ў вытворчасьці, яўнага неразуменьня цяжкасьцяй соц. будаўніцтва (а на некаторых прадпрыемствах, якія знаходзяцца ў вёсцы, на асобных адсталых групах рабочых моцна адчуваецца ўплыў дробна-буржуазных і клясава-варожых элементаў), рад антысэміцкіх вылазак, праявы яўрэйскага шовінізму, кулацкія настроі і г. д.

Адным з самых хваравітых пытаньняў для Бабруйскай парторганізацыі зьяўляецца слабасьць кадраў па важнейшым галінам савецкай, проф. і гаспадарчай работы. Акругком і нізавыя парторганізацыі сур'ёзна ня ставілі гэтага пытаньня і амаль што не праводзілі ніякай работы па ўзмацненьні кадраў. Работа па вылучэньні рабочых хоць і праведзена, але зусім недастаткова, у гэтай працы адсутнічае цьвёрдая сыстэма; а вылучэньнем займаліся ад выпадку да выпадку.

Бюро ЦК прызнае ідэолёгічнае становішча парторганізацыі ў асноўным здаровым і адзначае значную работу, якая праведзена ў парторганізацыі па барацьбе з рознага роду ідэолёгічнымі хістаньнямі – з правай ідэолёгіяй і прымірэнцтвам, а таксама і рэшткамі трацкісцкіх настрояў. Разам з тым, у шэрагу ячэек сярод некаторых груп комуністых і зараз маюць месца права-опортуністычныя і трацкісцкія хістаньні (ячэйка Бобршвей, шчацінщчыкаў, фанэрны завод). Пры чыстцы вясковай парторганізацыі правяркомамі выкрыта ў шэрагу вясковых парторганізацый права-опортуністычныя хістаньні і праявы правага ўхілу ў практычнай працы. Гэта тлумачыцца тым, што Акругком яшчэ не дабіўся мобілізацыі ўсёй парторганізацыі на барацьбу з рознага роду ідэолёгічнымі хістаньнямі, не дабіўся яшчэ поўнасьцю таго, каб работа па барацьбе за бальшавіцкую лінію партыі стала штодзённай, важнейшай задачай усіх нізавых партячэек. Апрача таго, у організацыі ў шэрагу ячэек маюць месца хваравітыя зьявішчы (склокі, хвасьцізм, п'янка і г. д.), пры чым з гэтымі хваравітымі зьявішчамі праводзіцца недастатковая барацьба.

Работа па выхаваньню і марксыцка-ленінскай падрыхтоўцы партыйнага актыву пастаўлена нездавальняюча. Кадр прапагандыстых не здавальняе запатрабаваньням парторганізацыі, падрыхтоўка і пашырэньне кадраў прапагандыстых з рабочых партыйцаў вядзецца слаба.

Бюро ЦК адзначае нездавальняючую работу парторганізацыі ў галіне правядзеньня нацполітыкі. Тэмп беларусізацыі зьяўляецца вельмі слабым. Дрэнна пастаўлена работа па беларусізацыі партыйнага актыву савецкіх устаноў і амаль што не вядзецца работа па беларусізацыі сярод рабочай масы. Надзвычайна слаба вядзецца работа і недастаткова мобілізавана парторганізацыя на барацьбу з хістаньнямі і ўхіламі ў нацполітыцы (нацыянал-дэмократызмам, расейскім, яўрэйскім шовінізмам і г. д.). Сыстэматычнай працы па інтэрнацыянальнаму выхаваньню рабочых няма.

Бюро ЦК зьвяртае ўвагу ўсёй парторганізацыі на гэтыя важнейшыя недахопы, даручае Акругкому завастрыць увагу ўсёй парторганізацыі на іх ліквідацыі і на чарговы пэрыяд ставіць наступныя важнейшыя задачы перад Бабруйскай парторганізацыяй:

1. У цэнтры ўвагі ўсёй парторганізацыі, савецкіх і коопэрацыйных органаў паставіць, як асноўную задачу, замацаваньне і далейшае максымальнае разьвіцьцё посьпехаў па колектывізацыі сельскае гаспадаркі. Улічваючы адставаньне тэмпа работы гэтых органаў у галіне абхопу кіраўніцтва калгасным рухам, АК павінен дабіцца перабудовы ўсёй працы партыйных, савецкіх і кооп. організацый зьверху да нізу ў мэтах поўнага абхопу і кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам, а таксама забясьпечыць удзел і дапамогу колектывізацыі з боку ўсіх пролетарскіх організацый гораду. Канкрэтна перад парторганізацыяй стаяць задачы па ўзбуйненьні існуючых дробных калгасаў і стварэньні новых буйных калгасаў, уцягненьні ў калгасы батракоў і бядняцка-серадняцкіх мас вёскі.

на павышэньні якасьці работы калгасаў (узмацніць процэс абагуленьня ў калгасах, павялічэньня недзялімых фондаў, рашуча дабівацца ўздыму вытворчасьці працы, палепшаньня організацыі працы, забясьпечаньня машынамі і прыладамі, шырокай мобілізацыі сродкаў насельніцтва для гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў). Акругкому і ўсёй парторганізацыі павесьці рашучую барацьбу з распродажам жывёлы, а таксама сродкаў вытворчасьці з боку сялянства, уступаючага ў калгасы, дабівацца максымальнай перакачкі сродкаў вытворчасьці з індывідуальнага сэктару ў калгасы. Як адну з важнейшых задач акруговай парторганізацыі, Бюро ЦК ставіць разгортваньне працы па падрыхтоўцы кадраў для калгаснага будаўніцтва, шляхам пасылкі лепшых рабочых у калгасы, уваходжаньня ўсіх комуністых і комсамольцаў, якія працуюць на вёсцы, у калгасы; правядзеньня курсаў па падрыхтоўцы калгасных работнікаў, забесьпячэньня калгасаў спэцыялістымі і г. д.

2. АК прыняць усе меры да ўзмацненьня сеткі саўгасаў па акрузе. У першую чаргу неабходна дабіцца палепшаньня гаспадарчага становішча саўгасаў: уздыму вытворчасьці працы, лепшай організацыі працы, падвышэньня ўраджайнасьці, зьніжэньня сабекошту продукцыі, а таксама замацаваньня ўплыву саўгасаў на ваколічнае насельніцтва. Гэтая задача можа быць выканана ў тым выпадку, калі побач з узмацненьнем кіруючых кадраў саўгасаў, парторганізацыя мобілізуе рабочыя масы навокал выкананьня гэтых задач, дабіцца ўзмацненьня масавай і культурнай працы сярод рабочых саўгасаў.

3. Улічваючы значную работу па мэліорацыі, якая праводзіцца ў акрузе, Акругкому і ўсёй парторганізацыі неабходна зьвярнуць максымум увагі правільнаму скарыстаньню і організацыі мэліораваных зямель. У першую чаргу АК неабходна дабіцца замацаваньня організаваных саўгасаў і калгасаў на Мар'інскім масыве.

4. Акругкому зьвярнуць асаблівую ўвагу і забясьпечыць дастатковае кіраўніцтва работай па організацыі буйнага калгасу ў Рагачоўскім і Жлобінскім раёнах, будаўніцтву агра-індустрыяльнага камбіната, зараз жа заняцца падборам кіруючых работнікаў для калгаса і камбіната і падрыхтаваць пляны з такім разьлікам, каб з пачатку вясны ўжо прыступіць да пабудовы камбіната.

5. Адначасова з рашучым палепшаньнем кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам, АК прыняць усе неабходныя меры для павялічэньня вытворчага коопэраваньня бядняцка-серадняцкіх мас, у першую чаргу дабіцца рашучага зруху па лініі малочна-жывёлаводчай коопэрацыі, організацыі машынных, мэліорацыйных, насеннаводных таварыстваў, рашуча ачышчаючы вытворчую коопэрацыю ад кулацкіх элемэнтаў і забясьпечваючы найбольш хуткае перарастаньне вытворчых аб'яднаньняў у калгасы.

6. Улічваючы наяўнасьць аднаведных умоў для разьвіцьця жывёлаводзтва ў акрузе, акруговай парторганізацыі неабходна ў карацейшы тэрмін распрацаваць пытаньне аб мерапрыемствах па разьвіцьцю жывёлаводзтва, вывучыць прычыны памяншэньня стада і прыняць меры да ліквідацыі гэтага зьявішча, організаваць цэлы шэраг буйных калгасаў з жывёлаводчым напрамкам, дабіцца значнага пашырэньня на працягу бліжэйшых месяцаў сеткі жывёлаводчых таварыстваў, забясьпечыць шэраг практычных мерапрыемстваў па пашырэньні кармавой базы і палепшаньні якасьці стада, прыняць меры да палепшаньня жывёлаводчай справы ў саўгасах.

7. Ажыцьцяўляючы рашуча курс на наступ на капіталістычныя элемэнты, у барацьбе з кулацтвам АК і ўсёй парторганізацыі паставіць сваёй задачай рашучае ўзмацненьне працы сярод беднаты і батрацтва. Неабходна дабіцца ажыўленьня працы груп беднаты, накіроўваючы асноўную ўвагу груп беднаты на ўцягненьне беднякоў і батракоў у колектывізацыю і вытворчае коопэраваньне. Адначасова з гэтым АК выправіць памылкі і скажэньні лініі на мясцох адносна серадняка, узмацніўшы работу з серадняцкім актывам. ЦК асабліва падкрэсьлівае важнасьць работы па організацыі абароны эканамічных інтарэсаў батрацтва і прапануе правесьці самую рашучую барацьбу з момантамі ігнараваньня гэтай работы нізавымі організацыямі, разгарнуць шырокую работу па палітычнаму выхаваньню і ўздыму культурнага ўзроўню батрацтва і ўмацаваць працу саюзу с.-г. лес. рабочых.

8. У галіне прамысловасьці асноўнай задачай парторганізацыі зьяўляецца палепшаньне працы на прадпрыемствах і выкананьне якасных і колькасных паказчыкаў. Акруговай парторганізацыі неабходна мобілізаваць увагу ўсёй рабочай масы, нізавых парт., проф. і гаспадарчых органаў на барацьбу з рознымі недахопамі на прадпрыемствах, накіроўваючы актыўнасьць рабочай масы на выжываньне гэтых недахопаў, шырока мобілізуючы перадавыя рабочыя кадры на барацьбу з рознага роду адсталымі рвацкімі настроямі сярод наасобных груп рабочых.

9. Улічваючы значны рост прамысловасьці і ўцягненьне новых рабочых на вытворчасьць, АК і профорганізацыям забясьпечыць больш дакладны падбор новых рабочых, ні ў якім выпадку не дапускаючы засьмечаньня рабочай масы.

10. На падставе вучоту недахопаў, выяўленых пры праверцы выкананьня соц. умоў, парт., проф. і гаспадарчым організацыям дабіцца значнага палепшаньня кіраўніцтва соц. спаборніцтвам з боку парт., проф. органаў, актыўнага ўдзелу ў соц. спаборніцтве гаспадарнікаў і тэхнічнага пэрсаналу, шырокага ўцягненьня ў соц. спаборніцтва рабочай масы, лепшай пастаноўкі вучоту дасягненьняў і абавязковага выкананьня ўсіх умоў па соц. спаборніцтву. Асаблівую ўвагу парт. і проф. органам зьвяртаць на ўзмацненьне работы ударных брыгад, забясьпечваючы своечасовы пераход ад ударных брыгад на ударныя цэха і заводы. Парт. і профорганізацыям забясьпечыць сыстэматычную праверку выкананьня на прадпрыемствах гаспадарча-палітычных умоў і колектыўных умоў. Таксама рашуча дабівацца выкананьня гаспадарчымі органамі мерапрыемстваў па ахове працы, прадугледжаных промфінплянам і поўнага скарыстаньня адпушчаных на гэта сродкаў.

11. Акруговай парторганізацыі ў далейшым значна пасіліць увагу да пытаньня мясцовай прамысловасьці, дабіваючыся палепшаньня працы на мясцовых прадпрыемствах, правядзеньня рацыяналізацыі і ўздыму прац ўнай дысцыпліны, зьніжэньня сабекошту і палепшаньня якасьці продукцыі гэтай прамысловасьці.

12. Выходзячы з значнага месца, якое займае саматужная прамысловасьць у акрузе, Акругкому і нізавым парторганізацыям неабходна забясьпе-

чыць цьвёрдае кіраўніцтва саматужна-прамысловай коопэрацыяй. Праводзячы рашучую чыстку і не дапускаючы ў сам.-пром. коопэрацыю нэпманскія і гандлёвыя элемэнты, АК забясьпечыць цьвёрдую лінію на ўцягненьне ў сам.-пром. коопэрацыю працоўнай беднаты. Неабходна дабівацца значнага пасіленьня тэмпу коопэраваньня працоўнай беднаты ў горадзе, мястэчках і асабліва на вёсцы і шырэй разгарнуць сетку арцеляй на базе скарыстаньня мясцовай сыравіны (організацыя шэрагу арцеляй па перапрацоўцы драўніны, вытворчасьці будаўнічых матар'ялаў, цагельных заводаў і г. д.).

13. Аднэй з асноўных задач Бабруйскай парторганізацыі зьяўляецца пытаньне падрыхтоўкі і ўмацаваньне кіруючых кадраў па ўсім важнейшым галінам працы—партыйнай, савецкай, гаспадарчай і профэсыянальнай. Для гэтай мэты АК і Райкомам значна пасіліць працу па вывучэньні, палепшыць адбор сапраўды лепшых і перадавых рабочых і работніц, батракоў на кіруючую працу, організаваць рад курсаў па падрыхтоўцы рабочых вылучэнцаў, палепшыць працу па падрыхтоўцы і выхаваньню партыйнага і рабочага актыву. АК організаваць так працу, па падрыхтоўцы кадраў, каб яна стала асноўнай задачай ня толькі парторганізацыі, але і савецкіх, проф. і інш. організацый, і сыстэматычна правяраць вынікі гэтай працы па асобным галінам.

14. Бюро ЦК даручае Акругкому асоба абгаварыць і прапрацаваць пытаньне аб пастаноўцы масавай палітычнай і культ. працы на прадпрыемствах і ў вёсцы (у калгасах, савгасах. сярод беднаты). У першую чаргу парторганізацыя павінна разгарнуць цэлы шэраг новых мэтадаў масавай працы на прадпрыемствах, сыстэматычна асьвятляць перад рабочай масай, батрацтвам, калгасьнікамі ўсе посьпехі і задачы соцыялістычнага будаўніцтва, шырока растлумачваць усе цяжкасьці, іх прычыны і способы перамогі, шырока разгарнуць працу па організацыі ўдарных брыгад на прадпрыемствах, у савгасах, калгасах, рашуча палепшыць працу шэфтаварыстваў, накіроўваючы працу гэтай організацыі на ўсямернае садзейнічаньне колектывізацыі і соцыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі. Адначасова з гэтым партыйным і проф. органам удзяліць значна больш увагі пастаноўцы культурна-масавай працы, узмацніць склад культурных і клюбных работнікаў, а таксама політасьвет. працаўнікоў на вёсцы (хатнікаў, загадчыкаў нардамоў); Акругкому ў бліжэйшы час праверыць становішча ўсіх насьценных і шматтыражных газэт на прадпрыемствах, палепшыць працу сярод рабкораў і селькораў; дабіцца поўнай ліквідацыі няпісьменнасьці сярод рабочых і работніц на працягу гэтага году, організацыі ва ўсіх буйных калгасах клюбаў і чырвоных куткоў. Пытаньне аб пастаноўцы масавай працы паставіць на абгаварэньне ўсіх ячэек на прадпрыемствах і на агульныя рабочыя канфэрэнцыі.

Улічваючы адсутнасьць у Бабруйску прыстасаваных клюбаў, Бюро ЦК даручае СНК і фр. ЦСПСБ абгаварыць пытаньне аб пабудове клюбу на комбінаце.

15. Акругкому абгаварыць пытаньне наконт узмацненьня працы па палепшаньню матар'яльнага і бытавога становішча рабочай масы, як па лініі палепшаньня жыльлёвага будаўніцтва, так і па лініі харчовага забесьпячэньня рабочых-пайнікаў. Асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на палепшаньне пастаноўкі грамадзкага харчаваньня ў Бабруйску (пашырэньне сеткі сталовых, організацыя развозкі гарачага сьнеданьня на прадпрыемствах і г. д.). Акругкому і рабочай коопэрацыі прапрацаваць пытаньне аб організацыі цэлага шэрагу агародных гаспадарак для павялічэньня снабжэньня рабочых гароднінай.

16. Парторганізацыі працягваць рашучую барацьбу з ідэолёгічнымі хістаньнямі з боку асобных партыйцаў, забясьпечыўшы ва ўсіх нізавых ячэйках рашучы адпор права-опортуністычнай ідэолёгіі і прымірэнству і бязьлітасную барацьбу з рэцыдывамі і рэшткамі троцкісцкіх настрояў. Адначасова з гэтым парторганізацыя павінна праводзіць рашучую барацьбу з права-опортуністычным ухілам у практычнай працы асобных організацый і партыйцаў. Неабходна дабіцца такога станов шча, каб праца па рашучай барацьбе з ухіламі ад партыйнай лініі, асабліва на даным этапе з права-опортуністычным ухілам, стала важнейшай штодзённай працай усіх нізавых парторганізацый.

17. Акругкому, Райкомам і ячэйкам прыняць усе неабходныя захады да рашучага разгортваньня самакрытыкі, даючы рашучы адпор усякім спробам зажыму і глушэньня самакрытыкі, рашуча змагаючыся з усякімі спробамі замазваньня і скажэньня лініі партыі і хваравітымі зьявішчамі (склокамі, местніцтвам, п'янствам і інш.), шырока мобілізуючы партыйныя масы на барацьбу з гэтымі зьявішчамі.

18. АК, РК і ячэйкам праводзіць і ў далейшым неаслабную працу па вярбоўцы рабочых, батракоў. с.-г. рабочых у партыю, зьвяртаючы пры гэтым асаблівую ўвагу на якасны падбор у партыю лепшых рабочых перадавікоў, прыкладных на вытворчасьці. Акругкому неабходна дабіцца значнага пасіленьня тэмпу росту за лік работніц, процант якіх у оргазацыі не павялічваецца. На вёсцы неабходна дабівацца значнага пасіленьня тэмпу ўцягненьня ў партыю батракоў і батрачак, с.-г. рабочых і работніц, калгасьнікаў беднякоў і калгасьніц.

19. АК і ўсей парторганізацыі дабіцца ўзмацненьня парткіраўніцтва комсамольскай організацыяй, якое зьяўляецца недастатковым. Аднэй з асноўных задач парт. і комсамольскай організацыі зьяўляецца ўцягненьне комсамольскай масы ў актыўны ўдзел у соцыялістычным будаўніцтве: забясьпечыць самы актыўны ўдзел комсамольскай організацыі ў соц. спаборніцтве, організацыю ўдарных брыгад і выкананьне якасных паказчыкаў, а на вёсцы – самага шырокага ўдзелу комсамолу ў колектывізацыі і соцыялістычнай перабудове сельскае гаспадаркі. Аднačасова з гэтым парторганізацыя павінна аказаць усямерную дапамогу комсамолу ў справе пастаноўкі партыйна-выхаваўчай і політычнай працы, якая зьяўляецца нездавальняючай.

20. Акругкому, Райкомам і ячэйкам рашуча перабудаваць сваю працу ў суадпаведнасьці з задачамі рэконструкцыйнага пэрыяду,—рашуча дамагаючыся пасіленьня тэмпу працы, рэгулярнай і сыстэматычнай праверкі выкананьня дырэктыў і партыйнай лініі з боку нізавых партыйных організацый, савецкіх, проф., гаспадарчых органаў, ні ў якім выпадку не дапускаючы адставаньня партпрацы ад запатрабаваньняў і задач соцыялістычнага будаўніцтва.

21. Акругкому дабіцца рашучага пералому ў галіне правядзеньня нацработы, і ў першую чаргу ў справе беларусізацыі партыйнага актыву, савец-

кага апарату, правядзеньня гэтай працы сярод рабочых мас. Неабходна паставіць гэтае пытаньне на партыйных сходах, пад углом праверкі гэтае працы і высьвятленьня прычын, якія яе тармозяць. Акругкому неабходна абмежаваць найкарацейшым тэрмінам аўладаньне беларускай мовай з боку партактыву і поўную беларусізацыю савецкага апарату, профорганаў і сачыць за пэўным і абавязковым выкананьнем гэтых тэрмінаў. Аднячасова Акругкому неабходна пасіліць абслугоўваньне нацменшасьцяй на роднай мове, як па лініі савецкай, проф., так і па лініі культурнай працы. Парторганізацыі неабходна праводзіць рашучую барацьбу з ухіламі ў справе правядзеньня нацполітыкі, асабліва ў першую чаргу з праявамі нацыянал-дэмократызму, шовінізму і г. д. Акругкому неабходна дабіцца пастаноўкі systэматычнай і глыбокай працы па інтэрнацыянальнаму выхаваньню на прадпрыемствах і ў вёсцы.

22. Парторганізацыі з усёй энэргіяй разгарнуць працу па партасьвеце, як у горадзе, так і на вёсцы падабраць кадр прапагандыстых і кіраўнікоў сеткі партасьветы, забясьпечыць сталае кіраўніцтва з боку АК і РК, асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на ўздым тэорытычных ведаў партыйнага актыву, дабіваючыся ўцягненьня партактыву ў сетку партасьветы, марксыцка-ленінскія гурткі і завочнае навучаньне.

23. ЦК лічыць неабходным зьвярнуць асаблівую ўвагу і забясьпечыць сталую дапамогу вайсковым часьцям, як з боку мясцовых, так і цэнтральных устаноў. Асаблівую ўвагу і дапамогу неабходна ўдзяліць пытаньню палепшаньня жыльлёвых умоў комполітскладу і коопэрацыйнаму абслугоўваньню вайсковых часьцей, Бюро ЦК даручае Белкоопсаюзу і Наркамгандлю пры разьмеркаваньні прадуктаў улічываць запатрабаваньні гарнізону. АК і ўсім мясцовым організацыям аказываць усямерную дапамогу часьцям Чырвонай арміі ў сваёй штодзённай працы.

## Аб рашэньнях Зьезду БелАЗЭТ

*(Пастанова Бюро ЦК КПбБ ад 15-XII 29 г.*

1. Прызнаць, што як у пастановах Беларускага зьезду АЗЭТ, так і ў выступленьнях асобных таварышоў на гэтым зьездзе (Бейлін, Агурскі, Бордзін) маюцца няправільныя, права-апартуністычныя ўстаноўкі, што ў гэтых выступленьнях і пастановах зьезду замазана і скажана клясавая лінія партыі. Гэтыя выступленьні і прынятыя зьездам рэзолюцыі зьявіліся працягам няправільнай устаноўкі і права-опортуністычнай лініі Яўбюро ЦК, якая праводзілася на працягу значнага часу ў пытаньні пераводу яўрэйскіх працоўных мас на вытворчую працу.

У выступленьні т. Буніна на зьездзе АЗЭТ маецца няправільны антымарксыцкі падыход у прыватнасьці ў тым месцы, дзе ён праводзіць паралель становішча дробных таваравытворцаў і гандляроў у капіталістычных краінах з Савецкім Саюзам. Бюро ЦК ацэньвае позыцыю т. Буніна на зьездзе АЗЭТ і пасьля зьезду ў адносінах да правых рашэньняў зьезду, а таксама і меўшых месца на зьездзе выступленьняў, як прымірэнчую.

2. Прыняць да ведама, што фракцыя праўленьня АЗЭТ і Яўбюро ЦК КП(б)Б ужо вынесьці пастанову, рашуча асуджаючую выступленьні і рашэньні на зьездзе АЗЭТ, як права-опортуністычныя. Адначасова Бюро ЦК КП(б)Б адзначае спазьненьне з боку Яўбюро і фракцыі Праўленьня АЗЭТ з ацэнкай гэтых рашэньняў і выступленьняў асобных таварышоў на зьездзе, так як рэагаваньне на іх адбылося толькі пасьля ўскрыцьця гэтых памылак газэтамі („Зьвязда", „Октябрь").

3. Адзначаючы, што работа па выпраўленьні ранейшых скажэньняў клясавай лініі (чыстка сампромкоопэрацыі, а асабліва с.-г. колектываў ад чуждых нэпманскіх элемэнтаў) да гэтага часу праходзяць нездавальняюча, Бюро ЦК падкрэсьлівае, што асноўнай задачай Яўбюро і ўсіх іншых організацый зьяўляецца энэргічнае і рашучае правядзеньне пастаноў Пленуму і Бюро ЦК КП(б)Б па выпраўленьні права-опортуністычных памылак усіх організацый, зьвязаных з абслугоўваньнем працоўных яўрэйскіх мас. Даручыць Белсампромкоопэрацыі, калгассаюзу і Камзэту ў месячны тэрмін далажыць ЦК аб выніках чысткі арцеляй і сел.-гасп. колектываў ад нэпманскіх і капіталістычных элемэнтаў.

4. Даручыць рэдакцыям газэт высьветліць гэтае пытаньне ў друку ў суадпаведнасьці з даным рашэньнем Бюро ЦК КП(б)Б.

## Аб выніках ліквідацыі пратэрміновак па сел.-гасп. крэдыту і мобілізацыі сродкаў насельніцтва

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 11-XII 29 г.)*

1. Адзначыць нездавальняючае выкананьне дырэктыў ЦК па ліквідацыі пратэрміновак, спагнаньню пазык з кулакоў і прыцягненьню сродкаў насельніцтва ў сыстэму с.-г. крэдыту. Сыстэма с.-г. крэдыту, партыйныя і савецкія організацыі не праявілі належнай ін'цыятывы і не правялі патрэбнай працы, каб забясьпечыць выкананьне заданьняў па ліквідацыі пратэрміновак і ўцягненьню ў сыстэму крэдыту сродкаў самога насельніцтва. Полацкі АК на працягу году ні разу ня ставіў на абгаварэньне АК пытаньняў барацьбы з пратэрміноўкамі і мобілізацыі сродкаў насельніцтва, Бабруйскі АК з сакавіка мес. і Аршанскі таксама да апошняга часу не абгаварвалі ў сябе пытаньня аб мобілізацыі сродкаў насельніцтва, чаму па гэтым акругам асабліва нездавальняюча выкананы дырэктывы ЦК.

2. Слаба праводзіцца праца па організацыі пры крэдытных т-вах груп беднаты і прыцягненьню іх

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

Орган ЦК КП(б)Б.

№ 1 | 15 студзеня 1930 г. | № 1

## АБ ЗАДАЧАХ ЧАСОПІСІ

Пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі краіны дае такія маштабы і тэмпы сацыялістычнага будаўніцтва прамысловасьці і калектывізацыі сельскай гаспадаркі, якіх сапраўды ніколі не бачыла гісторыя.

Разгортаваньне сацыялістычнага будаўніцтва, паступовы наступ сацыялістычных элемэнтаў па ўсяму фронту выклікае валічэзную палітычную і творчую актыўнасьць рабочае клясы і бядняцка-серадняцкай масы вёскі. З усяго гэтага вынікае неабходнасьць па новаму ставіць партыйна-масавую работу, усё гэта ставіць пытаньне аб зьмене формы і мэтадаў партыйнай работы. Шэраг новых вельмі складаных пытаньняў, як у галіне партыйнага будаўніцтва, так і ў галіне партыйнага кіраўніцтва, устаюць перад партыяй ўва ўсю шырыню ў сувязі з асаблівасьцямі рэканструкцыйнага пэрыяду. Партыйныя арганізацыі КП(б)Б пад кіраўніцтвам ЦК праводзяць гэтую работу, але нам неабходна мець абагульваньне вопыту партыйнай работы ва ўсіх яе галінах, неабходна паказваць добрыя прыклады новых форм работы з мэтай перанясеньня гэтага вопыту на іншыя раённыя і акруговыя арганізацыі, нам неабходна з пункту погляду агульна-палітычных задач, якія стаяць перад партыяй тэорэтычна абагульваць увесь вопыт партыйнай работы.

Стварэньне часопісі, якая-басьвятляла пытаньня практыкі і тэорыі партыйнай работы, зьяўляецца адным з практычных мерапрыемстваў ЦК КП(б)Б па яшчэ большаму ўзмацненьню і паглыбленьню кіраўніцтва ўсёй партыйнай работы.

Выходзячы з гэтага, часопісь „Партыйны Работнік“ павінна быць арганізатарам і кіраўніком партыйнай думкі ў галіне партыйнага будаўніцтва, яна павінна прапрацоўваць праблемы парт. будаўніцтва і партыйнай работы па ўсіх галінах: арганізацыйнай, прапагандысцкай, масава-агітацыйнай, працы сярод жанчын, кіраўніцтва комсамолам і г. д. Часоіпсь павінна даваць кіруючыя паказаньні аб мэтадах і формах партыйнай работы, вучыць на добрых прыкладах партработы як належыць працаваць,

масьці адмаўленьня прымаць продукцыйнаю жывёлу. Зараз-жа шырока разгарнуць працу, тэрмінова выехаўшы на месцы, па скарыстаньні сродкаў калгасаў і па збору сродкаў сярод насельніцтва на набыцьцё патрэбнай колькасьці жывёлы для ўсіх калгасаў. Калгассаюзы павінны ў першую чаргу выкарыстоўваць унутраныя магчымасьці для набыцьця прадукц. жывёлы, а ня ставіць выключную стаўку на крэдыт.

3. СНК даць паказаньні сельсаветам і РВК аб узмацненьніназіраньня за тым, каб гаспадаркі не прадавалі жывёлы, набытай за крэдытныя сродкі і якія яшчэ ня зьвернуты.

4. Наркамгандлю, фракцыям АВК і РВК рашуча ўзмацніць барацьбу з прыватнымі загатаўцелямі, з тыйным убоем і г. д.

# Аб камплектаваньні студэнтамі і пролетарызацыі прафтэхнічных установ БССР у 1929-30 годзе

*(Пастанова Сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 25-XI 29 г.)*

Заслухаўшы даклад НКА аб камлектаваньні студэнтамі і пралетарызацыі профтэхнічных установ БССР у 1929—30 г. Сакратарыят ЦК канстатуе:

1. Стабілізацыю ў 1929—30 г. у параўнаньні з мінулым годам ліку падаўшых заявы для паступленьня ў профтэхнічныя навучальныя ўстановы (пры некаторым зьмяншэньні заяў ад сялян і павялічэньні ад рабочых), ня гледзячы на павялічэньне норм прыёму, што выклікала неабходнасьць дадатковай мобілізацыі рабочых. Разам з гэтым наглядаецца нізкая акадэмічная падрыхтаванасьць значнай колькасьці рабочых і сялян у параўнаньні з мінулым годам.

2. Такое становішча зьяўляецца вынікам неадпаведнасьці сыстэмы народнае асьветы ў пэўных яе зьвеньнях задачам падрыхтоўкі рабочых, батракоў і бяднейшых сялян для паступленьня іх у ВНУ. Калі гэта перашкода паслабляецца для рабочых арганізацыяй вячэрніх школ і курсаў для падрыхтоўкі у ВНУ, то для сялянства і гэтыя часовыя сурагатныя мерапрыемствы зусім адсутнічаюць. Наглядаецца абсалютны рост рабочых, жадаючых паступіць у ВНУ пры паніжэньні іх акадэмічнай падрыхтаванасьці і агульнае зьніжэньне ліку сялян пры яшчэ большай непадрыхтаванасьці.

3. Заданьне ЦК у адносіне да курыяльнай сыстэмы па курыі рабочых выканана з павялічэньнем, а па курыі сялян ёсьць значны недабор, чаму і маецца некаторае недавыкананьне агульнай нормы прыёму.

4. Вельмі нязначнае павялічэньне заяў ад рабочых і памяншэньне ад сялян па тэхнікумах (за выключэньнем пэдтэхнікумаў, дзе заявы ад сялян павялічыліся) і агульная стабілізацыя колькасьці падаўшых заявы для паступленьня ў тэхнікумы пры значным павялічэньні норм прыёму, што тлумачыцца разрывам паміж тэмпам разгортваньня профтэхнічнай асьветы і 7-годак, асабліва на вёсцы, дзе тэмп разгортваньня іх зусім нездавальняючы.

5. Зьмяншэньне ліку партыйцаў і нязначнае павялічэньне ліку камсамольцаў, а таксама некаторае зьмяншэньне ліку жанчын пры прыёме гэтага году, як у ВНУ, гэтак і ў тэхнікумах.

На падставе гэтага, Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе НКА наступнае:

1. Тэрмінова перагледзець сыстэму народнай асьветы, маючы на ўвазе забясьпечаньне пролетарызацыі ВНУ ў адпаведнасьці з пастановай Саюзнага ўраду аб адзінстве проф.-тэхнічнай асьветы.

2. Ухваліць мерапрыемствы, ужытыя НКА, Прэзыдыумам ЦСПСБ і Цэнтр. Бюро Пролетстуду аб адчыненьні падрыхтоўчых курсаў для паступленьня ў ВНУ і тэхнікумы рабочых, батракоў, бяднейшага сялянства і жанчын.

3. Лічыць неабходным да атрыманьня вынікаў рэорганізацыі сыстэмы народнае асьветы яшчэ больш пашырыць сетку існуючых вячэрніх рабфакаў, пачынаючы з наступнага навучальнага году, і ўкамплектаваць усе курсы вячэрніх рабфакаў, дапусьціўшы прыём на іх ня толькі рабочых, але і дзяцей рабочых.

4. У мэтах удасканаленьня пытаньня социяльных курый, прапанаваць НКА падаць проэкт правіл, рэгулюючых прыём у навучальныя ўстановы рабочых, сялян і іх дзяцей.

5. Пры прыёме ў наступным навучальным годзе сяброў партыі, якія будуць паступаць у ВНУ і тэхнікумы, прымаць іх па курыі рабочых.

6. У мэтах узмацненьня комсамольскага і партыйнага ядра ў ВНУ і тэхнікумах, асабліва пэдагогічных навучальных установах, прапанаваць акруговым камітэтам партыі і ЛКСМБ пры прыёме ў наступным навучальным годзе зрабіць мобілізацыю ня менш 300 партыйцаў і 1000 комсамольцаў.

7. Адзначаючы разрыў паміж процантам забясьпечаньня студэнтаў стыпэндыямі і процантам пролетарскага асяродку ў навучальных установах, што вядзе фактычна да значнага адсеву на працягу году і што яшчэ больш абумоўліваецца дрэннымі жыльлёвымі і бытавымі ўмовамі студэнцтва, прапанаваць СНК з будучага году забясьпечыць большы процант студэнтаў стыпэндыямі і палепшыць жыльлёвыя ўмовы.

8. Прапанаваць СНК забясьпечыць неабходнымі сродкамі організацыю ў будучым годзе курсаў для падрыхтоўкі ў ВНУ і тэхнікумы рабочых, батракоў і бяднейшага сялянства.

9. Лічыць неабходным пры разгортваньні 7-годак асабліва на вёсцы забясьпечыць уцягненьне ў іх батракоў, калгасьнікаў і бяднейшых сялян, для чаго прапанаваць СНК павялічыць водпуск сродкаў для забясьпечаньня беднаты.

10. Прапанаваць СНК організаваць у гэтым годзе курсы работніц для падрыхтоўкі на рабфакі на 90 чал.

11. НКА распрацаваць мерапрыемствы аб спэцыялізацыі рабфакаў і аб забесьпячэньні большага камплектаваньня ВНУ БССР канчаючымі рабфакі БССР.

Адказныя редактары: О. Канакоцін. А. Гаруновіч.



**„Веснi“ ЦК КП(б)Б і бюлетэнь АПАД „У дапамогу партвучобе“ рэарганізаваны ў адну партыйную часопісь „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“**

# АДЧЫНЕНА ПАДПІСКА на 1930 год

# НА „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

**Орган ЦК КП(б)Б.**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
Менск, вул. Карла Маркса, 14. ЦК КП(б)Б. Рэдакцыя часопісі „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“

**КОШТ АСОБНАГА НУМАРУ**
**15 к.**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | |
|---|---|
| На 1 месяц | 25 к. |
| „ 3 м-цы | 75 к. |
| „ 6 м-цаў | 1 р. 50 к. |
| „ 1 год | 2 р. 75 к. |

**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:**
Бюро падпіскі Белдзяржвыдавецтва—Менск, Пляц Волі, № 5, Аддзел падпіскі Дзяржвыдавецтва РСФСР — Менск, Савецкая, 54, кантора газэты „Зьвязда“ і ўсе паштовыя аддзяленьні і пісьманосцы.

**Партыйныя і камсамольскія ячэйкі, распаўсюджвайце часопісь „ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“**

# ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК

ОРГАН ЦККП(б)Б

**АБАГУЛЬВАЕ** вопыт партыйнай работы, зьмяшчае кіраўнічыя артыкулы па партыйным будаўніцтве і пытаньнях гаспадарчай і культурнай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**ВЫВУЧАЕ** вопыт і практыку партыйнай работы на мясцох, асьвятляе работу нізавых партыйных арганізацый, абгаварвае мэтады і задачы партыйнай работы, высьвятляе дадатны вопыт работы і пераносіць яго ва ўсе ячэйкі КП(б)Б.

**ДАЕ** ўсе неабходныя для партыйнага работніка, агітатара і прапагандыстага матар'ялы—факты, лічбы па пытаньнях бягучай працы.

**ДАПАМАГАЕ** ў практычнай рабоце нізавым кадрам партработнікаў, сакратаром і Агітпропам, членам бюро ячэек, кіраўнікам парт. асьветы, групоргам, цэхоргам, зьвеноргам і інш.

**АСЬВЯТЛЯЕ** чарговыя пытаньні камсамольскай работы з пункту гледжаньня партыйнага кіраўніцтва.

**СТАВІЦЬ** на абгаварэньне новыя пытаньні партыйнай работы і кіраўніцтва, высьвятляе новыя формы партыйнай і масавай работы ў пэрыяд сацыялістычнай рэканструкцыі.

**РЭГУЛЯРНА** зьмяшчае крытыку і бібліяграфію літаратуры па пытаньнях партыйнага будаўніцтва і масавай работы ў горадзе і вёсцы.

**ЗЬМЯШЧАЕ** партыйныя дырэктывы па важнейшых пытаньнях.

**Кожная гарадзкая і вясковая партыйная і камсамольская ячэйка, кожны агітатар, прапагандысты, цэхавы, групавы і зьвенавы арганізатар, кожны партыйны актывісты—павінен падпісацца на часопісь**

**„ПАРТЫЙНЫ РАБОТНІК“.**

Цана 15 кап.